Бібліятэка “Беларускі калегіюм”

Сяргей Дубавец

# Errata

*як што называецца,*
*так і адбываецца*

Мінск
Выдавец І. П. Логвінаў
2013

УДК 881.161.3
ББК 84 (4 Беи)
Д79

Серыя заснавана ў 2012 г.

*Бібліятэка “Беларускі калегіюм” рэпрэзентуе тэксты вядомых беларускіх інтэлектуалаў. Гэта эсэ, аналітыка, даследаванні і дыялогі пра Беларусь, грамадства, культуру і час*

**Дубавец, С.**
**Д79** Errata: як што называецца, так і адбываецца / Сяргей Дубавец. — Мінск : І. П. Логвінаў, 2013. — 134 с. — (Бібліятэка “Беларускі калегіюм”).
ISBN 978-985-562-068-7.

Аўтар разглядае абсурдныя павароты беларускага лёсу, якія кожнага разу пачынаюцца з падмены словаў. Варта, напрыклад, вайсковую падрыхтоўку назваць ваеннай, як гэтая вузкаспэцыяльная справа, датычная выключна армейскага кантынгенту, ператвараецца ва ўсенародную падрыхтоўку да вайны, якая тычыцца кожнага і ўсіх. Падмена назваў і сэнсаў — скразная тэма кнігі.

УДК 881.161.3
ББК 84 (4 Беи)

**ISBN 978-985-562-068-7**

## ЗМЕСТ

### СЛОВЫ



### МОВА



### НАРОД

# СЛОВЫ

## Як адзначыць юбілей

Гаворка не пра той «юбілей», які асацыюецца з пампэзным сходам, нуднымі прамовамі і беспрасьветным банкетам. І не пра той, якім называюць гадавіну радзімай арганізацыі. Ані толку, ані сэнсу ўва ўсім гэтым няма. Гаворка пра юбілей, якім ён быў задуманы спрадвеку — як прарыў, як штурм, як рэвалюцыя думкі.

Клясычны юбілей — крокам 25 гадоў — гэта час зьмены пакаленьняў і эпох. Сёньняшнім падлеткам даводзіцца па-новаму тлумачыць, чаму той ці іншы геній — геній. Дэфініцыі колішніх даведнікаў пра «заслужанага стаханаўца» перастаюць быць агульназразумелымі. Таму юбілей — гэта найперш пераацэнка каштоўнасьцяў. Скажам, калі 25 гадоў таму абсалютна яснае для ўсіх «народны паэт Беларусі» сёньня яшчэ прымаецца большасьцю па інэрцыі, дык далей праз 25 гадоў, хутчэй за ўсё, спатрэбяцца іншыя словы, каб вызначыць вартасьць асобы і творцы.

Вось двум клясыкам беларускай літаратуры — Янку Купалу і Якубу Коласу — па 125 гадоў. Зь дзяцінства ў нашай сьвядомасьці яны так і ідуць парай, дзякуючы таму, што нарадзіліся ў адзін год. І таму, вядома, што сталі падстаўовымі імёнамі нацыянальнай культуры. «Спадчыну» і «Мой родны кут» ведаюць усе. Хоць насамрэч Купала і Колас — дзьве розныя, бадай, супрацьлеглыя паэтычныя стыхіі. Што і зрабіла даволі папулярнай гульню, калі зачытваюцца ня самыя вядомыя іхнія вершы, і публіка разгадвае — каторы чый. І чаму.

Клясычны юбілей — як рубеж для пераацэнкі і пацьверджаньня вартасьці творцы ў новым часе. Хто не прайшоў такога выпрабаваньня, альбо каго мы самі ня здолелі правесьці праз гэты іспыт часам і актуалізаваць у сёньняшнім дні, той альбо прападае, альбо застаецца ў пашане толькі па інэрцыі. Каб так не было, да юбілею павінны зьявіцца такія літаратурныя творы і вечарыны, тэатральныя пастаноўкі і жывапісныя палотны, у якіх уся назапашаная энэргія мінулага часу будзе скіраваная на тое, каб ажывіць імя і творы клясыка ў сучаснасьці. Вось дзеля чаго задуманы юбілей.

25 гадоў таму мы, студэнты, адзначалі 100-гадовы юбілей Янкі Купалы. Не для заліку, а для сябе. І форма была абраная зусім не акадэмічная — сэанс сьпірытызму. Дух паэта быў пасьпяхова намі выкліканы і адказаў на галоўнае для нас пытаньне: хто яго, Янку Купалу, у маскоўскім гатэлі ўлетку 1942 г. — забіў? Дух назваў канкрэтнае імя і прозьвішча — Мірольд Камінскі. Гэты факт сьпірытычнага «дазнаньня» і сам загадкавы сэанс пакінулі ўва ўсіх нас моцнае ўражаньне на ўсё жыцьцё. Праўда, за прамінулы час мне так і не ўдалося адшукаць гэтага зламысьніка Камінскага ані ў кнігах, ані ў архівах, ані ў інтэрнэце. Што не адмяняе далейшых пошукаў, бо таямніца гібелі Купалы застаецца нераскрытай.

Коласаў юбілей прыпадае на 3 лістапада. У беларускім народным календары сёлета гэта — бацькоўская субота, Зьмітраўскія дзяды. Паводле старой традыцыі ў такі дзень нашы продкі зьбіраліся ўсёй сям'ёй за сталом і гаварылі толькі пра памерлых і толькі з памерлымі (!). Так і заклікалі: «Продкі, прыходзьце да нас». Адбываўся самы сапраўдны сьпірытычны сэанс. Пра каго яшчэ памяталі, той нібы прысутнічаў за сталом разам з жывымі, пра каго забывалі, той страчваўся з памяці роду назаўжды.

Выходзіць, адзначаць юбілеі такім чынам — калі выклікаеш на размову духаў продкаў — цалкам беларуская традыцыя, хоць і не ў такім экзальтаваным выглядзе — з завешанымі шторамі і сподкам, які дрогка соваецца пад пальцамі ў сьвятле сьвечак. Але зьмена зьнешняга антуражу можа тлумачыцца толькі тым, што мы ўсе пераехалі зь вёскі ў горад.

Многіх насьцярожвае само слова «сьпірытызм», кагосьці палохае сам гэты непрадказальны момант размовы з духам, з «тым сьветам». Некаму бракуе дакладнага матэматычнага вытлумачэньня таго, што адбываецца на кончыках тваіх пальцаў. Але нічога страшнага тут няма. Прынамсі, нічога больш страшнага, чым наша галоўнае няведаньне — што такое жыцьцё, што такое розум, куды мы ўсе адправімся «пасьля»...

Мяне тут цікавіць іншае. Пра што я спытаўся б у Якуба Коласа на сьпірытычным сэансе сёньня, у дзень ягонага юбілею? У мяне такое адчуваньне, што мы ўжо ведаем амаль усё з таго, што ён мог бы нам сказаць пра сябе. І таму пытаньне нашмат цікавейшае — што ён мог бы нам распавесьці пра нас? Мудры дзядзька, геніяльны паэт, які са свайго паралельнага сьвету ўсё бачыць і ўсё чуе. А раптам ва ўсіх нашых праблем ёсьць нейкая адна, зусім незаўважная прычына, якой мы папросту не надаем значэньня? Таму...

«Дух Канстанціна Міцкевіча, прыйдзі, калі ласка, да нас», — кажа каменным голасам мадэратар. (Канстанцін Міцкевіч — гэта пашпартнае імя паэта.) Стаіць поўная трывогі цішыня, толькі кнаты патрэскваюць у васковых сьвечках. Сподак скранаецца зь мейсца і пачынае рабіць кругі. «Д-о-б-р-ы в-е-ч-а-р». Ён прыйшоў...

## Вясёлыя сьвяты і п’яныя празьнікі

Гэта было на адным зь менскіх сьвятаў гораду. Мы стаялі на мосьце празь Сьвіслач, а міма па праспэкце ў начной цемры пёрла чалавечая маса, пакідаючы па сабе гарачы дух алькаголю. Салют яны ўжо паглядзелі і цяпер рушылі назад неяк надта мэтанакіравана, хоць мы ведалі, што сьвята скончылася і больш нічога ня будзе. Я спытаўся тады ў дзядзькі з натоўпу, які прысеў завязаць матузок: куды ідуць усе гэтыя людзі? Дзядзька выпрастаўся, расплыўся ў бяздумнай п’янаватай усьмешцы і прамовіў: «Куда-та ўдаль... »

На п’янства трэба глядзець цьвяроза, па-філязофску. Яно ня робіць людзей разумнымі ці дурнымі, дужымі ці слабымі, добрымі ці злымі. Яно толькі актывізуе тое, што ў нас ужо ёсьць — розум і дурасьць, дабрыню ці злосьць. Тое самае — на масавых гуляньнях. Спрачацца пра ролю п’янства на іх — тое самае, што адстойваць тэмпэратуру паветра 25 градусаў супраць 28-мі.

Агульнавядома, што геніяльныя вершы ня пішуцца на п’яную галаву, але забіраюць у паэта столькі энэргіі, што адзіным паратункам здаюцца віно й нірвана. Алькаголь іншым разам упрыгожвае каханьне. Часта віно актывізуе чалавека ў рамесьніцкай працы. Калісьці даўно на нашым сьлясарным участку працаваў такі Міша, непрыкметны шэры дзядзечка. Перад працай ён выпіваў бутэльку чарніла і яшчэ адну — у працэсе. І адбывалася мэтамарфоза! Міша станавіўся Міхалам Якаўлевічам, героем сацыялістычнай працы, алькаголь рабіў ягоныя рукі залатымі, а над геніем напільніка схілялася ўсё канструктарскае бюро. Артыкул пра Якаўлевіча быў у Беларускай савецкай энцыкляпэдыі, але ўсё гэта не замінала Мішу пачынаць кожны працоўны дзень з бутэлькі вэрмуту за рубель дваццаць дзьве.

Зь іншага боку, віно актывізуе клясычныя беларускія крыміналы: заснуў п’яны зь непагашанай цыгарэтай — згарэла хата; у алькагольным угары засек жонку (ці — яна яго) сякерай

(гэтую кухонную клясыку ў народзе называюць «вайна пасярод гаўна»); напіўся — упаў з балькона... Ну і шмат усяго падобнага.

У кожным разе, гаворка ідзе пра тое, што ў нас ёсьць і без алькаголя. Калі алькаголь пачынае кіраваць табою, значыць ніякіх іншых «цэнтраў сілы» ў табе папросту няма, але ці ж алькаголь у тым вінаваты?

Выпіўка на сьвята — даўняя традыцыя. Розьніца ў тым, што нашы гуляньні — гэта па сутнасьці ня сьвяты, а празьнікі. І паходзяць яны не ад сьвятасьці, а ад празнасьці. Мала што ёсьць брыдчэйшага за п’янства ад празнасьці, ад бяздумства і цемнаты. Але й тут само п’янства  толькі актывізуе дадзенасьць, тое, што ў нас ёсьць і безь яго. Страшны п’яны натоўп, але ён сьпярша натоўп, а пасьля ўжо п’яны.

Неэстэтычна і непраўдзіва гучыць выраз «п’яное сьвята», бо сьвята можа быць толькі вясёлым, калі ўвесь народ перажывае эўфарыю яднаньня. Нармальна гучыць — «п’яны празьнік», дзе атамізаваны натоўп бяздумна рушыць «куда-та ўдаль».

## Здароўе і сьмерць

Вялікія сэнсы хаваюцца часта ў дробных і незаўважных на першы погляд падменах.

«Дазвольце пажадаць вам, у першую вочарадзь, здароўя!» «Сама глаўна — здароўе!» «Напярэдадні Новага году беларусы традыцыйна жадаюць адзін аднаму здароўя, што ўжо стала нашай нацыянальнай асаблівасьцю». «Было б здароўе, а ўсё астатняе прыложыцца»...

Перагорнутая з ног на галаву лёгіка і сапраўды стала нашай «асаблівасьцю». А таму нічога асаблівага да гэтага самага «здароўя» ў нас і не прыкладаецца. Бо само па сабе здароўе — гэта як канечны пункт, вяршыня вяршынь, апошняя рыса, за якой — сьмерць. Жадаючы здароўя, мы жадаем адно аднаму не жыцьця, а ўсяго толькі дажываньня. Нездарма найбольш наракаюць на здароўе вясковыя бабулькі: «Усё цяпер, унучак, у нас ёсьць, толькі б жыць ды жыць, але ж во — здароўя няма».

У народнай традыцыі сустракаем — будзь здаровы, як лёд калядовы. Здаровы — як дуб. Здаровы — кажуць на вялікага мардатага дзядзьку без асаблівых прыкметаў інтэлекту. Таму ў знакамітай песьні Адама Русака пажаданьне здароўя выказваецца далікатна, каб не абразіць, — «бывайце здаровы». Гэта значыць літаральна — хоць бы час ад часу не хварэйце.

Калі б мы ўмелі падслухаць перадднавагоднія пажаданьні дваравых катоў ці сабак на выгуле, мы абавязкова пачулі б гэтае самае: «у першую вочарадзь»... «сама глаўна»... «а ўсё астатняе прыложыцца». Толькі ж тым чалавек і адрозьніваецца ад жывёлы, што яму здароўе патрэбнае не само па сабе, а — ДЛЯ ЧАГОСЬЦІ. Для таго якраз, чаго мы і мусілі б адзін аднаму жадаць на сьвяты. Бо інакш выглядае, што нам у гэтым жыцьці нічога ня трэба, «нас і тут нядрэнна кормяць».

За савецкім часам на паштоўках людзі пісалі адзін аднаму стандартную трыяду: посьпехаў у працы, шчасьця ў асабістым жыцьці і здароўя — моцнага маладым і добрага старым. Сёньня якія там посьпехі ў працы?! І шчасьце — такое перакручанае праз мясарубку тэлевізійных сэрыялаў і ток-шоў. Вось і засталося адно здароўе. Выходзіць, мы страцілі нават тую савецкую ілюзію, што можам самі быць творцамі свайго шчасьця, дабрабыту, актыўнымі ўдзельнікамі свайго ўласнага лёсу.

Дзіўна, што людзі ў масе сваёй не жадаюць адзін аднаму, каб нарадзіліся дзеці, каб пасадзілася дрэва, каб напісалася кніга, каб зарабілася болей грошай. Каб вандроўніку была ўдача ў дарозе, а агародніку каб спрыяла надвор'е. Каб ва ўсіх нашых задумах нам быў посьпех. Не жадаем, каб у жыцьці стала болей праўды і свабоды. Наадварот. У параўнаньні з савецкім часам ужо без той унутранай сарамлівасьці гатовыя ледзьве ня з гонарам заяўляць: ад нас нічога не залежыць, галоўнае не як прагаласуем, а як падлічаць. «Дзякуючы» тэлевізару, наша свабода волевыяўленьня і наша праўдалюбства зайшлі ў тупік нашае сьмеласьці казаць пра сваё рабства як пра непарушную дадзенасьць. Пры гэтым чым далей, тым больш бессаромнымі і безвыходнымі робяцца такія шчыраваньні.

Жадаю вам добра паспаць, смачна пад'есьці, лёгка схадзіць... Адным словам, здароўя.

Не магу пазбыцца думкі, што гэта ўсё не само сабой так адбываецца, а што гэта хтосьці наўмысна трымае цэлую нацыю маладых душою і целам, адукаваных, таленавітых і амбіцыйных людзей на стойлавым утрыманьні, дзе самамэтаю робіцца добры харч і крэпкі сон. І толькі адганю ад сябе гэтую думку, як зноў аднекуль данясецца, што «сама глаўна» і што «ў першую вочарадзь», і яшчэ, і яшчэ — што гэта для нас такая важная мэта, самая важная на сьвеце і ў жыцьці, што хай гэты Новы год стане для нас цэлым годам здароўя. Ня годам аховы зароўя, ня годам мэдыцыны ці фізкультуры. Не здароўя для руху, для поступу і для посьпеху. А здароўя — самога па сабе, для сябе, як канцавога пункту, як вяршыні вяршынь, як апошняе рысы, за якой — сьмерць.

## Гэта — сьвятое

Неяк «Наша Ніва» вынесла на першую старонку камэнтар чытача, даўшы яму інтрыгоўную назву: «Што для Лукашэнкі сьвятое — насельніцтва ці валюта?» Сутнасьць кароткай рэплікі ў тым, што раней прэзыдэнт казаў «насельніцтва — гэта сьвятое», а цяпер кажа «золатавалютны запас — гэта сьвятое».

Першае другога, вядома, не адмяняе. Ня тое, што ў іншых выпадках, калі аднойчы згаданы пэрсанаж кажа «саюзная дзяржава — гэта сьвятое», а пасьля «незалежнасьць — гэта самае дарагое і сьвятое, што можа быць у нашага чалавека». А пасьля зноў — «пытаньні абароназдольнасьці саюзнай дзяржавы — гэта сьвятое»...

Справа ўсяго толькі ў дэвальвацыі слова. Сьвятое — ніколі да канца не спазнанае, а таму найвышэйшае. Яно кіруе намі, а ня мы ім. Мы можам толькі верыць у яго. Ад гэтага залежыць, ці будзе ў нашым жыцьці высокі сэнс, ці не: дзень прайшоў — ну й Бог зь ім.

Першапачаткова сьвятое — зьвязанае з Богам і боскасьцю, а ў шырэйшым сэнсе — з найвышэйшым роўнем высакароднства й маральнае чысьціні: сьвятая мэта, сьвятая праўда, сьвяты абавязак, сьвятая свабода. Сьвятое абавязкова бязгрэшнае і не датычнае ні да якога зла. Таму ні насельніцтва, ні золата, ні пытаньні абароназдольнасьці сьвятымі быць ня могуць, як і шмат чаго іншага.

Аднойчы на беларускай мяжы памежнік аглядаў багажнік маёй машыны. «А гэта што?» — паказаў ён на прыладу для барбэкю. «Барбэкю», — адказаў я. «А-а, — са смакам усьміхнуўся памежнік, — барбэкю гэта сьвятое».

## Баявік ці гадзіньнікавы майстар

Баявік памёр. Знакі часу ў сьвеце абсурду пералеглі іншым парадкам. Яшчэ працягвае адстрэльвацца ў афганскіх гарах таліб, яшчэ ўстае на месцы кожнага забітага новы чачэнскі сэпаратыст, яшчэ заражае «касам» падлетак з арганізацыі Хамас... Але назаўсёды памёр станоўчы зьмест гэтага слова — «баявік».

А яшчэ да вайны баявік быў толькі станоўчым узорам для савецкіх падлеткаў. Гэтым словам называлі калгасы і арцелі. У архіве мне патрапілася гісторыя нейкага Язэпа Сапешкі з вёскі Шастакі Капыльскага раёну. Працаваў Сапешка гадзіньнікавым майстрам у арцелі «Чырвоны Баявік». На Каляды ў 1937 г. яго забрала НКУС. А праз два месяцы ён быў расстраляны ў Менскай турме як польскі шпіён.

Мабыць заўсёды, калі ўлада належыць баевікам, гадзіньнікавыя майстры аўтаматычна ператвараюцца ў шпіёнаў. Як тады, да вайны, калі слова «баявік» было адзнакай доблесьці і славы. І ўся моладзь краіны саветаў расла з затоенай632 мараю — стаць чырвонымі баевікамі.

Скажаце, пры чым тут талібы і шахіды? А ўспомніце Куляшоўскую «Баляду аб камсамольскім білеце». Памятаеце, там ворагжандар дакурыў папяросу і кажа камсамольцу: «Жыць застанесься, жыцьцё даражэй». А камсамолец адказвае: а ні халеры, не даражэй, «хай лепей сэрца мне спаліць сьвінец».

Цана жыцьця — мера цывілізацыйная. Калі ўсё наша тут і цяпер, мы аўтаматычна ператвараемся ў гадзіньнікавых майстроў, якія ўдасканальваюць мэханізм сваёй цывілізацыі. А калі не... То і не.

Людзі, якія выпраўляюцца з поясам шахіда на гарадзкі рынак, таксама пераканаными, што жыцьцё — не даражэй. Толькі не кажыце мне, што наш камсамолец харошы і трапіў у лапы жандараў адно з-за свайго камсамольскага білета. Ясна, што плянаваў маладагвардзеец слаўны подзьвіг-тэракт дзе-небудзь на чы-

гуначных рэйках або складах. Ну, не атрымалася. Але пытаньне ня ў гэтым.

Дык усё ж — даражэй ці не даражэй? Жыцьцё. Вам — як? Па-рознаму? А камсамольцу не даражэй зусім паводле той самай схемы, што і шахіду. Але шахід ведае, куды ён ідзе і што будзе зь ім заўтра. А камсамолец? Хіба савецкая ідэалёгія абяцала яму які-небудзь працяг?

Абяцала. «Подвиг народа бессмертен», «Памяці герояў жыць у вяках», «Ніхто не забыты, нішто не забыта»... Чым не працяг? Урэшце, ніхто ж ня ведае, што там далей, адкуль мы прыйшлі і куды сыдзем. Галоўнае — верыць. І што з гэтага вынікае? А тое, што савецкая ідэалёгія была рэлігіяй — вельмі маладой, агрэсіўнай і вельмі блізкай да чалавека. Яна яму амаль што матэрыяльна давала «памацаць» загробны працяг. Глядзі, калі ты загінеш героем, то ўсе гэтыя людзі вакол цябе, і іх дзеці і ўнукі-праўнукі будуць заўсёды славіць цябе ў сваіх думках і песьнях. Чым не прагматычны варыянт жаданае вечнасьці?

Фашысцкая ідэалёгія таксама імкнулася стаць новай рэлігіяй — яшчэ больш маладой і агрэсіўнай. Яны з савецкай нібы перацягвалі канат — як Гітлер і Сталін — імкнучыся пераўзысьці адна адну ў бесчалавечнасьці. Калі немцы ўвайшлі ў Беларусь, яны пачалі не са спаленьня вёсак, а з эксгумацыі масавых пахаваньняў сталінскіх ахвяр. Маўляў, вось нам індульгенцыя на вынішчэньне старых, жанчын і дзяцей. Калі яны самі са сваімі — так, дык у нас рукі і пагатоў разьвязаныя.

У Беларусі сёньня шмат судзяць за палітыку. Няважна, што палітыка ў пратаколах называецца дробным хуліганствам і брыдкаслоўем. Усе ўсё разумеюць. Як разумелі ўсе ўсё і пра «польскі шпіянаж» таго гадзіньнікавага майстра з-пад Капыля. Але калі наша ўлада афіцыйна дэкляруе сябе як пераемніца слаўных сталінскіх баевікоў, дык хто тады на лаўцы падсудных? Вось што галоўнае. Баявік ці гадзіньнікавы майстар? Каб разабрацца ў сытуацыі, дастаткова вырашыць гэтую дылему і пагадзіцца, што вэрдыкт гуманнага суда заўсёды павінен быць на баку другога.

## Антыблогер

Слова «блог» мне не спадабалася зь першага разу. Прычына, вядома ж, ня ў блогу, а ўва мне. І яшчэ, можа быць, у нашым кутку Эўропы, дзе многія international-прыдумкі натыкаюцца на нашу спэцыфічную мядзьведжую дрымучасьць. Скажам, па-літоўску blog — blogas, што значыць — благі, кепскі, дрэнны. Па-расейску — «плохой». Дый гучаньне якое?! «Блох».

Але галоўнае ня ў слове й гучаньні, а ў жанры.

Ты колькі гадоў пішаш для інтэрнэту артыкулы, эсэ, занатоўкі, не асабліва застанаўляючыся над тым, што — ня тое пішаш. Што гэтыя літаратурныя жанры паводле прыроды сваёй — анты-інтэрнэтныя. Гэтаксама як блог — анты-літаратурны.

Рэч у тым, што блог — жанр тэлевізійны. Як ток-шоў. Блог павінен «чапляць» — ня важна, за якое месца. Пры гэтым пажадана, каб ён быў бязмэтным (гаварыць як? — ярка; гаварыць што? — неістотна) і ня меў завершанай структуры. Інакш прасторы для выказваньня камэнтатараў не застаецца, і яны справядліва шалеюць, зьбіваюцца з тэмы на асобу блогера, які закрыў браму ў іх перад самым носам.

Цымус блога (і яго жанравае «цела») — якраз у камэнтарах. Пакуль ідзе «мясілава», блог працягвае пісацца. Прычым «мясілава» не павінна згасаць у сілу нейкай лёгікі, а толькі таму, што зьявіўся новы блог. Калі ўсе гэтыя парамэтры вытрыманыя, значыць, жанр удаўся.

Ідэальны блог — гэта масавае пабоішча, ад якога назаўтра не застаецца і ўспаміну. Місія блогера — даць зачэпку. І чым больш балюча ці, скажам, эратычна ён дакранецца да пэўных зонаў публікі, тым найлепей блогер справіўся са сваёй задачай.

Такім чынам, задачы блога — адваротныя літаратурным: выказваньне не павінна мець мэты, ня мусіць быць лягічным і ня можа быць завершаным.

Калі ў сярэдзіне дзевяностых колькасьць сайтаў па-беларуску на роўных змагалася з колькасьцю сайтаў па-расейску, можна было разважаць пра тое, што інтэрнэт гатовы паглынуць усё, у тым ліку й літаратуру. Але наступнага досьведу хапіла, каб пераканацца, што зьявіўся ўсяго толькі яшчэ адзін інфармацыйны носьбіт, які пазбаўлены здольнасьці «замяніць кнігу» роўна настолькі, наколькі пазбаўленыя мовы тыя, хто зводзіць яе да «сродку зносін».

Няма сумневу, што блогінг разьвіваецца ў самастойны мэдыйны жанр. У яго ўжо ёсьць свае пасьпяховыя мадэратары — жывыя клясыкі новых рысталішчаў. Але яшчэ весялей уся гэта справа будзе разьвівацца тады, калі мы канчаткова аддзелім яго ад літаратуры і вызначым, што крытэрыі посьпеху блога — супрацьлеглыя літаратурным. Нездарма ж пасьпяховы блогер, як правіла, благі літаратар. А добры літаратар, адпаведна, бесталковы блогер.

Калі з эсэ і артыкулаў, нават самых слабенькіх, можна па выніку скласьці кніжку-зборнік, дык з блогаў зрабіць гэта немагчыма, інакш гэта некандыцыйныя ці несапраўдныя блогі. Паспрабуйце ўявіць сабе друкаваны зборнік ток-шоў? Калі гэта магчыма, значыць ток-шоў было фальшывым і не рэалізавалася ў сваёй адмысловай тэлевізійнай красе.

Калі вам не зайшлі гэтыя характарыстыкі жанру, не прыміце іх за адмаўленьне. Хоча таго нехта ці ня хоча, але блогу — жыць! «Няхай заквітнеюць сто кветак!» Усе прэтэнзіі — толькі да мяне, якому гэта «не маё». І таму мне застаецца прызнаць неадпаведнасьць сваіх экзэрсісаў бложнаму жанру і вярнуцца на ўлюбёную папяровую прастору. Калі ў гэтым дзеяньні вам убачыцца ўчынак, я дару яго вам на памяць.

# Мы — літоўцы

Пра тое, што беларусы — гэта схаваныя літоўцы, я здагадваўся даўно. Як толькі стаў думаць, хто ж мы такія. Тое, што ў нас так шмат гаворыцца пра славянскае братэрства, што беларускія прыгажуні скачуць у тэлевізары ў саратаўскіх сарафанах з какошнікамі, што 80% нашых супляменьнікаў, нібыта, б'юць чалом у храмах Расейскай праваслаўнай царквы, — гэта ўсё заўсёды выглядала і гучала так надумана і няпраўдападобна, што міжволі закрадалася думка пра маскіроўку, пад якой хаваецца наша сапраўдная сутнасьць. Разгледзець яе можна ў выніках сацыялягічных апытаньняў, якія ніколі не супадаюць з тым вобразам, што так настойліва лепіць нам афіцыйная прапаганда.

У чэрвені 2004 г. беларусы адказвалі сацыёлягам на пытаньне «Якая дзяржава, на вашу думку, была першай у гісторыі беларускай дзяржавай?» БНР, БССР і РБ дасталася па 15–18 адсоткаў. 35% назвалі Вялікае Княства Літоўскае.

Навукоўцы тады моцна зьдзівіліся, бо такі вынік рэзка супярэчыў ня толькі афіцыйнай маскіроўцы, але й школьным праграмам, у якіх на працягу вось ужо 150 гадоў сьцьвярджаецца, што беларусы былі захопленыя літоўцамі й сілком загнаныя ў ВКЛ, дзе вымушаныя былі адпакутаваць 500 гадоў сваёй гісторыі. А тут такі адказ! Маўляў, не захопліваў нас ніхто. І зусім мы не пакутавалі. Наадварот, разам з усёй Эўропай прайшлі эпоху Рэнэсансу, адкуль вынесьлі сваю багатую культуру. Дастаткова сказаць, што Біблія па-беларуску выйшла з друку раней, чым па-ангельску. Дый мова беларуская была ў ВКЛ адзінай дзяржаўнай, ня тое, што цяпер. Дастаткова ацаніць юрыдычны ўзровень Статутаў ВКЛ. Дастаткова агледзець вокам нашу архітэктуру тых часоў, калі Беларусь называлі Краінай замкаў. І ўвогуле, як казаў Мікола Ермаловіч, «Вялікае Княства Літоўскае — беларуская дзяржава», а самі мы — літоўцы.

Аднак не паверылі сацыёлягі лічбам сваім. Падумалі: што той люд паспаліты разумее ва ўласным паходжаньні? Можа прымярэсьцілася яму нешта ў нядобрую хвіліну. І праз два гады,

у 2006-м, правялі новае апытаньне. Толькі на гэты раз апытвалі ня простых беларусаў, а так званую эліту — чыноўнікаў, дырэктараў заводаў, рэдактараў газэт і ўсякае іншае начальства. Вынік пераўзышоў усе чаканьні. БНР, БССР і РБ назвалі першай беларускай дзяржавай 5–8%. За ВКЛ — 80%.

Гэта значыць 80 адсоткаў, калі іх спытаць пра ўнутранае самапачуваньне і ўяўленьне пра сваю краіну і нацыю, — літоўцы. Дзяржаўная прапаганда кажа, што мы тыя ж «расейцы, толькі са знакам якасьці», а самі людзі, у тым ліку дзяржаўныя чыноўнікі, — што мы літоўцы. З трыбуны — адно, а ад сябе прыватна — зусім іншае.

З гледзішча гісторыі нічога дзіўнага тут няма. На працягу 500 гадоў мы так самі сябе і называлі — літоўцамі або літвінамі — ад назвы дзяржавы, грамадзянамі якой былі.

Але калі беларусы — літоўцы, дык хто ж тады літоўцы? Вы здагадаліся? Правільна.

Адна з цэнтральных газэт сучаснай Літвы — «Respublika» — праводзіць апытаньне пад назвай «Нашы нацыянальныя каштоўнасьці». Надоечы рэдакцыя падвяла вынікі. Што атрымалася? У катэгорыі гістарычных асобаў перамог Мікалоюс Канстанцінас Чурлёніс — мастак, паэт і кампазытар пачатку XX ст. Прыяцель Янкі Купалы, між іншым. У катэгорыі гістарычных зьяваў — пасьляваенны рэзыстанс, партызаны, «лясныя браты». А што ж на першым месцы? Баскетбол. І нічога, што нагадвала б пра Вялікае Княства Літоўскае, сярод літоўскіх нацыянальных каштоўнасьцяў, паводле вэрсіі газэты «Respublika», няма.

Прыехалі. Выходзіць, што наш ППРБ толькі маскіруецца пад хакеіста (чытай, баскетбаліста), а насамрэч ён — літовец. А літоўцы, якія толькі маскіруюцца пад літоўцаў, насамрэч — баскетбалісты, гэта значыць, беларусы. Бо хакей і баскетбол у нашым выпадку — тое самае. Беларусь, нібыта, павінна стаць хакейнай дзяржавай, хоць насамрэч яна — Літва. А Літва ўжо даўно стала дзяржавай баскетбольнай, значыць, насамрэч яна — Беларусь.

І гэта справядліва.

# Вялікае непаразуменьне

Я так доўга чакаў, калі ж гэтая разгубленасьць наведае і мяне. І вось, здаецца, яна прыходзіць...

А пачалося ўсё роўна дваццаць гадоў таму, такім самым восеньскім днём. У рэдакцыі «Гомельскай праўды», дзе я працаваў паводле разьмеркаваньня, была такая практыка — штогод да нас прыязджалі два журналісты з Чэхіі, а наўзамен двое нашых адпраўляліся ў братнюю тады яшчэ Чэхаславакію. Ясна, што падарожнічалі правераныя, і мне такі вояж ніякім бокам не сьвяціў. Але, паколькі я часта езьдзіў у Менск дадому, аднойчы рэдактар прапанаваў мне праводзіць дзьвюх чэшскіх журналістак да Менску, каб там яны пераселі на пражскі цягнік. Была такая місія ветлівасьці і апекі, бо чэхі ў нас пачуваліся не асабліва як дома.

На першы погляд, дзьве замучаныя газэтнай цякучкай цёткі, гружаныя сумкамі, не ўявіліся мне цікавай кампаніяй. Пра што зь імі размаўляць? А па выніку атрымалася, што мы прагаварылі ўсю дарогу, гэта значыць, усю ноч. І чым далей, тым болей размова заварожвала мяне. Тады ўпершыню я і адчуў тую адмысловую разгубленасьць, зь якой і пачаў гэты аповед.

Мы бясконца курылі ў тамбуры, вярталіся ў купэ, і зноў ішлі ў тамбур курыць. За адчыненым вакном цягніка пралятала халодная жлобінская ноч. А я ўсё слухаў і слухаў незнаёмыя і нерэальныя для нашых краёў гісторыі. Пра тое, як не шкадуе чэхаў гэты бязьлітасны пэрыяд у іхным жыцьці, як з-за пераканаваньняў людзі страчваюць працу, як за вольналюбства студэнтаў выключаюць з унівэрсытэтаў, як з-за палітыкі распадаюцца сем'і ды ірвуцца сяброўскія повязі, як зьязджаюць у бестэрміновую эміграцыю блізкія людзі... І ўсё гэта — масава. Чэшкі распавядалі зь вялікай горыччу і нават сьлязамі. А я адчуваў сябе Каем, якому чужая сьляза капнула на ледзяное сэрца савецкага маладзёна, і раптам сьвет навокал пачаў адтайваць. Зусім ня рай пасяляўся ў душы і не ідылія, але колькі ў гэтым было страшнаватага

і адначасова салодкага трапятаньня сэрца — як па-над абрывам! Няўжо і сапраўды нешта можа зьмяняцца ў жыцьці? Не ў тваім прыватным, а ва ўсіхным? Не ў нашым, вядома, закончаным і спыненым. А хоць бы недзе, далёка... Няўжо гэта можа быць — калі зьнікае рамка, у якую ты быў устаўлены, нібы фотаздымак, і цяпер трэба штосьці вырашаць самому? Чэшкі выказвалі сваю роспач, а мне здавалася, што яны жывуць у захапляльнай прасторы перамен, дзе ўсё цяпер занепадае, але, самае галоўнае, усё рухаецца, а значыць, ня можа ня выйсьці да лепшага...

Мне так здавалася, але ўсё, што я меў для іх — гэта свой кардонны аптымізм. І я ўзяўся суцяшаць! Я вёрз нешта пра тое, што ўсё наладзіцца, сябры вернуцца з эміграцыі, студэнты вернуцца ва ўнівэры, а рабочыя на заводы і... сонца зноў зазьзяе ў небе. Хоць дальнім розумам я разумеў, што нічога ня вернецца. Нічога не наладзіцца. Проста будзе зусім іншае жыцьцё. Можа быць, лепшае, чым было, але не ў працяг таго, што было. Іншая праца, іншае атачэньне, іншы быт. Іншыя законы. Чым больш усё застойваецца, тым болей ад нас патрабуецца стратаў, гарычы і высілкаў для таго, каб пачаўся новы рух.

Шмат пазьней я вычытаў гэты настрой у Кундэры:

«Быў трэці дзень акупацыі. Я сядзеў за рулём аўта недзе паміж Прагай і Чэшскімі Будэёвіцамі (месца, дзе Камю зьмясьціў сваё «Непаразуменьне»). На дарогах, на палях, у лясах — паўсюль табарыліся расейскія салдаты. Потым маё аўта спынілі. Тры вайкі пачалі аглядаць яго. Калі агляд скончыўся, афіцэр, што кіраваў апэрацыяй, спытаў у мяне: «Как чувствуетесь?» і тады: «Як чуецеся?» Пытаньне не было ані зламысным, ані іранічным. Наадварот — афіцэр працягваў: «Гэта ўсё — вялікае непаразуменьне. Але тут неабходна навесьці парадак! Вы павінны ведаць, што мы любім чэхаў. Мы, русские, вас любим!»

І вось гэта ўсё паўтарылася зноў, як дэжавю. Зусім нядаўна. Мы размаўлялі з шаноўным чэшскім дыпляматам і колішнім дысыдэнтам. Спадар Румл спытаўся пра маё разуменьне таго,

што адбываецца цяпер у Беларусі. Я адразу ўспомніў той гомельскі цягнік, але пачаў не з адчуваньняў, а з канструкцый.

Рэвалюцыі мы не можам зрабіць, а бунту нам і за так ня трэба. Вось вам і ўся сытуацыя ў Беларусі, — казаў я. Мы стаім перад патрэбай Вялікай Трансфармацыі. Ва ўладзе, у апазыцыі, у розумах людзей найперш. Каб не даводзіць справу да Вялікага Непаразуменьня, калі адныя сядуць у танкі, а другія ў турмы. Бо акупацыя, калі яна ў нас і ёсьць, дык, сапраўды, унутраная. Унутраная і глыбока схаваная. І калі не адбудзецца Вялікай Трансфармацыі, яна некалі абавязкова вылезе на паверхню і тады мала не падасца нікому...

Што да стану людзей, дык тут Вялікае Непаразуменьне ўжо настала. І я прыгадваю даўнюю размову з дзьвюма чэшскімі журналісткамі ў начным цягніку. Гэта было дваццаць гадоў таму...

Па вачах спадара Румла я ўбачыў, што далей можна не працягваць. Мы былі на хвалі таго самага адчуваньня.

## Быць беларусам — гэта работа

У Менску ізноў шукалі ідэалёгію — што магло б аб'яднаць нацыю? Ізноў не знайшлі… Праўда, у рэпартажах БТ гэтым разам шмат крытыкавалі савецкую мадэль базіса і надбудовы. Калі гэта тэндэнцыя, значыць, рухаюцца ў слушным накірунку і не цяпер дык у чацьвер могуць знайсьці патрэбныя дзьверы, бо выхад толькі адзін. І Біблія тут ні пры чым:)

Цывілізаваная формула любой нацыянальнай ідэалёгіі гучыць так: быць беларусам — гэта работа. Гэтаксама як быць немцам або французам.

Беларус ад нараджэньня мае свой капітал у выглядзе роднае мовы, нацыянальнае культуры і гістарычнае памяці. Гэты капітал нічым не адрозьніваецца ад куфра з золатам ці мільённага рахунку ў банку. Але золата і мільёны нічога ня вартыя, калі яны не працуюць, гэта значыць, калі мы свой капітал не абслугоўваем. А абслугоўваем мы яго тым лепш, чым больш непадзельную маем за яго адказнасьць (ніхто ня лезе збоку са сваімі загадамі, як і што нам з гэтым рабіць). А чым больш непадзельная наша адказнасьць, тым большая наша свабода (гэта два бакі аднаго мэдаля).

Вось і ўся мадэль ідэалёгіі ў любой цывілізаванай краіне сьвету. Яе ня трэба прыдумляць, бо яна ёсьць. Усё, што зь ёй можна рабіць — культываваць. Мацней за яе аб'яднаць нацыю можа хіба што вайна ці ваенная дыктатура, што адкінула б нацыю кудысьці ў сярэднявечча.

У Беларусі гэты магутны ўнівэрсальны інструмэнт ідэалёгіі напоўніцу не працуе таму, што замест простых мэханічных вузлоў у ім устаўленыя вузлы фантомныя. Напрыклад, афіцыйны білінгвізм пазбаўляе беларуса непадзельнай адказнасьці за такую ягоную (і больш нічыю) каштоўнасьць як родная мова. Беларус ахвотна карыстаецца расейскай мовай, за якую адказваць яму ня трэба, але разам з гэтым ён страчвае прагу свабоды распараджацца

сваім лёсам — яму больш камфортна жыць у патэрналісцкай дзяржаве. Ён ня робіць сваю работу быць беларусам, у выніку чаго ператвараецца ў інэртнага і малапрадуктыўнага насельніка (раблю, што скажуць). Гаварыць па-беларуску — такая ж работа, як гаварыць па-француззску, нямецку або швэдзку. Гаворачы па-расейску, беларус не працуе, а па-ўтрыманску карыстаецца чужым скарбам, закінуўшы свой уласны ў бакоўку.

Тое самае адбываецца з усёй сыстэмай каштоўнасных маркераў. Каб лічыць Янку Купалу сваім вялікім паэтам, кожны беларус мусіць гэты капітал абслугоўваць (як кожны немец абслугоўвае Рыльке, а кожны японец Басё), гэта значыць, узваліць на сябе адказнасьць, узамен чаго ён атрымае свабоду. Калі ж беларус сваім вялікім паэтам лічыць Пушкіна, ён проста так лічыць, і нічога не адбываецца. Бо гэта не ягонае золата і не ягоны мільённы рахунак.

Унівэрсальны ідэалягічны мэханізм дазваляе даць ацэнку ўсяму, што адбываецца зь беларускай нацыяй як звонку, так і ўсярэдзіне яе самой. Скажам, кожны ангелец у нашых вачах — прадстаўнік свайго нацыянальнага героя Робін Гуда, а беларус, які ахайвае свайго нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага, падобны да банкіра, які ўсімі сіламі імкнецца збанкрутаваць і ператварыцца ў клашара. Гэта значыць, пазбавіцца гэтай работы, адказнасьці і свабоды, бо ўсё адно пасьля шасьці палявая кухня прывязе яму міску гарачага супу.

## Таварыства анёлаў

Калі ў мінулую суботу я выпраўляўся на сустрэчу «аднагаршэчнікаў», сваякі ды знаёмыя пазіралі на мяне зь недаверам. Усім вядома, што сустракаюцца аднаклясьнікі, аднакурсьнікі ці тыя, хто разам служыў у войску. Але пра тое, каб зьбіраліся пяцідзесяцігадовыя дзядзькі — гадаванцы аднаго дзіцячага саду — чулі ўпершыню. Зрэшты, мы й зьбіраліся ўпершыню. Акурат тады, калі нам стукнула або стукне пяцьдзясят.

Шчыра кажучы, я й сам ніколі ня чуў пра такія спатканьні. Таму наша ўва ўсіх сэнсах было першым.

Мы сядзелі да ночы, гаворачы пра ўсё на сьвеце. Нічога не абавязвала. Немагчыма было думаць ды параўноўваць, хто чаго дасягнуў, а хто чаго не, хто як сябе паводзіць перад іншымі — так ці ня так, хто як думае — правільна ці не, хто як захаваўся ці хто як апрануты. У нейкі момант мне падалося, што трапіў у фэнамэнальную супольнасьць.

Тут мы зьяўляемся адзін перад адным «голенькімі» й бязгрэшнымі, як анёлы, такімі, як у той час, калі нам было па тры гады. Такімі мы сябе запомнілі й такімі, гледзячы адзін на аднаго, успрымаем сябе сёньня. У нас ня можа быць тайнаў адзін перад адным і таго, чаго можна было б саромецца адзін перад адным. Гэта й не сваяцтва, і не сяброўства. Але як інакш назваць нашу супольнасьць? Мы называем яе «аднагаршэчнікі».

Нашаму знаёмству 47 гадоў. Але гэта знаёмства абсалютнага жыцьцёвага пачатку, таму ты можаш лёгка прымераць на сябе ўсю наступную біяграфію свайго «аднагаршэчніка» — з усімі яе ўзьлётамі й праваламі. Пры гэтым ніякія ацэнкі ня дзейнічаюць, як ня маюць сілы законы, кодэксы й грамадзкія стэрэатыпы. Кожны мог пражыць жыцьцё іншага — вось і ўсё.

Уласная сям’я, страта бацькоў, няўдачы ў бізнэсе ў 1990-я гады, паездкі па сьвеце, нават узроставыя хворасьці — усё ў цябе такое ці амаль такое самае, як у твайго «аднагаршэчніка».

Мы нават не асабліва ўскрыквалі «а помніш?», бо садаўскі досьвед не такі доўгі, як, напрыклад, школьны, калі многае зьвязана з набытым пачуцьцём сораму. Дакладней, гэта спэцыфічны досьвед, калі ты помніш чалавека, але не ацэначна, а так, як сябе самога. Затое мы без праблем разумеем наступнае жыцьцё іншага, бо з поўнай верагоднасьцю маглі перажыць тое самае. Нам дадзена «ўсяліцца» адзін у аднаго.

А ўвогуле сюжэтаў было распаведзена мноства. Пачынаючы ад хлопчыка, які сікаўся ў ціхі час у ложак, і таму ўсёй групе перад сном давалі чорны хлеб з сольлю, і сканчаючы абарваным жыцьцём іншага «аднагаршэчніка», які яшчэ за савецкім часам вырабляў на раёне наркату, за што патрапіў у турму, і пасьля ўжо на паверхню ня выбраўся. А колькі згадвалі дзяўчынак! У тую цнатлівую пару выхавацелькі любілі састаўляць нас у пары: жаніх і нявеста... А колькіх мы проста забылі й цяпер нагадвалі пра іх адзін аднаму, разглядаючы анёльскія твары на садаўскіх фотках...

Можа быць, калісьці я наважуся расказаць пра гэтыя лёсы — цікавыя й розныя, а галоўнае — быццам пражытыя мною самім. Паверце, будзе што пачытаць. Але спачатку трэба пераварыць у сабе гэтую першую сустрэчу й паспрабаваць да канца зразумець, чым яна была і што гэта такое — супольнасьць «аднагаршэчнікаў».

## «Карта беларуса»

Пасьля ўвядзеньня Польшчай «Карты паляка» (візавых ільготаў для этнічных палякаў, што жывуць у іншых краінах), МЗС РБ заявіў пра пагрозу дэстабілізацыі ўнутранага становішча ў Беларусі, а дасьціпныя камэнтатары зараз жа прапанавалі ўвесьці «Карту беларуса». З гледзішча «прагматычнага патрыятызму» (так польскую ініцыятыву акрэсьліў шаноўны Пётра Садоўскі), так яно і мусіла б быць. Бо колькасьць патэнцыйных атрымальнікаў «Карты паляка» сярод грамадзян Беларусі (900 тысяч, паводле афіцыйных падлікаў) сувымерная з колькасьцю этнічных беларусаў, што маюць грамадзянства Польшчы, краінаў Балтыі, Расеі і Украіны. З гледзішча нармальнай лёгікі «Карта паляка» толькі падштурхоўвае нас, беларусаў, да нацыянальнай кансалідацыі, да абуджэньня нашых патрыятычных пачуцьцяў, да клопату пра прэстыж Радзімы. А гэта хіба не галоўныя стымулы разьвіцьця любога грамадзтва? Што ж тады так напалохала нашых чыноўнікаў? І чаму пазытыўны стымул разьвіцьця яны называюць «дэстабілізацыяй становішча», белае — чорным?

Той, каму даводзілася жыць за мяжою, не мяняючы свайго беларускага грамадзянства, напэўна, не аднойчы зьдзіўляўся няласкавасьці Радзімы да сваёй асобы. Адкуль гэты дыскрымінацыйны настрой? Цябе пастаянна б'юць (рублём, поглядам, словам) за тое, што ты захоўваеш вернасьць. Скажам, абмяняць беларускі пашпарт у пасольстве табе каштуе ледзьве не ў 10 разоў больш грошай і ледзьве не настолькі ж большага часу, чым калі б ты жыў на тэрыторыі РБ. Словам, наш «прагматычны патрыятызм» — гэта поўная супрацьлегласьць таму, пра што піша спадар Садоўскі. «Вы дзяйсцьвіцельна гражданін РБ? А зачэм вы жывёце не там?»

Табе дзела? Ты палюбі мяне за тое, што я падзяляю з табой тваю супольнасьць ды яшчэ й зьвяртаюся да цябе на роднай мове, якую ты даўно забыў і выкінуў, як што нядобрае. Палюбі мяне так, як я люблю сваю Радзіму. Усю люблю, якая ёсьць. Разам

з табой, гаўнюком, дарэчы. Можа быць ты проста ня ведаеш, што гэта такое — любіць?

Любіць трэба сваіх беларускіх палякаў. Бо калі яны і адкажуць «дэстабілізацыяй абстаноўкі», дык не на «Карту паляка», а на няласкавасьць да іх з боку беларускага чынавенства.

«Карта беларуса» — і сапраўды гучыць дзіўнавата. Бо ў яе напаўненьні зьместам аніяк ня ўдзельнічае сёньняшняя ўлада РБ. Я ведаю шмат нашых супляменьнікаў-замежнікаў, якія хочуць бываць у Беларусі і віталі б любыя візавыя палёгкі. Але бываць — для чаго? Ніякай прагматыкі. Толькі прырода і толькі людзі, ды яшчэ дзе-нідзе цудам ацалелы фрагмэнт старой забудовы, а ўсё разам — аўра, якая ў нашай краіне захавалася, нягледзячы на ўсе квазіцывілізацыйныя ўмяшаньні ўлады. Працаваць або вучыцца замежны беларус сюды масава не паедзе. Мы ўсе назіраем цалкам адваротны працэс. І кіраўніцтва краіны гэта разумее. Але з-за поўнай адсутнасьці крытычнага погляду на самое сябе і з-за нейкіх «важнейшых» задач (напрыклад, захаваньня ўлады), яно, кіраўніцтва, нават не дапускае думкі — а што б гэта зрабіць такое, каб захацелася замежнаму супляменьніку вучыцца і працаваць на Радзіме? Яно, кіраўніцтва, бачыць падвох у наступствах, а ня ў выніках таго становішча, якое стварыла само. І кожнага прагнага прыехаць у Беларусь спыняе найперш боязь і нежаданьне ўступаць у дачыненьні з тутэйшаю ўладай.

Нават гутаркі пра турызм з чынавенскіх вуснаў маюць у сваім кантэксьце адно «шмат грошай», якія б чамаданамі пацяклі ў краіну, а ня тое, для чаго той турыст сюды паедзе. Ну не для таго ж, каб паляжаць у джакузі пяцізоркавага гатэля на вуліцы Пераможцаў. Можна, вядома, пайсьці ад адваротнага і паказаць яму, як мы з крывых бэтонных блёкаў будуем муляжы на месцы бязьлітасна зьнесенай старой гарадзкой забудовы. Задача зьдзівіць выдумкай, творчасьцю, нечаканым вобразам — не стаіць. Задача захаваць тую беларускую аўру — самае каштоўнае, што ў нас ёсьць — тым больш.

## Сьвет патанае ў эмоцыях

У тэлевізары кажуць не пра тое, што адбылося, а пра тое, добра гэта ці дрэнна, і тады ўласна факты робяцца няважнымі. Сапраўды, калі цэлы мэгаполіс можна атруціць адным пацуком, тады якая розьніца, колькі намалацілі тон — сем мільёнаў ці восем. Калі грузіны ў Грузіі агрэсары, а бацька Пазьняка ў вайну быў паліцаем, тады якая розьніца, чым ілюстраваць грузінскую агрэсію ў Цхінвале — фоткамі расейскіх бясчынстваў у Поці або дзесяць гадоў таму ў Грозным. Галоўнае — пагнаць хвалю, бо ў патоку сьлезацечных калюмбійскіх сэрыялаў і расейскага гламуру ніхто ня стане высьвятляць, хто рэальны злачынец, а хто праведнік. Наш тэлевізар ператварыўся ў Маякоўскага і, гледзячы на цябе шкляным вокам, з тупаватай упартасьцю распавядае аўдыторыі «что такое хорошо, а что такое плохо».

Праўда, час ад часу не-не дый пакажацца на экране белая нітка, якой цыраванае тэлевізійнае шчасьце. Гэтак цягам усёй Алімпіяды на канале «Лад» беларуска-швэйцарскі банк рэклямаваў свой крэдыт «За БЛАГОполучие». Ясна, што па-расейску, але пры нашай усеагульнай непісьменнасьці, трасянкамоўнасьці і кашы ў галовах піяршчыкам зь беларускага банку на беларускім канале варта было б улічваць, што «блага» па-беларуску — плохо. Вось вам і ўвесь «шчасьлівы» крэдыт і ўся вартасьць таго, пра што гоніць хвалю яшчык.

Зрэшты, не выключаю, што тут проста прыкол. Нейкая офісная галава вырашыла прыкалоцца зь беларуска-швэйцарскага банку, а атрымалася ў выніку мэтафара, наш адказ Маякоўскаму.

Аднак чэмпіёнства ў тым алімпійскім рэклямным блёку я аддаў бы іншаму слогану — без культурна-моўнага акцэнту, але па сутнасьці гэткаму самаму. Там загадкавы жаночы голас рэклямуе машыну «Таёта», прамаўляючы з прыдыханьнем: «Когда слова бессильны». Цікава, колькі паважаная кампанія заплаціла за такія крэатыўныя «словы» прыкалісту-прыдумшчыку, які нават зьвілінай ня стаў варушыць, а адразу ў ветлівай форме паслаў

дарагую фірму разам з усёй тэлеаўдыторыяй у абстрактны сьвет эмоцый? І тым самым стварыў яшчэ адну мэтафару часу, якую можна паўтараць ня толькі ў любой іншай рэкляме, але і ў выпусках навін літаральна пасьля кожнага сюжэту. Бо што такое насамрэч словы? Галоўнае — хваля, накат, напор і бляск уваччу. Паглядзіце, як сьвідруюць гледача позіркамі вядучыя БТ, выпускаючы сюжэт за сюжэтам, у якіх карэспандэнты, быццам цыркавыя пантэры, зрываюцца з ланцуга і ўзахлёб распавядаюць пра тое, што Віцебшчына, гэтая няўдалая і вечна адсталая Віцебшчына, нават гэтая Віцебшчына сёлета, чаго ніколі не бывала, намалоціць свой мільён!

Што столькі формы на БТ не было ніколі з моманту стварэньня — гэта дакладна. Форма дамінуе. «Когда слова бессильны».

Абнадзейвае ў гэтай сытуацыі, як заўсёды, не што іншае, як мудрасьць беларускага народа. Гэта я абсалютна без іроніі. Рэч вось у чым. Ясна, што пантэрызму і сьвідраваньню вачыма нашы тэлевізійшчыкі вучыліся не ў Бі-Бі-Сі і не ў ТВ Палёнія, а ў дарагіх сваіх масквічоў. І на нейкі час, як гэта ўласьціва кожнаму пачаткоўцу-пераймальніку, гіпэртрафавалі іхны эмацыйны накат — аж да карыкатуры. Але, думаю, хутка да іх вернецца звыклая «агульная млявасьць» і яны пачнуць аціхаць. Бо гіпнатычная хваля са «скрыні» ніяк не перацякае ў заскрыневае жыцьцё. Парлямент у нас сьпіць, міністры таксама нагадваюць патрывожаных у сьне Віня-Пыхаў, апазыцыя даўно парабіла эўрапейскія фрызуры і выказваецца больш чым стрымана. Хіба прэзыдэнт калі-нікалі ўзбуджаецца на мікрафон. Але ён (прэзыдэнт зь мікрафонам) у нас такі адзін.

У Расеі на шкляное вока сёньня ўзбуджаецца ўся краіна — два кіраўнікі, два парлямэнты, ваеначальнік Нагавіцын і ўвесь калектыў гэтага вялікага паравознага дэпо. Словам, першаўзор рашуча абышоў нашых пераймальнікаў і гоніць неабдымна эмацыйную хвалю ў неабдымную расейскую прастору. Вяршыняй усяго гэтага некалі стане жанр абсурду, калі на экране будзе зьяўляцца карцінка з подпісам «хорошо» і карцінка з подпісам «плохо». «Хорошо» — «плохо», «хорошо» — «плохо»...

Усё гэта ўжо было ў XX ст. і, нібыта, ужо й забылася. Тэатар абсурду даўно стаў клясыкай. А чым ён быў выкліканы да жыцьця? Далібог, даводзіцца паўтараць агульнавядомыя рэчы, аж нецікава. Але куды дзявацца, калі наш сьвет паглыбляецца ў эмоцыі самым што ні ёсьць хрэстаматыйным чынам.

Дык вось, зноў і зноў згадваецца расповед жанчыны, якая на мітынгу слухала выступ Адольфа Гітлера. Гітлер то заціхаў, то распаляўся да чырвані, то зноў астываў. І разам зь ім то аціхала, то награвалася шматтысячная аўдыторыя. Жанчына згадвала, што калі ён западаў у экстаз, разам зь ім раўлі ў экстазе ўсе астатнія, і яна ў тым ліку. Так доўжылася гадзіны дзьве.

Калі яна, накрычаўшыся, вярталася зь мітынгу дадому, ёй раптам стала сорамна за сябе. Ведаеце, чаму? Яна паспрабавала ўспомніць, пра што ён гаварыў. А ў галаве было пуста.

## Ген беларуса

Нядаўна прыяцель азадачыў мяне пытаньнем: што значыць выхоўваць дзіця ў беларускім духу? Зразумела, што ёсьць мноства зьнешніх прыкмет беларускасьці, але пытаньне было пра дух. І вось спакваля выснаваўся ў мяне такі адказ: гэта значыць, пасяліць у душы дзіцяці перакананьне, што ён — прадстаўнік старога народа.

Тое, што народ стары — бясспрэчна, як праўда і тое, што сёньня беларусам бракуе чагосьці істотнага, каб пачувацца старым народам Эўропы, «такім самым» завершаным вобразам, якім нам уяўляюцца паляк або француз. Можа быць, адсюль (а ня толькі ад таго, што ямо бульбу, ці ад таго, што «ніякі народ ня хоча рэвалюцыі») і наша нерашучасьць у імкненьні да перамен. Якойсьці частачкі саміх сябе нам не хапае.

Гэты недахоп адлюстраваны ў слове, якім мы, беларусы, сябе называем. Два стагодзьдзі русіфікацыі («младшие братья», «те же русские», «мы одно целое») і саветызацыі («беларус — значыць, бальшавік») звузілі назву «Беларусь» да невялікай зоны, адкрытай у бок крамлёўскага начальства і закрытай у бок Захаду і сваёй уласнай дасавецкай, дарасейскай гісторыі, гэтак жа сама як і ў бок тых імпульсаў, што ідуць з нашай крыві. Такім чынам, самаўсьведамленьне беларуса апынулася на пятачку і яму папросту няма як разгарнуцца ўва ўсёй сваёй красе.

Нашы інтэлектуалы ўпарта шукаюць «ген» беларуса, які, з аднаго боку, не дае нам перастаць быць беларусамі (як такімі), а зь іншага — уяўляецца той запаветнай кнопкай, націснуўшы на якую, можна выклікаць старт ракеты нацыянальнага адраджэньня.

Надоечы паэт Васіль Зуёнак у сваім вершы сьцьвердзіў, што «беларус жывучы кропляй балцкай крыві».

Яшчэ раней Зянон Пазьняк прапанаваў называць краіну праз злучок Беларусь-Вялікалітва.

Сама хада развагаў тут слушная — не шукаць замены назвы, а пашырыць і паглыбіць наша звужанае ўспрыманьне саміх сябе да нармальнага, дастатковага аб’ёму — да нацыянальнай «кандыцыі». Адно бянтэжыць, што ў слове Вялікалітва зашмат пафасу, яно занадта кніжнае, каб яго мог адчуць як сваю ўласную назву кожны сёньняшні беларус.

На тыдні мне давялося глядзець тэлеперадачу пра Юзафа Пілсудскага. У маладосьці будучы начальнік Польскай дзяржавы пісаўся ў анкетах беларусам, але і ў сталасьці ён называў сябе не палякам, а — старалітвінам. Паміж гэтымі дзьвюма саманазвамі аднаго чалавека няма супярэчнасьці, яны складаюцца ў адно цэлае. Амаль усе беларускія пісьменьнікі XIX ст. называлі сябе літвінамі. Што да сучасных літоўцаў, дык іх Пілсудскі называў жмудзінамі, а яшчэ больш дакладна — навалітвінамі ці младалітвінамі. І гэта было для ўсіх зразумелай нормай.

Тым часам паняцьце старалітвінства ў закалотах XX ст. аказалася забытым і незапатрабаваным ніводнай з новастораных нацый. Літоўцам яно непатрэбнае, бо яны і ў Вялікім Княстве пачуваліся сэпаратыстамі, а цяпер, нарэшце, маюць магчымасьць жыць сваім адасобленым жыцьцём. Палякі ўспрымаюць гэты кавалак зямлі, як страчаную тэрыторыю. А беларусы ніяк не праб’юць бар’ер, які аддзяляе іх ад другой часткі іхняй уласнай сутнасьці.

Старалітвінства наша ляжыць «где-то в шкафу». Разам з нашай культурнай спадчынай і самае галоўнае — з тым азарэньнем душы, якое нязьменна выклікаюць у маладой беларускай асобе ці то бяздонныя яры Крывога гораду, якім калісьці была Вільня, ці то Барысавы камяні і каменіцы Якуба Бабіча, першы беларускі буквар, выдадзены ў Еўі, і словы прысягі студэнтаў-філяматаў, што некалі прыдумалі сваю Беларусь, чарэйскія таямніцы Оскара Мілаша і паляўнічыя акварэлі менскага шляхціца Янкі Лучыны, мячэці Іўя і замкі Любчы і Крэва, скарбы Тышкевічаў, сады Жалібэра, песьні нашых бабуль па-над Прыпяцьцю, у якіх заўсёды сьпявалася пра Дунай (пры чым Дунай там не рака, а мора), альбо пра туман (Warning fog!), бо «за туманам нічога ня відна»...

Сотні і тысячы славутых імёнаў, падзеяў, рэчаў і зьяваў прыходзяць увадначасьсе на розум. Нашы людзі крадуць кветкі з чужога агароду. Хоць няма канца знакам Старой Літвы, якія тут чакаюць сваіх спадкаемцаў — калі тыя нарэшце скінуць зь сябе «старую отцовскую буденовку» і даведаюцца, з чаго менавіта для іх пачынаецца Радзіма.

Цяпер, здаецца, я магу растлумачыць гэтае адчуваньне Беларусі больш-менш яснымі словамі. Белая Русь — Старая Літва. У гэтай пары — уся паўната. А беларусы — старалітвіны. Як бы вы, замежнікі, ні называлі нашу краіну — Belarus ці White Russia, дадайце ў дужках ці праз злучок — Old Lithuania. А вы, землякі, проста прымерце да сябе гэтае азначэньне — я беларус і я стралітвін або старалітвінка. Упэўнены, што адпрэчаньня не адбудзецца, бо гэты ген — у вашай крыві. Магчыма, вам захочацца дазнацца, што гэта значыць і пазнаёміцца, нарэшце, з другой часткай сваёй уласнай асобы.

## Асаблівасьці нацыянальнага самапрыніжэньня

Тое, што ў Беларусі адзінай дзяржаўнай мовай de facto зьяўляецца русский язык, ні для каго не сакрэт. Спрэчкі могуць ісьці толькі вакол характару гэтай зьявы — наколькі яна прыродная і наколькі рукатворная, ці «зьверху» гэта робіцца ці «зьнізу».

Пры ўсім жаданьні глядзець «Панораму» або чытаць галоўную газэту кіраўніка краіны па-беларуску — немагчыма. Па-беларуску не размаўляе (не parle) беларускі, нібыта, parlement. Ну і каб новая школа была беларускай, бацькі-беларусы павінны доўга даказваць у пісьмовай форме і без асаблівай надзеі на вынік, што гэта сапраўды патрэбна ім усім, інакш «по умолчанию» адкрываецца расейская школа. Нягледзячы на Закон аб мовах зь яго «дзяржаўнай беларускай», любы чыноўнік любога ўзроўню на ваш беларускамоўны зварот у ста выпадках са ста дасьць свой расейскамоўны адказ.

Таму, што б вы ні казалі пра жаданьне народа, яно тут ні пры чым. Мы маем справу зь дзяржаўнай і цалкам аўтарытарнай палітыкай. І з тымі, хто з усіх сіл імкнецца плысьці ў фарватары гэтай палітыкі. На першым месцы тут — бізнэс.

Гэта толькі магутныя замежныя кампаніі, накшталт Samsung, могуць дазволіць сабе рэкляму па-беларуску, бо ў іх іншая палітыка, нацэленая на разнастайнасьць, а не на ўніфікацыю. Што да нашых, то яны ўгодліва выпускаюць «Савушкин продукт» — з маркіроўкамі па-саратаўску ці па-тамбоўску, але ніяк не па-тутэйшаму. (Па-беларуску прадукт мусіў быць Саўкаў ці, калі той Саўка так ужо абмаскаліўся — Савушкаў.)

Вытворцы, натуральна, апраўдваюцца тым, што прадукт разьлічаны на «нашу Рашу», таму гэта як бы маскіроўка, каб дарагія масквічы не западозрылі ніякіх «нацыянальных падтэкстаў». Скажаце, неспартыўна? Так, і найперш — у дачыненьні да саміх сябе. Як у той бэтэшнай «Панораме» — «Главные новости. На первом» — бессаромны плягіят з расейскага ОРТ. Дарагім

масквічам, вядома, гэта ўсё да лямпачкі. Бо гэта асаблівасьці нашага з вамі нацыянальнага самапрыніжэньня. А паколькі ў гэтым самапрыніжэньні выразна прысутнічае нотка гадзенькай асалоды, дык кваліфікаваць яго трэба як псыхічную балячку, як мазахізм.

Хвароба заразная і вельмі хутка ахоплівае ўсе «сягменты рынку». Ня ведаю, ці зьяўляецца гэта прычынай таго, што рэалізацыя айчынных тавараў у параўнаньні з імпартам у нас з году ў год падае. Але і сам не лічу сябе настолькі хворым, каб, да прыкладу, едучы да сяброў за мяжу, набываць сувэнірную пляшку гарэлкі «Бульбаш». Рэч у тым, што мае замежныя сябры ў асаблівасьцях нашага нацыянальнага мазахізму не абазнаныя, і такі падарунак ўспрынялі б неадэкватна. Уявіце, каб ваш ізраільскі сябра прывез вам у падарунак бутэлечку гарэлкі «Жыд». Ці польскі таварыш падараваў пляшку «Пшэка». Ці ўкраінец, замест «Хортыцы» — «Хахла». Ці каб дарагія масквічы пачаставалі халодненькім «Маскалём»...

У выніку, каб не выглядаць, мякка кажучы, хворым на галаву, я набываю «Бальзам белорусский». Праўда, і тут ня ўсё чыста. Ведаю, зноў давядзецца тлумачыць, што этыкетка напісана не па-беларуску, і адказваць на роспыты — чаму.

## Рэінкарнацыя даносу

Бывае, рэжа слых ня тое, што пачуў, а тое, чаго не сказалі. У наўмысным замоўчваньні часам болей крыку, чым у самай энэргічнай прапагандзе.

Вось чаму замоўчваньне ў СМІ фактаў сталінскіх забойстваў пакідае сталае ўражаньне подласьці.

Характэрны прыклад — абрэзаныя цэнзурай біяграфіі людзей. Дыктар тэлебачаньня ў каляндарнай рубрыцы 20 кастрычніка чытае біяграфію археоляга Сяргея Дубінскага — нарадзіўся, працаваў, дасьледаваў... Ну, словам, быў нехта нейкі такі. Стандартны абзац узяты з інтэрнэту. Але ўсе стандартныя абзацы пра Дубінскага ў інтэрнэце заканчваюцца трагедыяй — тым, што Дубінскі разам з калегамі Каваленем і Ляўданскім быў расстраляны ў 1937 г. у Курапатах, дзе ад сучаснага пакаленьня археолягаў ім пастаўлены помнік — вялікі дубовы крыж.

Зразумела, што гаворка пра заснавальнікаў беларускай акадэмічнай археалёгіі неяк ня вяжацца з тым, што ўпаўнаважаны НКУС, дзьве клясы адукацыі, на краі курапацкай ямы пусьціў гэтым заснавальнікам кулю ў патыліцу. Гучыць дзіка. Але так было. Навошта гэта замоўчваць? — хацеў бы я спытацца ў таго, хто на тэлебачаньні выразае зь біяграфій славутых землякоў радкі пра іх пакутніцкую сьмерць.

Гісторык Ігар Кузьняцоў пра тое самае кажа ў сваім нядаўнім інтэрвію на сайце «Заўтра тваёй краіны». Маўляў, сёлета ніводзін студэнт ня здолеў адказаць яму на пытаньне «Што такое Курапаты?» Курапаты — нямодная тэма. Прычым ня толькі ў афіцыйных, але і ў незалежных СМІ.

Самае загадкавае — адкуль бярэцца гэты імпульс? Ігар Кузьняцоў ня ведае: «Узьнікае пытаньне: каму гэта выгадна? На гэтае пытаньне я сёньня адказаць не магу. Цяперашнія кіраўнікі дзяржавы ня маюць ніякага дачыненьня да работнікаў НКУС, якія

тварылі гэтыя беззаконьні ў 30–40-х гадах мінулага стагодзьдзя, і не зьвязаныя роднаснымі сувязямі, што было б хоць нейкім тлумачэньнем такой сытуацыі. У тым жа і пытаньне, што незразумела, адкуль гэта ўсё сыходзіць, каму і навошта гэта патрэбна, калі столькі гадоў прайшло. Даўно трэба было сказаць праўду, аддаць даніну павагі палеглым і паставіць тым самым кропку ў гэтай шматгадовай гісторыі».

Няведаньне пра сталінскія рэпрэсіі — гэта ня простая адсутнасьць ведаў. Яму спадарожнічае раздражненьне: «Ды колькі можна пра гэта!» Мабыць, таму й ня ставіцца ў гэтай гісторыі кропка.

Ёсьць людзі, у якіх любая згадка пра ахвяраў сталінізму выклікае істэрыку. Ім не абавязкова сто гадоў, яны не абавязкова служаць у КДБ, у іх не абавязкова «ніхто не пацярпеў». Што ж тады? Найбольш верагодна — кроў.

І тады, у 1937-м, напэўна, тое, зь якога боку ты апынуўся, вызначала кроў. Не нацыянальныя, сацыяльныя ці адукацыйныя яе «інгрыдыенты», а больш прымітыўны падзел чалавечае прыроды на людзі-нелюдзі. У прынцыпе ўвесь гэты канфлікт адбываўся на жывёльным субстраце чалавека — за кроў. А таму і вызначала яго кроў.

Ведаеце такі выраз — «прыстойны ад прыроды чалавек»? Тады пагадзіцеся і на існаваньне антыпода — «непрыстойны ад прыроды чалавек». Першы кіруецца маральнасьцю, а другі кажа, што мараль на хлеб не намажаш і ў шклянку не нальеш. Амаль за кожным даносам опэру стаіць матэрыяльная матывацыя — вызваленьне прасторы. Я цябе не ненавіджу, я проста хачу, каб цябе не было.

Усе, хто катаваў і расстрэльваў ні перад кім не вінаватых людзей з завязанымі рукамі, — частка малоха, сэлекцыйнай машыны ўлады, што ператварала чалавечую масу ў аднастайны фарш шчасьлівага савецкага чалавека. Тут усё зразумела. Сталін і яго агрэгат ГУЛАГ. Дзікі Коба апынуўся на троне і пачаў хацець,

каб мільёнаў людзей не было — усіх гэтых вучаных і спраўных гаспадарыкаў. Але ні машыны дый Сталіна не было б, калі б не было інстытуцыі даносу. Зь яго ўсё пачыналася. Тут таксама — спачатку было слова.

Вось чалавек сабе й чалавек. Але нешта ж пабуджае яго «пісаць» на суседа. Што? Ён ніколі вам не растлумачыць. І ніхто не растлумачыць. Бо надта прымітыўная разгадка — кроў, драпежніцкі гон, інстынкт памеціць тэрыторыю, вызваліць прастору...

Замоўчваньне сталінскіх расстрэлаў — рэінкарнацыя даносу. Энэргіі подласьці ў гэтым маўчаньні ня менш, чым у нагаворы й крыклівым паклёпе.

## Нацыя двухногіх зэдлікаў

Беларус — гэта як зэдлік на дзьвюх ножках, стаяць немагчыма. Хтосьці прыладзіў сабе «апорнага» дубца, а той гнецца. Хтосьці спрабуе балянсаваць як ёсьць, але на тое ідзе ўся жыцьцёвая энэргія. Хтосьці паваліўся й ляжыць. Ну і што? Вось ляжу сабе й ляжу. Лічыце, што я — такі. Нас такіх большасьць! І ня трэба нас падымаць, прыкручваць трэцюю нагу, навошта нам стрэсы?

Такі вобраз устае перад вачыма кожнага разу, калі дыскусія заходзіць пра родную мову. Усе сьпяшаюцца выказацца. Ды што ты ўсё «язык-язык»! Размаўляй як хочаш, ніхто не забараняе. Толькі нас не чапай, бо мы — такія, як ёсьць, двухногія, значыць, — нармальныя.

А чаго вы так усхадзіліся? Чаго вы міма ня пройдзеце, каб ня выказацца? Ці ў вас іншых праблем няма?

Вось я й думаю, што гаворка «пра мову» ў нас насамрэч зусім і не пра мову, а пра трэцюю нагу кожнага пэрсанальна — пра трываласьць асобы, пра ўстойлівасьць у жыцьці, пра самасьцьверджаньне і выгляд на фоне іншых. Нам хоць і нармальна ляжаць, але ўсе навокал (не-беларусы) чамусьці стаяць, так нявыгадна адцяняючы нашу нармальнасьць і ўжо гэтым ператвараючы яе ў падазроную не-нармальнасьць.

Так што ўсе нашы грамадзкія дыскусіі пра мову — не пра мову.

Што тая мова! Філялёгія, слоўнікі, правапіс — цікава толькі спэцыялістам. Няхай каму цікава, тыя й займаюцца. Мы тут пры чым?

Правільна! Беларусаў хвалюе ня мова й яе лёс, іх турбуюць яны самі. Нейкі грыбок ізгойства пасяліўся ў іх пасярод здаровага арганізму. І ты, кожнага разу загаворваючы пра мову, гэты грыбок кранаеш і міжволі зачапляеш саму чалавечую сутнасьць, якая й так сабою не задаволеная, сама з сабой разабрацца ня можа. А тут ты. Са «сваёй мовай».

Мяне, шчыра кажучы, лёс мовы мала хвалюе. Нічога зь ёй ня здарыцца — цяпер ці ў будучыні. Гэта з намі нешта ўжо здарылася.

Адзін камэнтатар напісаў, што пакуль беларускі парлямэнт у справе пашырэньня мовы ня зробіць рашучых захадаў, нічога ня зьменіцца. Можа быць, яно й так. Калі б нас непакоіў лёс мовы. Толькі непакоіцца варта лёсам парлямэнту, які ўяўляе зь сябе такую самую супольнасьць двухногіх зэдлікаў, як і ўсё грамадзтва. І калі стан парлямэнту параўнаць са станам мовы, дык мы ўбачым інваліда першай групы на фоне здаровай і ў меру вясёлай кабеціны, у якой наперадзе — ужо забясьпечанае й цікавае жыцьцё.

Родная мова для беларуса — гэта комплекс недавершанага самасьцьверджаньня асобы. Ён муляе, але хочацца проста схаваць яго ад пабочных, бо няма ні часу, ні жаданьня ўва ўсім гэтым разьбірацца. А тут яшчэ паэты галосяць пра гібель мовы, да чаго і ўвогуле ня хочацца мець ніякага дачыненьня.

Іншымі словамі, гаворка ідзе пра набыты ідэнтыфікацыйны дэфэкт. Прычым набыты ня намі й нашымі сучасьнікамі, а бацькамі й дзядамі, якія ў свой час выракаліся «ўсяго вясковага», у тым ліку і адмысловага генэтычнага патэнцыялу самасьцьверджаньня асобы. І там ня толькі мова была «вясковая», але й цэлы набор этычных нормаў («вясковая» сьціпласьць, называньне бацькоў на «вы», праца як сэнс існаваньня і г.д.) і шмат што яшчэ (памяць пра паходжаньне, напрыклад, і нават сякія-такія маёмасныя актывы). Усё разам было выкінута з душы й розуму як «дзеравеншчына».

Цяпер многія гараджане ў другім-трэцім пакаленьні ня ведаюць, як звалі прадзеда і зь якой мясцовасьці паходзіць іх род...

Ім хочацца быць такімі, як на расейскіх тэлеканалах. Але расейцы, пераязджаючы ў горад, ніякіх такіх рэчаў не выракаліся. Прынамсі, з мовай у іх праблем не было, бо горад быў расейскі.

У нас інакш. Таму нам больш пасуе прыклад прыбалтаў — такіх самых учорашніх вяскоўцаў, заваёўнікаў іншамоўнага асяродзьдзя. Літоўцы, едучы ў Вільню, якая была зусім нелітоўскай (нават у параўнаньні зь небеларускім Менскам), тым ня менш, захоўвалі сваю «вясковую» (чытай — чалавечую) прыроду, якая станавілася «гарадзкой», захоплівала жыцьцёвую прастору, а не адкідалася сваімі носьбітамі як атавізм, як сьмецьце, як сымбаль калгасных працадзён.

А нашы... Так любілі заўсёды наведацца ў Вільню, зь яе асаблівым калярытам, нават думкі не дапускаючы, што калярыт той — учорашняя «дзеравеншчына», трэцяя нага ў зэдліку, якой самі яны ў сваім Менску так неабачліва пазбавіліся.

У глыбіні душы беларусы адчуваюць тую здраду сваіх продкаў і сваю ўласную страту. І таму, гаворачы нібыта па-расейску, у перапісах насельніцтва ўпарта роднай мовай называюць беларускую. Яны могуць не ўсьведамляць, што гаворка тут не пра патрыятызм і ўсякія такія «штукі», а пра істотны кавалак іхнае чалавечае самасьці, безь якой так цяжка сьцьвердзіцца паасобку, а ўсім разам, як нацыі, і ўвогуле немагчыма.

# МОВА

## Беларусь — гэта мова

Даўно заўважана: расейска-беларускі білінгвізм — падвід шызафрэніі, г. зн. раздвоенай сьвядомасьці. І тое, што ў гэтым раздваеньні можа пасаваць паэту*, для іншых — проста хвароба. Яна, што разьядае розум, нічым ня лепшая за рак, які зьнішчае цела. Рак, між іншым, таксама хвароба канцэптуальная, толькі нікому ня прыйдзе ў галаву разглядаць у гэтым канцэпце шлях у будучыню.

Сёньняшняя білінгвістычная Беларусь — спрэс шызафрэнічная. Вось прыпынак электрычкі «Хмелевка» па-расейску, наступны «Анусіна» па-беларуску. Добра, калі вы ведаеце, што насамрэч «Ганусіна» — выводзіцца ад імя Ганны-Ганусі, а хто ня ведае, дык выведзе і ад ануса. Пры сёньняшнім узроўні білінгвістычнай гуманістыкі і элемэнтарнае нявыхаванасьці, чаму б з гэтага Анусіна і не «паржаць»?

А вось вялізны бігборд «Болей за наших, болей за Беларусь!». Калі б была Белоруссия, націск у слове «болей» чытаўся б адразу на другім складзе. А так націск бегае. Гэткім чынам мабілізуюць заўзятараў. А побач проста — «За Беларусь!» — і хто гэта, думаю, у гэтых мардатых дзядзькаў на фота зьбіраецца Беларусь адняць? Ясна, што не аддадуць, касьцьмі лягуць... Але што ж гэта за Беларусь такая непадступная і адначасова меншая за хакей? Вы скажаце, пара да псыхіятра? Даўно пара, бо прыкладаў такіх у мяне процьма на кожнай вуліцы.

На прэзэнтацыі кнігі пра Майстроўню колішні ўдзельнік гэтага руху Ігар Запрудзкі сказаў, што яго засмучае, калі мара збываецца. Бо тады ў цябе болей няма мары. Трыццаць гадоў таму мы часта зь неверагодных падпольных крыніц даведваліся пра вялікіх дзеячоў беларускага адраджэньня, якіх было забаронена згадваць у друку, кнігі Міколы Ермаловіча пра ВКЛ хадзілі ў рукапісах... А сёньня прагуглі і атрымаеш інфармацыю пра любога адраджэнца, зайдзі ў кнігарню, а там пра ВКЛ столькі, што, здаецца, настала наша Царства Нябеснае. Ну і што ўжо казаць — незалежнасьць: беларускі пашпарт і беларускія грошы ў кішэні. Мара дасягнутая?

Але што тады так няймецца нам і нібыта ў тым самым кірунку? Што нас ізноў так вабіць за даляглядам? Тое, мабыць, што марылі пра беларускую Беларусь. Сапраўды, Беларусь ёсьць. Але згадайце, што здарылася з гербам Пагоняй і бела-чырвона-белым сьцягам. Былі яны дзяржаўнымі, сталі афіцыйна забароненымі. Калі заўтра кан'юнктурная ўлада ліквідуе пашпарты і грошы, а значыць і саму незалежнасьць з грамадзянствам, што і хто ёй у гэтай справе зможа супрацьстаяць? На маю думку, толькі нябесныя сілы, нейкі неверагодны расклад зорак, выпадак урэшце. Але толькі ня людзі. Людзкая сіла сёньня нашмат меншая, чым была тады, калі адбіралі сымбалі. Цяпер нават прынцыпы адступілі, бо самыя заўзятыя змагары носяць у кішэні кніжачку з «капустай», на іх машынах нумары з «закатам над болотам», і той самы «закат» суправаджае іх імёны, калі яны грукаюцца да цябе праз скайп. Няма прынцыпаў. І гэта значыць, што адабраньне грошай, пашпарту і незалежнасьці пройдзе амаль незаўважна пры мінімальных пратэстах. І адбудзецца гэта не на інтэрнэтных форумах, а ў самым што ні ёсьць жыцьці.

У пэўным сэнсе гэта ўжо адбылося. Уся пратэстная пара выпускаецца ў сьвісткі. Адбылося, бо ў справе незалежнасьці ні ад кога з нас абсалютна нічога не залежыць. Нас адхілілі і мы ўхіліліся самі. Беларусь зноў па горла ў Расеі, а гэта значыць, што ніякая мара ня зьдзейсьнілася і ніякая адказнасьць ні з кога ня зьнялася. Зьдзейсьнілася толькі паўмары, на кароткі час. Бо як няма беларускай, дык ня будзе і Беларусі.

Ясна, што за трыццаць гадоў зьявілася мноства беларускай моладзі. Выдаецца шмат хай сабе і невялікатыражных кніг, беларушчына даволі шырока ўвайшла ў інтэрнэт. Але працэсаў шызафрэнічнага расколу сьвядомасьці гэта не спыняе. Толькі не пішыце рэцэптаў зьмены назвы краіны і нацыі, быццам за вамі гатовыя пайсьці мільёны ліцьвінаў**. Толькі не далдоньце бясконца пра псэўдаапазыцыю, быццам у нас ёсьць нейкая ня псэўда ці ўвогуле апазыцыя***. Не клікушнічайце таксама, што ўсё прапала, што нас затапталі. Пагляньце лепш, з чым мы засталіся. Без сымболікі і безь незалежнасьці.

А засталіся мы з мовай.

Вось што такое Беларусь. Мова — апошні рубеж і тое, чаго не адбярэ ніхто. Гэта адзіны інструмэнт і адзіная зброя шырокага цывілізацыйнага руху. Бяз мовы, бадай, і назвы ўжо гэтай не спатрэбіцца — Беларусь. А что вы, ребята, как нерусские? Ведь хорошо же всё. Шашлычки...

На той прэзэнтацыі кнігі Вінцук Вячорка згадаў пра канон, народжаны ў часы Майстроўні: родная мова беларусаў — беларуская (ня важна, на якой яны размаўляюць, яны ведаюць, што родную яны разумеюць і ў ідэале некалі не яны, дык іх дзеці загавораць). Гэты канон нарадзіўся ў палеміцы зь вершам Валянціна Тараса пра дзьве родныя мовы. Але, казаў Вінцук, гэта дзьве мовы Валянціна Тараса, паэта. Што да ўсіх астатніх, дык наяўнасьць дзьвюх родных мацярок ня можа быць нормай. Калі ў якасьці сродку зносін мы карыстаемся расейскай, гэта зусім ня значыць, што мова Пушкіна — гэта мова нашай мэнтальнасьці і сьвядомасьці. Пакуль у нас усіх адна духоўная маці — родная беларуская мова, датуль мы ня пензічы і не кастрамічы ці там минчане. Усярэдзіне беларускага народу няма ніякага моўнага канфлікту і шукаць яго — значыць яго ствараць. На маё адчуваньне, такі канон і сёньня глыбока сядзіць у беларусах. Гэта як бы адкладзенае на пазьней пытаньне, такі сабе грамадзкі кансэнсус не чапаць гэтай праблемы, пакуль для справядлівага яе вырашэньня проста няма магчымасьці, не прысьпеў час. Але што прысьпее, быццам бы, зразумела ўсім.

І галоўны водападзел у грамадзтве паміж тымі, хто мае мару і хто толькі імітуе нейкі рух — па мове. Гаварыць па-беларуску ў побыце — значыць, пераадольваць цемрашальства. Гаварыць у публічнай прасторы Беларусі па-расейску — значыць, падлабуньвацца да цемрашальства. Паўсюль, дзе фігурантам паўстае мова (СМІ, рок-музыка, судовыя працэсы...), адразу відаць галоўную лінію супрацьстаяньня ў гэтай краіне. Самую балючую і самую глыбокую. Выглядае, што родная мова — гэта найбольш эфэктыўны інструмэнт супраць маразму на ўсіх узроўнях улады.

Згадайце, колькі разоў першы прэзыдэнт казаў пра мітычныя чамаданы, на якія Шушкевіч з Пазьняком хацелі пасадзіць расейцаў. Шызафрэнія тут раскрываецца ва ўсёй сваёй «красе», бо адзіная праблема, якой прэзыдэнт ня можа (і ніколі ня зможа) даць рады — гэта родная мова. І рэч тут не ў міжнацыянальных закалотах, а ў тым, што беларусы маюць канон.

Я ведаю шмат этнічных расейцаў, якія сьведама гавораць па-беларуску. Як правіла, гэта заслужаныя людзі беларускай культуры. Нават калі толькі гэтыя этнічныя расейцы застануцца сьведама гаварыць па-беларуску, будзе Беларусь. Калі ж усе этнічныя беларусы пераключацца на расейскую, яны ня стануць заслужанымі людзьмі расейскай культуры, але і Беларусі ня будзе.

Няхай кожны гаворыць на той мове, на якой можа і хоча. Але найважнейшы канон беларускага грамадзтва — тое, што родная мова беларусаў беларуская, — пакідае нам мару і будучыню. Каму ўсьвядомленую, каму не ўсьвядомленую. Калі хочаце, гэта і ёсьць самая галоўная Беларуская Мара. І мы разам рушым далей, зьяднаныя гэтым канонам, а не падзеленыя і зьнішчаныя ракавай пухлінай білінгвізму.

Мы ўсьведамляем, што сёньня, пасьля стратаў сымболікі і перад абліччам страты незалежнасьці, толькі мова — усё, што ад Беларусі засталося і што па самым вялікім рахунку і ёсьць Беларусь.

*Калі расеец Маякоўскі напісаў «я люблю смотреть, как умирают дети», ці варта цяпер сацыялягічна дапытваць расейцаў, які адсотак іх таксама любіць гэты занятак. Затое многія тысячы камэнтатараў працягваюць абмяркоўваць радок Маякоўскага на форумах. Хтосьці — за, хтосьці — супраць. Ці гэта пра нешта сьведчыць у сэнсе асаблівасьцяў расейцаў і таго, што ім рабіць далей?

**Заклікі зьмяніць назву краіны на Літву ці нешта яшчэ справакаваныя менавіта прызнаньнем білінгвізму за норму; расейскамоўная Беларусь сапраўды не натхняе, як зрэшты не натхняла б і расейскамоўная Літва ці нешта яшчэ. Зь іншага боку, з чаго вы ўзялі, што ў пераназванай у Літву ці нешта яшчэ Беларусі беларускай мовы (літоўскай, ліцьвінскай, калі заўгодна) будзе больш? Проста верыцца?

***Нават расейскамоўнаму беларусу мэнтальна цяжка атаясаміць сябе з тымі, хто заклікае «Говорить правду» і ў графіці абвяшчае нашу любую радзіму «Территорией, свободной от лукашизма». Як мне ўспрымаецца, якраз гэтая территория ад яго найперш і несвабодная, бо гэтая расейскамоўнасьць у беларускай палітыцы сёньня — толькі ад яго.

## Мова дэмакратыі і мова дыктатуры

Усе нашы цывілізацыйныя праблемы мы церпім дзеля ўтульнасьці рускамоўных. «Тожа дземакраты» і «тожа беларусы» баяцца мовы, як савецкі турыст на выезьдзе: «Я жа там нічыво не пайму». Гэтая боязь нашмат глыбей, чым жаданьне перамен. Перамен хочацца розумам, а страх мовы сядзіць недзе ў гіпофізе, сярод іншых комплексаў непаўнавартасьці нашага глыбока правінцыйнага чалавека.

Нам сапраўды ўтульней пачувацца крыху рабамі і пры гэтым наракаць на сваё рабства, чым вызваліцца. Беларускамоўны беларус пачуваецца свабодным, але трэба не забываць, што другі бок свабоды — адказнасьць, пэўны цяжар. Быць роўным з расейцам, палякам ці немцам, але пры тым узваліць на сябе місію прадстаўляць сваю краіну, нацыю, культуру, бо ў табе бачаць тваю Беларусь.

Нам сапраўды ўтульна ўяўляць сваю краіну часткай Расейскай імпэрыі: тулякі, пермякі, мінчане, кацярынбуржцы, валагодцы... Дзякуючы скрозь расейскаму целіку многія так і пачуваюцца. Нічога ня трэба рабіць. Але пры гэтым... прагнуць перамен. Уявіце сабе рух «Европейская Вологодчина» ці кампанію «Говори правду» ў Таганрогу ці рух «За свободу» ў Кацярынбургу... Там таксама ёсьць праціўнікі дзейных губэрнатараў, але на агульную сытуацыю іх дзейнасьць уплывае ня больш, чым дзейнасьць нашых кампаніяў і рухаў. Чаму? Таму што і ня мусіць. Паводле прыроды сваёй.

Нам сапраўды ўтульна змагацца за перамены, глыбока ў душы іх ня хочучы. Мова — наш галоўны ўнутраны дыскамфорт. І гэта праўда, якую вам пацьвердзіць кожны беларускамоўны, які штодня перажывае гэты дыскамфорт у краме, у транспарце, у паліклініцы... Там сёньня праходзіць лінія фронту ў гэтай вайне за перамены. І калі ў цырульні беларускамоўны дэмакрат сустракае свайго калегу з апазыцыйнай кааліцыі, які пасуе пе-

рад рускамоўнасьцю асяродзьдзя, яны, тыя двое, апынаюцца па розныя бакі гэтай лініі фронту.

І колькі б пасьля яны не дэкляравалі адзінства дэмакратычных сілаў, гэтае адзінства немагчымае — на ўзроўні гіпофіза. Бо насамрэч адзін зь іх змагаецца за незалежнасьць краіны і наступныя за ёй дэмакратычныя эўрапейскія каштоўнасьці, а другі — за ўтульнасьць быць дэмакратам у расейскай правінцыі.

За гэтыя 18 гадоў мы згубілі ўсё, што магло б нас абʼядноўваць і ўзмацняць, што было б для нас каштоўнасьцю, якая не ператварылася ў пустаслоўе, мы страцілі ўсе аўтарытэты і каардынаты, якія некалі нешта значылі. У беларускай дэмакратыі больш няма нічога сьвятога. Апроч мовы. Гэтую каштоўнасьць згубіць проста немагчыма. Яна застаецца галоўным крытэрам адрозьненьня апазыцыі і ўлады, дэмакратыі і сатрапства, незалежнасьці і правінцыйнасьці, культуры і сэрвіроўкі царскага стала.

І калі сёньня я чытаю старонку вядомага апазыцыйнага палітыка ці знанага дэмакратычнага журналіста ў фэйсбуку па-расейску, я гіпофізам адчуваю, што мы гаворым на розных мовах: я на прыніжанай у Беларусі, але роднай мне мове дэмакратыі, ён — на навязанай яму мове каляніяльнае дыктатуры.

## Навошта нам расейская мова?

Як казаў беларускі паэт Уладзімер Дубоўка, нам няма чаго губляць, акрамя расейскай мовы. Казаў ён гэта ў 1920-я, калі кожны школьнік меў на слыху фразу «пралетарыяту няма чаго губляць, акрамя сваіх ланцугоў».

Клясык не памыляўся. Мінула амаль стагодзьдзе, а ягоныя словы са зьяўленьнем сеціва і магчымасьці выязджаць за мяжу робяцца ўсё больш надзённымі. Вядома, кожная мова — каштоўнасьць, расейская сёньня найчасьцей уваходзіць у жыцьцё беларусаў першай, і згубіць яе — калі б і хацелі — мы ня можам. Разам з тым нельга ня бачыць, што «русский мир» тае на вачах. За 20 гадоў расейская мова сышла з краінаў колішняга сацыялістычнага лягеру, са зьменаю пакаленьня яна пакіне краіны Балтыі. Пакіне ў тым сэнсе, што перастане быць абавязковай у камунікацыі.

Чаму так адбываецца? Ды таму, што Расея як дзяржава ў цывілізацыйным пляне ня дала нічога, чым бы карысталіся ўсе людзі па ўсім сьвеце. І ўжо ня дасьць. Па-першае, таму што зьявіўся магутны вытворца ўсяго Кітай, які, праўда, сам таксама нічога не прыдумаў, па-другое, таму што час імпэрыяў незваротна мінуў. Настолькі мінуў, што гаворка ўжо ня йдзе пра дзяржаўнае ці грамадзкае ўладкаваньне, а пра адпаведнасьць глябальным стандартам чалавечага жыцьця. І сёньняшняя тэза пра тое, што «нам не пасуе заходняя дэмакратыя» — ня што іншае паводле сэнсу, як «я свой народ за цывілізаваным сьветам не павяду». Інакш кажучы, дэмакратыя — усяго толькі рыторыка, гаворка ідзе пра тое, наколькі цывілізавана мы жывем.

Мы ведаем вялікую расейскую культуру XIX ст., можа быць, самую вялікую на той час. Але сёньня ў самой Расеі ніхто не гаворыць мовай Пушкіна і Чэхава, бо мова сёньняшняй расейскай літаратуры імкліва напаўняецца запазычаньнямі і зьмяняецца на вачах.

Сьвет захапіла мова кампутараў і інтэрнэту — ангельская. Ніхто не пярэчыў гэтаму захопу, бо інгліш нікога не перарабляе

на ангельцаў і нічыю родную мову не выцясьняе з жыцьцёвай прасторы. І ў Беларусі, на добры розум, другой пасьля роднай мовы мусіць быць ангельская.

Але й тут умешваецца расейская, якая на асацыятыўным узроўні замінае беларусу разумець ангельскую. Actually — зусім не актуальна, prepare — не прэпарат, similar не сымулянт, present не прэзэнт, occupation — не акупацыя, preserve — не прэзэрватыў... Такіх прыкладаў сотні. Заўважце, у іншых славянскіх мовах падобныя запазычаньні глядзяць у правільным кірунку, што, вядома ж, спрыяе паразуменьню. І толькі ў расейскай (а празь яе і ў беларускай) яны — як чыгуначныя рэйкі на мяжы мяняюць сваю шырыню — набываюць іншае значэньне.

Працэс звужэньня «русского мира» бачны няўзброеным вокам. Мабыць, завершыцца ён разам з канцом расейскае лібэралізацыі. І беларусам варта было б думаць не пра «русскоязычную белорусскую культуру», а пра той сьвет, у якім будуць жыць нашы дзеці і ці будзе там увогуле культура.

Расейшчына нікуды ня дзенецца, мы асуджаныя на яе прысутнасьць. Яна будзе ўвесь час навязвацца нам з усходу, як сэрвісы mail.ru нахабна і гвалтоўна, нібы вірус, пранікаюць у нашы кампутары. Сёньня іх выкалупаць адтуль ужо складана, заўтра будзе немагчыма.

Таму няма ніякіх падставаў чапляцца за расейскую мову ані як за сродак дачыненьняў, ані як за мову культуры, ані як за носьбіта нейкай духоўнасьці. Пройдзе зусім няшмат часу і мова імпэрыі і дыктатуры зойме сваё роўнае месца сярод іншых нацыянальных моваў, незалежна ад фармату краіны — побач зь літоўскай і грузінскай, баўгарскай і татарскай, чачэнскай і беларускай. А прынцыпова рускамоўныя насельнікі Беларусі праз пакаленьне ці два як зьява перастануць існаваць.

Бяда, што зь Беларусі, дзе ўсе трансьлятары крычаць адваротнае, дзе тэлевізія запоўненая расейскай папсой, расейскай прапагандай і расейскімі пераробкамі заходніх ток-шоў, дзе гвалтам закрытыя беларускія школы, забароненыя беларускія пісьменьнікі і рок-гурты... — з такой Беларусі гэтага не відаць.

# НАРОД

## Тайна шасьці мільёнаў

### *Беларусаў да рэвалюцыі не было?*

Нацыянальная ідэя пачынаецца з назвы. Таму каб адшукаць вытокі беларускай ідэі, мы мусілі б высьветліць, хто й калі ўпершыню назваў сябе беларусам — у тым сэнсе, у якім ужываем гэтую назву мы — як самавызначэньне сябе й сваёй супольнасьці, на якое адгукаюцца ня толькі нашы веды, але й нашы сэрцы, наша неўсьвядомленае. Гэта мусіць быць гістарычны выпадак, які стаў азарэньнем і адкрыцьцём, а ў выніку — прэцэдэнтам, які «зачапіўся» ў пэўным коле і пачаў пашырацца на іншыя асяродкі.

Беларуская ідэя ня мела гатовага гістарычнага шаблёну, паводле якога трэба было, напрыклад, старадаўнюю Літву або Русь адрадзіць у выглядзе сучаснай Літвы або Русі, бо ніякай старадаўняй Беларусі — як дзяржавы — ніколі не йснавала. Таксама мы ня маем прыкладаў таго, каб нейкая ўлада імкнулася накінуць тутэйшаму люду імя беларусаў. Таму міт Беларусі й павінен быў узьнікнуць «зьніадкуль», дакладней, з цалкам ірацыянальнага зруху чыйгосьці сэрца.

Беларуская ідэя, як аб’яднаньне людзей паводле роднасьці гэтых самых «зрухаў сэрца», ніколі рэальна не падтрымлівалася дзяржавай і таму не вырастала да жанраў пэдагогікі альбо ідэалёгіі, а йснавала ў жанрах паэзіі, музыкі, мастацтва, часта надоўга прападала, пасьля нечакана зьяўлялася зноў, іншы раз у самых нечаканых умовах і самым загадкавым чынам, але заўсёды з тым самым ірацыянальным зьместам.

Менавіта так мы гэта ўсё адчуваем сёньня. Але ці так яно было насамрэч?

* * *

Псыхалягічна, калі мы называем сябе беларусамі, мы перажываем пачуцьцё роднасьці зь іншымі, хто таксама называе сябе беларусам, нашы сэрцы б'юцца ва ўнісон, мы маем на ўвазе нешта неўсьвядомленае, але такое самае. Калі ж адзін з нас называецца беларусам, а іншы літвінам, русінам, тутэйшым ці магілёўцам, мы не перажываем пачуцьцё адзінства, бо адносім сябе да розных груп. У найлепшым выпадку гэта пачуцьцё суседзтва.

Найчасьцей за пункт адліку беларускай ідэі бярэцца «Прадмова» віленскага адваката Францішка Багушэвіча да ягонага паэтычнага зборніка «Дудка беларуская», дзе аўтар растлумачыў, што нашу «мужыцкую» мову трэба называць беларускай, і што яна «такая ж людзкая й панская, як і француская, альбо нямецкая, альбо й іншая якая», і што мы самі ўсе — беларусы, а Беларусь — гэта краіна «ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава».

«Дудка беларуская» Ф. Багушэвіча ўпершыню выйшла ў сьвет у Кракаве ў 1891 г. А ў 1910 г. у Санкт-Пецярбургу ў зборніку «Формы национального движения в современных государствах» выходзіць артыкул Антона Луцкевіча «Беларусы». І Луцкевіч пачынае сваю працу са статыстычнага факту: «Перапіс 1897 году налічвае ў Расейскай імпэрыі 5 885 547 беларусаў».

Можна па-рознаму ставіцца да царскай статыстыкі. Але ніяк не выпадае амаль шэсьць мільёнаў тых беларусаў разглядаць як статыстычную памылку. Пры гэтым самым пераканаўчым момантам тут зьяўляецца аўтарытэт Луцкевіча, які ня стаў бы пачынаць знаёмства асьвечанай расейскай публікі з «новай нацыяй» лічбамі, якія лічыў фальшывымі. Вось як ён сам пракамэнтаваў прыведзеную лічбу:

«Аднак лічба гэтая наўрад ці можа лічыцца дакладнай; розныя меркаваньні мясцовай палітыкі, перадузятасьць, зь якой падыходзілі да зьбіраньня зьвестак арганізатары перапісу, адсутнасьць нацыянальнай самасьвядомасьці сярод шырокіх народных мас, — усё гэта робіць зьвесткі пра нацыянальны склад наагул, а ў прыватнасьці пра лік беларусаў маладаставернымі.

Больш даверу заслугоўваюць навуковыя дасьледаваньні ў гэтым пытаньні, якія належаць праф. Карскаму, які, кіруючыся лінгвістычнымі асаблівасьцямі беларусаў, налічвае іх колькасьць у Беларусі лічбаю больш за 8 мільёнаў».

Луцкевіч гаворыць пра заніжэньне лічбы афіцыйнага перапісу, але не аспрэчвае «якасьці» тых амаль шасьці мільёнаў. Зрэшты, цяжка ўявіць, каб у часы афіцыйнай забароны беларускай мовы і самой назвы Беларусі афіцыйная статыстыка падавала б яшчэ большую лічбу беларусаў.

* * *

А вось як камэнтуе зьвесткі таго перапісу сучасны дасьледнік Павал Церашковіч:

«На працягу 2-й паловы 19 стагодзьдзя ў этнічнай самасьвядомасьці беларусаў адбыліся істотныя зьмены. Паводле перапісу 1897 году, 74% насельніцтва Беларусі лічылі роднай мовай беларускую. Да беларусаў сябе адносілі каля 43% саслоўя дваран. Роднай мовай беларускую лічылі 40% чыноўнікаў, 10% юрыстаў, 20% лекараў, 29% паштова-тэлеграфных службоўцаў, 60% настаўнікаў. Сярод сялянства назва «беларусы» выцесьніла большасьць лякальных этніконаў. Тэрмін Беларусь замацаваўся за ўсёй этнічнай тэрыторыяй Беларусі».

Выглядае, што ў цэлым нацыянальная дасьпеласьць беларусаў у 1897 г. была параўнальная зь сёньняшняй, а зусім не адрозьнівалася радыкальна і, тым больш, не адсутнічала наагул, як сьцьвярджала пазьней савецкая ідэалёгія і што трывала зама-

цавалася ў сьвядомасьці ня толькі паспалітых беларусаў, але й навукоўцаў.

У сёньняшняй сьвядомасьці беларусаў з савецкіх часоў пашыранае ўяўленьне, быццам сама беларуская нацыя была плёнам Кастрычніцкай рэвалюцыі, прынамсі ўзьнікла пасьля яе. Перапіс 1897 г. аспрэчвае гэтую тэзу й тлумачыць, адкуль, зь якога асяродзьдзя, на якім падмурку сфармавалася цяперашняя беларуская нацыя. Мы можам зь лёгкасьцю ўявіць наступную гісторыю — што з гэтымі шасьцю мільёнамі станецца ў будучыні. Чаго мы пакуль уявіць ня можам, чаго не тлумачыць перапіс і не праясьняюць наяўныя трактоўкі гісторыкаў — адкуль тыя шэсьць мільёнаў узяліся.

* * *

Зразумела, што ў масе сваёй яны не чыталі Багушэвіча. Іхнай беларускасьці іх не вучылі ў школе. І саміх школ беларускіх, нібыта, не йснавала, як не йснавала па-беларуску газэт, тэатраў, багаслужбаў... Прынамсі, гэтак мы сабе той час уяўляем. І жылі тыя людзі не ў Беларусі, а ў Паўночна-Заходнім краі. І ніякае ранейшае Беларусі яны ня ведалі, бо, як мы ўжо казалі, ніколі ў гісторыі ніякай Беларусі й не было. І тут раптам — шэсьць мільёнаў беларусаў і сярод іх — дваране і лекары з настаўнікамі, для якіх беларуская мова — родная... Зусім кандыцыйная як для эўрапейскай нацыі напрыканцы XIX ст. колькасьць і якасьць. Гэта зьдзіўляе, бо ў сучасных дасьледнікаў беларускай гісторыі таго пэрыяду даўно сфармаваўся стэрэатып, што ўсіх, хто ў тагачаснай Беларусі мог заявіць пра сябе, як пра беларуса, мы ведаем ледзьве не паймення.

Такі стэрэатып — вынік таго, што кожнае новае пакаленьне беларусазнаўцаў (у тым ліку й сёньняшняе) выходзіла не са школы, а нараджалася «зрухам сэрца» і кожны дасьледнік або паэт пачуваўся сам сабе Багушэвічам — першапраходцам. Школа і пераемнасьць ведаў усяляк разбураліся на працягу XX ст., тэксты папярэднікаў забараняліся і падлягалі зьнішчэньню, а самі

іх аўтары часта рэпрэсаваліся. Вось чаму ў беларушчыне ўмацавалася агульнае адчуваньне, што кожны новы дасьледнік або паэт пачынае «з чыстага ліста». І гэты «чысты ліст» — XIX ст. А тут аказваецца, што на лісьце тым не пустата, а — ажно 6 мільёнаў.

* * *

Першую згадку Беларусі гісторыкі знаходзяць у матэрыялах XIII ст. На працягу наступнай гісторыі гэтае імя вандравала па розных краях, пакуль не спынілася на ўсходніх землях сёньняшняй беларускай тэрыторыі. Гэты працэс і гэтую гісторыю мы пакідаем за рамкамі нашага артыкула, бо да «зрухаў сэрца» яны ня маюць непасрэднага дачыненьня. Калі Ян Баршчэўскі назваў свой чатырохтомнік «Шляхціц Завальня або Беларусь у фантастычных апавяданьнях» (1844–1846), ён меў на ўвазе родную Віцебшчыну. Калі Іван Насовіч выдаваў свой «Словарь белорусского наречия» (1870), ён асацыяваў Беларусь з роднай Магілёўшчынай...

Дзясяткі й сотні падобных выпадкаў ужываньня назваў «Беларусь» і «беларускі» ў дачыненьні да сёньняшніх усходнебеларускіх земляў адносіліся толькі да тэрыторыі, а сваім зьместам адпавядалі ідэі рэгіяналізму. Гэта значыць, да сучаснага разуменьня нацыі не дацягвалі. Але частотнасьць ужываньня гэтых назваў дазваляе дапусьціць, што не заўсёды яны мелі толькі тэрытарыяльны або краёвы зьмест. Верагодна, мы маем справу з эвалюцыяй саманазываньня ад тэрытарыяльнай, канфэсійнай, дзяржаўнай ці якой іншай прыналежнасьці да нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

Літаратар і дасьледнік Кастусь Цьвірка прыводзіць такі прыклад у зборніку «Філяматы і філярэты»:

«Францішак Малеўскі, як і ўсе філяматы і філярэты, зь вялікай пашанай ставіўся да фальклёру, да мовы свайго беларускага народа, што таксама праявілася ў «Tygodniku Petersburskim». Гартаючы тыя нешматлікія нумары газэты, якія захоўваюцца

ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, я нечакана натрапіў на даволі цікавую ў гэтых адносінах публікацыю ў нумары 95 за 1835 год. Гэта агляд кнігі, якая выйшла ў той час на беларускай мове й называлася «Кароткі зборнік хрысьціянскай навукі для сялян, якія размаўляюць на руска-польскай мове». Безыменны аўтар агляду гэтай кнігі, выказваючы сваё задавальненьне з прычыны яе выхаду, зазначаў: «Першы раз здараецца нам бачыць кнігу, напісаную на гаворцы, на якой размаўляе просты люд у Літве і Беларусі. Гэта — малавядомая частка роднай нашай мовы, якая распаўсюджана на шырокай прасторы зямлі і якая сьведчыць пра рускае паходжаньне яе жыхароў. Гаворку гэтую правільна называць ня польска-рускай, а беларускай...» Думаецца, аўтарам гэтага агляду беларускай кнігі быў ня хто іншы, як сам Францішак Малеўскі».

Такім чынам, задоўга да Ф. Багушэвіча ледзьве ня тымі самымі словамі — гэта значыць, у нашым сучасным разуменьні — пра беларускую мову выказаўся Ф. Малеўскі. Праўда, ён жа акрэсьліў і той эвалюцыйны фон, на якім паўставалі наватворы «беларус» і «беларускі».

Інакш кажучы, тут мы набліжаемся да «чыстага ліста», бо «малавядомая частка мовы» і «рускае паходжаньне жыхароў» — гэта й ёсьць поўная адсутнасьць беларускай ідэі.

Выходзіць, што менавіта за гэты прамежак часу — ад 1835 да 1897 г. на нашым «лісьце» і зьявіліся шэсьць мільёнаў беларусаў. Магчыма, так яно й было, калі паверыць у пасіянарную сілу нацыянальнага самаўсьведамленьня, што па ўсім сьвеце прыпала якраз на гэты час. Але сіла гэтая ў нашым выпадку мусіла быць проста неверагоднай, бо нішто ў краі не спрыяла таму, каб людзі пачалі масава называць сябе беларусамі. На далучаных да расейскай імпэрыі землях Вялікага Княства Літоўскага адбывалася плянамерная русіфікацыя. Быў зачынены Віленскі ўнівэрсытэт, найбольш актыўная пратэстная частка насельніцтва рэпрэсавалася, мноства такіх было забіта і саслана ў Сібір альбо ратавалася на эміграцыі. Тым часам абсалютная большасьць народу стаілася й думала толькі пра самазахаваньн-

не, імкнулася ніяк не выяўляць сябе, ня тое што горда заявіць урадаваму перапісчыку: «Я — беларус».

* * *

Пасьля паўстаньня 1863 г. і без таго неспрыяльныя для беларускай самаідэнтыфікацыі ўмовы пагоршыліся шматкроць. Варта ўявіць сабе атмасфэру, што запанавала ў акупаваных наезджай расейскай бюракратыяй землях, каб зразумець, што ня толькі росту самасьвядомасьці не магло быць, але й тым, хто ўсьвядоміў сябе беларусам, лепей было схавацца за найменьне «рускага» або «тутэйшага». Вось як характарызуе гэты фон сучасьніца падзей — Н. Ланская ў сваёй кнізе «Абрусіцелі» (1887):

«Некалькі гадоў таму заходні край быў цэнтрам, куды сьцякалася вялікае мноства людзей вялікарускага паходжаньня пераважна і праваслаўнага вызнаньня абавязкова. У той час край уяўляў сабою арэну, дзе, нічым не рызыкуючы, можна было тысячу разоў вылучыцца, выйсьці, што называецца, у людзі і пасьля, супакоіўшыся на ляўрах, вымавіць з спакойным сумленьнем: мы абрусілі. Сюды імкнуліся ўсе тыя, хто быў чымсьці не задаволены ў сябе ўдома: кожны, каго абышлі чынам, месцам ці ўзнагародай, чый не прынялі ці вярнулі праект, чый маёнтак, у выніку новых парадкаў, прыйшоў у заняпад, а ўзяцца за справу не было ні ўменьня, ні сілы — усё гэта сьпяшалася ў заходні край. Тутака сьцякаліся людзі ўсялякіх прафэсіяў, узростаў і станаў: маладыя, старыя, аматары пажыць і тыя, што пражыліся дазваньня, расчараваныя ў каханьні, падманутыя ў жыцьці і тыя, што самі падманвалі, — усе пнуліся сюды з ліхаманкавай пасьпешлівасьцю...

Атэстатаў аніякіх не патрабавалася: дастаткова было прыехаць з Расеі і заявіць сябе праваслаўным, каб атрымаць права на такія ільготы, правы і перавагі, якія ператвараліся ў сапраўдны рог дастатку. Можна таму ўявіць, якая колькасьць рознае навалачы запаланіла гэтыя бядотныя 9 губэрняў! Які кантынгент ілжы, подласьці, усялякіх падманаў, подкупаў, фальшу й маральнае

распусты прынесла з сабой гэтая праваслаўная армія згаладалых, сасьмяглых і нецярплівых! Нібы саранча, кінуліся яны на гатовыя месцы, сьпяшаючыся захапіць усю тую прастору, ачышчаную для іх гвалтам; цырымоніцца не было патрэбы, і пад выглядам абрусеньня і прапаганды праваслаўя гэтыя заваёўнікі перасьледавалі такія мэты, якія ня мелі нічога супольнага ні з рэлігіяй, ні з маральнасьцю, ні нават з палітыкай сапраўднага абрусеньня...».

Парадокс! Аўтарка не ўжывае тэрмінаў «беларусы» і «Беларусь». Але апісвае якраз той «чысты ліст», на якім, нібыта, у гэты самы час «вымалёўваліся» нашы шэсьць мільёнаў.

А можа, гэта ўсё гістарычная фантастыка і не было ніякага «чыстага ліста»?

* * *

Прыведзеная вышэй цытата з Ф. Малеўскага ўскосна пацьвярджае вэрсію пра першапачатковае ўзьнікненьне беларускай нацыянальнай ідэі ў асяродку віленскіх студэнтаў пачатку XIX ст., дакладней, у таемных таварыствах філяматаў і філярэтаў. Менавіта там «зрухі сэрца» з ірацыянальнага пачуцьця роднасьці былі пераведзеныя ў рацыянальную плоскасьць нашага сучаснага разуменьня нацыі. Хто быў тым першым аўтарам: Міцкевіч, Чачот, Зан, Дамейка ці Адынец, — мы ня ведаем. Але пэўна, што ён быў сярод іх.

Вядомыя факты пра Адама Міцкевіча, які пазьней у сваёй лекцыі ў Калеж дэ Франс назаве беларускую мову самай чыстай і з усіх славянскіх найменш зьмененай. Пра Антона Адынца, які будзе намаўляць Вярыгу-Дарэўскага, каб той рабіў літаратурную кар’еру не па-польску, а па-беларуску. Пра Яна Чачота, які зьбіраў, апрацоўваў і выдаваў беларускія народныя песьні, што сталіся вяршыняй ягонай уласнай творчасьці.

Характэрны прыклад актыўнага пошуку свайго нацыянальнага самаазначэньня ў філямацкім асяродку — ліст Яна Чачота да Ануфрыя Петрашкевіча з далёкага расейскага Кізілу у 1825 г., дзе Чачот апісвае становішча сваё і калег-філяматаў, што былі асуджаныя на ссылку за вальнадумства, і, паміж іншым, заўважае:

«Цяпер аранбургская лінія, можна сказаць, запруджана палякамі (так нас называюць тут і за такіх прымаюць)».

Філяматы і філярэты, што зьявіліся ў Віленскім унівэрсытэце ў 1817 г., сталі тым творчым асяродкам, які фактычна «прыдумаў Беларусь» — у яе сучасным разуменьні. Прынамсі, яны ўшчыльную падыйшлі да гэтага вызначэньня. Палякамі іх лічылі за шляхецкае паходжаньне, каталіцкае веравызнаньне і польскую мову, на якой яны пісалі свае творы. Самі ж яны лічылі сябе ліцьвінамі, а айчынай называлі Літву. І разам з тым, усе так ці інакш дакраналіся да найменьняў «беларускі» і «Беларусь». Заставалася зрабіць гэты апошні выразны крок, каб іхнія зрухі сэрца абазначыліся адным словам і пачала фармавацца новая супольнасьць.

Так мы гэта сёньня сабе ўяўляем. Аднак, што адбылося далей, мы ня ведаем. Мы маем справу з гістарычным правалам шырынёй у паўстагодзьдзя, на адным краі якога першыя нясьмелыя спробы назваць мову беларускай, а на другім — шэсьць мільёнаў чалавек, якія называюць беларускую мову роднай, а сябе — беларусамі.

Праблема «чыстага ліста» і пераемнасьці, магчыма, заключаецца ў пункце гледжаньня, у ракурсе гістарычнага дасьледаваньня і адсутнасьці канцэпцыі, якая б арыентавалася не на «чысты ліст», а на гэтыя самыя шэсьць мільёнаў і раскрыцьцё іхнае таямніцы. Беларусаў у сярэднявеччы магло ня быць не таму, што не было сучаснага разуменьня нацыі і не таму, што называліся яны неяк па-іншаму, а таму, што праз акуляры цяперашніх фрагмэнтарных гістарычных канцэпцыяў мы іх там яшчэ не разгледзелі.

Мы дагэтуль складаем сваю гістарычную мазаіку з кавалкаў даўніх польскіх альбо расейскіх канцэпцыяў, і самі, як нацыя, на стыках некуды прападаем. Мы ўрэшце пагадзіліся, што наша эвалюцыя не была суцэльнай і ў кожнай гістарычнай эпосе мы знаходзім сябе пад іншым імем, і кожнага разу шукаем новыя аргумэнты, каб даказаць генэалягічную датычнасьць сучасных беларусаў да тых даўніх продкаў.

У выніку сама беларуская ідэя выглядае такой вось мазаікай розных «зрухаў сэрца», дзе на стыках паміж каляровымі шкельцамі зьяўляюцца правалы, у якіх зьнікаюць мільёны нашых папярэднікаў-беларусаў.

# Стагодзьдзе палітычнага тэрору

## *Згубленыя ў Сібіры*

Узнаўляючы лёсы тысяч нашых землякоў, загубленых камуністамі ў ГУЛАГу, мы з адзінак складаем партрэт нацыі, якой яна магла б быць сёньня, але якой ня стала.

Надоечы давялося мне чытаць даўжэзныя сьпісы рэпрэсаваных у сталінскую пару ў Краснаярскім краі людзей. Дзясяткі, а можа і сто тысяч прозьвішчаў, партрэтаў і чалавечых лёсаў. Задача была — выбраць зь іх землякоў для Мартыралёгу Беларусі. Аказалася, зрабіць гэта няпроста, а да канца, мабыць, і немагчыма. Бо ня кожнага пазнаеш, што ён беларус. Але вось адзін чалавек, дзесяць, сто, тысяча... Паступова з адзінак складаецца пэўны калектыўны партрэт — прычым партрэт цэлага асобнага народу, так падобнага да нас і так непадобнага. Надзеленага тымі якасьцямі і рысамі характару, якія сёньня сустракаюцца нячаста і безь якіх так цяжка рухацца наперад. Не сакрэт, што першымі зьнішчалі першых. А заставаліся тыя, хто мог, у лепшым выпадку, моўчкі глядзець на арышты і рэпрэсіі, у горшым — дапамагаў. Гэтая рыса — непрацiўленства ад страху — жывая ў Беларусі дагэтуль.

Сталінскія рэпрэсіі толькі на імгненьне сталі ў нас першапалоснаю тэмай у часы перабудовы і зноў адышлі кудысьці на дальні плян. Сёньня гэта быццам бы мала каго цікавіць. Аднак, «мала цікавіць» у такой самай ступені, як «мала цікавяць» і зусім актуальныя палітычныя зьнікненьні ды арышты. Гэта адна прычына. Другая ў тым, што ўсё яшчэ ўзьдзейнічае на людзей гіпнатычны маштаб той бяды. А ў такім разе чалавек імкнецца пра яе не гаварыць і ня думаць. Як тыя габрэі, што пасьля вайны стараліся не гаварыць пра генацыд сваёй нацыі, які забраў шэсьць мільёнаў жыцьцяў. І адзінае, чаго зусім няма ў гэтай нашай «нецікавасьці» — дык гэта неактуальнасьці або вычарпанасьці тэмы. Яна ня можа перастаць быць важнай, пакуль ня

выказаная і пакуль не сфармаваныя да яе адносіны грамадзтва. Таму яна — гэтая тэма — нас яшчэ чакае.

Тым часам большасьць народаў гартаюць тыя расстрэльныя сьпісы, выбіраючы сваіх. Трагедыя мільёнаў тут стала статыстыкай і вось гэтая якраз статыстыка нас учорашніх і нас, страчаных назаўсёды, патрэбная нам, каб ведаць, хто такія мы сёньняшнія. І якімі мусім быць, якімі станем, бо з новымі пакаленьнямі генэтычна дабярэм, адновім тыя рысы характару, ад якіх пазбавіла нас сталінская сэлекцыя.

Урэшце, яшчэ адна патрэба перачытваць такія сьпісы — каб пазбавіцца ад стэрэатыпаў, што склаліся вакол тэмы рэпрэсіяў за апошнія гады. Напрыклад, пра тое, што схопленыя НКУС людзі не супраціўляліся. Якраз супраціўляліся — масава беглі з высылкі, з калёніяў, падымалі паўстаньні і бунты, большасьцю адмаўляліся прызнаваць прыдуманую ім віну. Але ж і душыўся іхны супраціў неміласэрна. Галоўны прысуд быў — расстрэл, а яшчэ — непераадольная Сібір навокал, а яшчэ — татальнае сэксоцтва па ўсім Савецкім Саюзе... Словам, вынікаў з таго супраціву быць не магло.

## ДОЎГІЯ СЬПІСЫ, КАРОТКІЯ ЛЁСЫ

Красляг — гэта толькі невялікая частка ГУЛАГу. Увесь ён неабдымны і няўяўны, як цэлы паралельны сьвет. Красляг — гэта сыстэма канцлягераў Краснаярскага краю. А гэты край — толькі частка Сібіры. Каб уявіць сабе ўсё ў цэлым, дастаткова сказаць, што на тэрыторыі Краснаярскага краю магло б зьмясьціцца адзінаццаць з паловай Беларусяў. А яшчэ гэта — тайга і тундра, рака Енісей, алені і аленяводы, эвэнкі і хакасы — карэнныя жыхары. Панаваньне дзікай прыроды тут фактычна паралізуе чалавека, які спрабуе ўцячы з-пад канвою.

Адшукваць беларусаў у расстрэльных сьпісах Краслягу сапраўды няпроста. Па-першае, для многіх нашых землякоў гэта была ўжо другая хваля рэпрэсіяў — пасьля калектывізацыі і высылкі

ў Сібір яны праходзілі другое, а хто і трэцяе кола пекла. Бо былі сярод іх і яшчэ колішнія, дарэвалюцыйныя перасяленцы, якія ўжо там абжыліся, завялі гаспадарку, і ўжо там былі раскулачаныя напачатку трыццатых, і ўжо там урэшце расстраляныя. Характэрная асаблівасьць гэтых, найстарэйшых беларускіх перасяленцаў у тым, што яны ў паперах запісаныя беларусамі.

Скажам, Кузьма Цітавіч Андрановіч, 1914-га году нараджэньня, беларус, ураджэнец вёскі Аскараўка Цюхцецкага раёну Краснаярскага краю. У 1930-м сям'ю бацькі, зь якім ён займаўся сельскай гаспадаркай, раскулачылі і выслалі ў тайгу, на раку Чулым. Бацька й маці памерлі з голаду. А Кузьма і яшчэ два браты ўцяклі. Вярнуліся на ранейшае месца. Заўважце, не змагацца ўцяклі, а проста жыць і працаваць. Кузьма пайшоў пільшчыкам. Нейкі час іх не чапалі. А тады выявілі, схапілі й далі па 10 гадоў канцлягеру.

Перасяленец Максак Захар Андрэевіч, родам з Аршанскага павету. У Ніжне-Інгашскім раёне ён так абжыўся, што нават вёску сваю назваў Максакаўка. Там дарэчы шмат падобных вёсак — ёсьць і Менск, і Брагін, і Беларуская. Дык вось гэтага Максака ў 1938-м разам з жонкай і трыма дочкамі арыштавалі ды пасадзілі ў Краснаярскую турму «за неданясеньне на сына Мікалая», якога год перад тым расстралялі. Так урэшце ўся сям'я і загінула.

А вось Цісецкі Начыпар Паўлавіч, 1885 году нараджэньня, беларус, ураджэнец вёскі Гарадзішча Менскай губэрні. Раскулачаны. Працаваў цесьлем на будоўлі раённай крамы. У 1937-м прысуджаны да расстрэлу. Расстраляны ў Канску а 3-й раніцы.

За што расстраляны — невядома. Як зрэшты і зь іншымі расстралянымі. Звычайна пісалі — прысуджаны да расстрэлу «ў справе Іванова» ці там Пятрова, усяго пяць ці пятнаццаць ці сорак восем чалавек. Альбо і зусім каротка — у справе нумар 10876. Часам, праўда, трапляюцца і расшыфраваныя матывы: за «неданясеньне», за «скрыціе» сацыяльнага паходжаньня, за пісьмо сваяку за мяжу, паводле падазрэньня ў шпіянажы на карысьць Латвіі, і найбольш часта — за к/р (контррэва-

люцыйную) дзейнасьць і а/с (антысавецкую) агітацыю. Прыз арыгінальнасьці атрымлівае наступны матыў: за неаддачу радыёпрыёмніка...

Шмат сярод ахвяраў тых, хто служыў у арміі Калчака. І сярод іх нямала беларусаў. Для гісторыкаў — цэлая тэма. Аляксей Дрон з Моталя на Кобрыншчыне быў высланы ў Ачынск, дзе працаваў бухгалтарам на інкубатарнай станцыі, пасьля расстраляны. А Кляменці Зузянок зь вёскі Калюга Менскай губэрні — наадварот — партызаніў супраць Калчака. Тым ня менш, атрымаў 10 гадоў Сібіры і ўжо праз два гады, у 1937-м, быў расстраляны. Георгі Казіміраў з Клімавіцкага павету служыў у Калчака пісарам, а Якаў Астапенка зь Верхняй Слабады Менскай губэрні быў афіцэрам, як і Агей Расолаў з Гомеля. І гэтак далей, сьпіс доўгі. Толькі сканчаюцца ўсе біяграфіі 1937-м годам...

Тых, самых старых сібірскіх беларусаў толькі па нацыянальнасьці мы і можам пазнаць. У каго яна не ўказаная — той губляецца сярод мільёнаў пакутнікаў, бадай, назаўжды. А, між іншым, не такая ўжо адназначная была справа напачатку мінулага стагодзьдзя запісацца беларусам. Яшчэ толькі фармавалася нацыя і яшчэ далёка было да стварэньня беларускай дзяржавы. Хіба што некаму патрапіла ў рукі кніжачка Францішка Багушэвіча або газэта «Наша Ніва». Асноўная сялянская маса краю яшчэ ня вызначылася. Казалі: мы — тутэйшыя. Хіба што касьцельныя парафіяне схіляліся запісвацца палякамі, а царкоўных запісвалі расейцамі. Расейцамі магла запісаць і тагачасная адміністрацыя, яшчэ й абрусіўшы пры гэтым прозьвішча чалавека — які-небудзь Каваль ператвараўся ў Кавалёва. Гэта я кажу для таго, каб лепей уяўлялася каштоўнасьць таго самавызначэньня нашых даўніх-даўніх землякоў, што перасяляліся ў Сібір і назаўсёды запісаліся ў дакумэнтах беларусамі, — нібы запавет пакінулі ўнукам ды праўнукам, маўляў, дзе б тыя ні апынуліся, мусяць ведаць, хто яны — і не прападуць у людзкім моры. Так яно ўрэшце і выйшла.

Другая хваля — гэта тыя, каго ў Сібір перапраўлялі прымусова, адабраўшы гаспадарку на бацькаўшчыне.

Вось Пётра Іванавіч Аніковіч, 1899 году нараджэньня. Селянін. У 1933-м «тройкай» ПП АГПУ БССР асуджаны на 8 гадоў. Тэрмін адбываў у Нарыльлягу. У 1937-м «тройкай» УНКУС Краснаярскага краю прысуджаны да расстрэлу.

Тут прынамсі ўсё просталінейна. А сустракаюцца і лёсы «з вывертам».

Да прыкладу, Анціпаў Яўхім Пракопавіч, 1870 году, ураджэнец Віцебскай губэрні. У 1930-м раскулачаны і за контррэвалюцыйны сабатаж (не хацеў, мусіць, дабро аддаваць нажытае, пратэставаў) засуджаны на 5 гадоў. Тэрмін адбыў. Пайшоў працаваць шорнікам ў калгас у Краснаярскім краі. У 1937-м забралі ў Канскую турму (гляджу на гады — яму ўжо 67), а там «тройка» прысуджае яго да расстрэлу. Расстраляны ў Канску ў 3 гадзіны раніцы. А мабыць чалавек, адбыўшы свае пяць гадоў, думаў, што ўжо не прычэпяцца.

Чапляліся. Чытаючы расстрэльныя сьпісы, міжволі спрабуеш знайсьці нейкую лёгіку ў паводзінах карнікаў. Але яе няма. Ёсьць ва ўсім гэтым нешта жывёльнае. Як камар ляціць не на чалавека, а на тэмпэратуру крыві, так і тут — розумам ня дойдзеш.

Зрэшты, красамоўныя і характарыстыкі тых, хто прысуджаў і хто расстрэльваў. Ёсьць і такія сьпісы.

Першае, што заўважаецца — гэта адукацыя. 2 клясы ці 4 клясы. Запомніўся нейкі Аляксееў Андрэй, ураджэнец Краснаярску, 2 клясы адукацыі, у органах з 1921 г., у партыі з 1924-га. Расеец. Начальнік Мінусінскага сэктара НКУС. Кіраваў апэрацыямі па выкананьні прысудаў да расстрэлу. Каго не дастралілі, загадваў дабіваць ламамі. Эканоміў патроны. Відавочна, перагібаў палку, бо ў 1938-м яго звольнілі з органаў. Дык ён усё пісаў хадайніцтвы Яжову, маўляў толькі ў 1937 г. ён асабіста арыштаваў 2300 трацкістаў, зь іх паўтары тысячы было расстраляна. Заслужыў панскую ласку...

Гэтаму яшчэ пашанцавала. А вось калегі ягоныя, напіўшыся крыві, часьцяком самі адпраўляліся пад расстрэл. Мабыць сьвежым кадрам не цярпелася свой адлік пачаць з новай старонкі. А тыя зь іх, хто прападаў, прападалі найчасьцей з фармулёўкамі: прадаваў каштоўнасьці, адабраныя пры вобшуках, за п’янства і маральнае разлажэньне, за недазволеныя мэтады допытаў. Як напрыклад, у сьледчага Жураўлёва, які мачыўся падсудным у рот. Праўда, у гэтага Краснаярск прайшоў гладка. Ён стаў начальнікам маскоўскага УНКУС, а ў 1939-м абраны членам ЦК ВКП(б). Яшчэ адзін Краснаярскі аматар катаваньняў Бліноў стаў пасьля вайны намесьнікам міністра МДБ СССР, генэрал-лейтэнантам.

Усякае бывала ў чэкістаў. Вось Зайцаў Васіль, зь сялян, адукацыя ніжэйшая, памылкова расстраляў двух чалавек — замест Варэса Івана Пятровіча забіў Варэса Яна Пятровіча (ведаў жа, пры ўсёй сваёй неадукаванасьці, што Іван — гэта Ян), а замест Пятрова Міхаіла Іванавіча 1909-га году нараджэньня расстраляў Пятрова Міхаіла Іванавіча 1910-га году нараджэньня.

Як бачым, сапраўдныя матывы расстрэлу бязьвінных людзей найлепей відаць не з пратакольнага запісу, а зь біяграфіяў іхных катаў. Можна таксама зірнуць і на біяграфію ўлады, якая ад пачатку стварала сьветлую будучыню далёка ня сьветлымі фарбамі. У Краснаярскіх расстрэльных сьпісах мне кінулася ў вочы некалькі такіх сьціснутых у даведку гісторыяў.

Наравецкі Дзьмітры, сьвятар у вёсцы Апан Канскага павету Краснаярскага краю. У 1918-м забіты краснымі, перад тым яго гналі распранутым, прывязаным да аглоблі ад вёскі Байкан, дзе катавалі, палілі валасы, звар’яцеў. Спалены, парэшткі закапаныя ў сьнег. Увесну вярнуліся. На 32 вярсьце ад Апана спалілі парэшткі...

Фокін, ураджэнец Ачынска. Сьвятар, паэт. У 1919 г. забіты партызанамі арміі Шчацінкіна, павешаны на ўласных валасах. Мноства вагнястрэльных і тры штыхавыя раны. Ну, у папа ж валасы доўгія, значыць яго за валасы і павесілі. Такая, мабыць, тут лёгіка...

Гэта самы, так бы мовіць, пачатак, калі закладаліся падмуркі новае ўлады. Праўда, статыстыка не перадае сапраўднага масштабу чалавечых трагедыяў, на тое ёсьць мастацкая літаратура. Але расстрэльныя сьпісы паказваюць, што везьлі сюды, у Сібір, усіх без разбору, выбіраючы хіба найлепшых, найярчэйшых. У гэтым мільённым людзкім патоку можна разгледзець і заслужаных рэвалюцыянэраў, што штурмавалі Зімні, і ленінградзкіх блякаднікаў, якія, праўда, не даязджалі ад згаладненьня — даводзілася здымаць з этапу мёртвых. І вязьняў нямецкіх канцлягераў — гэта ўжо пасьля вайны.

Вось беларус Уласік Мікалай Сідаравіч, ураджэнец вёскі Бабынічы Слонімскага павету. У ворганах ВЧК-АГПУ-НКУС-МДБ зь верасьня 1919-га. Начальнік асабістай аховы Сталіна. Генэрал-лейтэнант. У 1952-м арыштаваны, засуджаны на 10 гадоў у Краснаярск.

А вось — Уладзімер Дубоўка, беларускі паэт, надзея айчыннай літаратуры, якога арыштоўвалі тройчы, засуджаны на 5 гадоў высылкі, 10 гадоў лягераў, у Краснаярску ён зьявіўся ўжо пасьля вайны — на пасяленьні.

А вось Гунціс Улманіс, які ў 1994-м стане прэзыдэнтам Латвіі, а вось беларускі пісьменьнік Чарнушэвіч, які пасьля лесапавалу ў Комі АССР будзе ў Енісейску працаваць школьным бухгалтарам, а вось каталіцкі сьвятар Еранім Цярпента родам зь Вялейскага павету, ён будзе служыць у Бабруйску перад сваёй доўгай сібірскай адысэяй, якая скончыцца расстрэлам у Краснаярску. А вось жонка беларускага пісьменьніка, таксама рэпрэсаванага і сама пісьменьніца Тамара Цулукідзэ, якую будуць двойчы пазбаўляць волі — спачатку ў Варкуце, а пасьля ў Краснаярску — усяго на 17 гадоў. А вось Адам Шапіра, былы савецкі пасол у Румыніі з даволі арыгінальным як для пасла прысудам — 25 гадоў канцлягера за сувязь з замежнікамі.

Няма канца гэтаму сьпісу. І тое заўважаю, што набіраюцца збольшага, мажа, ня самыя фатальныя лёсы. Бо ў абсалютнай большасьці лёсы сканчаюцца словам «расстрэл».

Вось яшчэ некалькі жыцьцяў людзей не настолькі відных, але пералжыць якім давялося ня менш. Леанід Пятровіч Ажар, студэнт менскага палітэхнічнага, апынуўся пад нямецкай акупацыяй, зьвязаўся з партызанамі, пасьля забралі на фронт. Ваяваў, вярнуўся і працягваў вучобу ўжо ў Маскве. Арыштавалі, засудзілі на 8 гадоў у Краснаярск. Канец гісторыі гучыць так: памёр раптоўна на вуліцы ад радасьці, атрымаўшы пасьведчаньне аб рэабілітацыі.

Беларус Іван Бань яшчэ ў 1921-м стаў сакрэтным супрацоўнікам АГПУ. У 1924-м паравербаваны польскай разьведкай, у 1933-м затрыманы пры пераходзе мяжы. Сасланы ў Мінусінск, дзе працуе сакратаром райлясгасу. У 1939-м арыштаваны і расстраляны.

Польскімі шпіёнамі запісвалі ўсіх беларусаў, якія, асабліва моладзь, ірваліся з-пад прыгнёту панскай Польшчы ў камуністычны рай на ўсходзе, у БССР. Яны неяк умудраліся нелегальна перайсьці мяжу. Мяжа тады была зусім недалёка ад Менску, у Негарэлым. А тут іх, замест братэрскіх абдымкаў, сустракаў калючы дрот і этап у Сібір. Яшчэ больш-менш пашанцавала Алесю Зянкевічу, які пераходзіў мяжу ў 1927-м і быў запратораны ў Краснаярск — да высьвятленьня. І, здаецца, выжыў. А вось тым, хто падаўся ў СССР у 1930-я, акрамя кулі, не сьвяціла нічога. Тады ўжо не разьбіраліся. Як, напрыклад, зь Якубам Філіповічам з Лазянаў Лідзкага павету. У 1937-м ён быў расстраляны ў Краснаярску ў складзе групы з 41 чалавека.

Статыстычны характар сьпісаў дазваляе па-свойму зірнуць на беларускую анамастыку — гэта значыць на партрэт нацыі праз прозьвішчы яе людзей. Скажам, у літоўцаў такой праблемы не існуе. Эстонец, нават калі ён Іван Іванавіч Іваноў, а такіх няма ла, абавязкова скажа, што ён эстонец. Адразу таксама відаць кітайца або карэйца. А вось беларусы — з самымі каларытнымі беларускімі прозьвішчамі, запісаныя часьцяком расейцамі або палякамі або ніяк. Напрыклад, Апановіч, Арцымовіч, Барэйка, Барташэвіч, Батура, Бяленя, Вайтовіч, Дзергавец, Драздовіч, Дударэвіч, Дудкевіч, Жданковіч, Журавель, Журовіч, Жук, Лукша, Нямцэвіч, Навіцкі, Савіцкі, Сазончык, Старавойтаў, Сташке-

віч, Ціхановіч... Вылучыць іх дазваляе толькі месца нараджэньня. Праўда, сярод ураджэнцаў Беларусі і нават людзей з адной мясцовасьці сустракаюцца людзі з адным прозьвішчам, але рознымі нацыянальнасьцямі — беларус і расеец. Чэрня ёсьць беларус і ёсьць паляк, а Зінкевіч — беларус, паляк і расеец. Што можа лепей сьведчыць пра асыміляцыйныя працэсы, пра тое, што іншай асыміляцыі, апроч польскай і расейскай, беларусы ў сваёй гісторыі масава не падлягалі.

## «ВІНЫ НЕ ПРЫЗНАЎ»

У прынцыпе, краснаярскія канцлягеры нічым не адрозьніваліся ад нямецкіх. Хіба што слабей былі разьвітыя тэхналёгіі зьнішчэньня. Але ў вынаходніцтвах маглі б і паспрачацца. У немцаў лепшыя заводы, у красных — лепшыя рацыяналізатары. Так склалася спрадвеку. Але сутнасьць тых і тых была аднолькавая. Нездарма пасьля вызваленьня з Асьвенцыму чалавек мог запраста трапіць у Красляг. Быццам і сапраўды бяда бядою прырастае.

Сьлядоў пратэсту ў справах рэпрэсаваных амаль няма. Найбольш выразны зь іх — у кароткай пратакольнай фразе: «віны не прызнаў». І няхай сабе наступнае слова заўсёды будзе «расстраляны», але... Ён жа не для сябе віну не прызнаў — ён і так ведаў, што невінаваты. І, зразумела, не для сьледчага, які адпрацоўваў на ім самыя неверагодныя спосабы катаваньня. Ён гэта для пратаколу, а значыць, з надзеяй, што некалі пратакол патрапіць да тых, хто здолее зразумець, што здарылася і што забіты быў ня злодзей, а наадварот — чалавек годны.

Мы ж сёньняшнія можам хіба што канстатаваць знаходку вось гэтага напятага як нэрв: «віну не прызнаў». Згадзіцеся, за наступныя пасьля ГУЛАГу гады фраза зусім перастала што-небудзь значыць. Каго хвалявала ў часы Брэжнева і Машэрава, прызнаў ён віну ці не прызнаў. Проста ня верылі. Казалі — дзіва што, яму турма сьвеціць або расстрэл — які ж гэта дурань прызнае сваю віну!

І дэвальвавалася фраза настолькі, што яе нават перасталі пісаць у пратаколы! Вось што адбылося. І вось што працягвае адбывацца. Публіка ведае, што суд няправедны, калі, скажам, судзяць у нас палітычных. Але публіка не ўстае на бок ахвяры. Бо ў публікі зламаны хрыбет. Гэта значыць, што арышты і зьнікненьні, якія адбываюцца ў наш час паводле палітычных матываў, лепей не заўважаць, не прымаць да ведама. Хай жменька крыкуноў крычыць — заўтра і яны могуць адправіцца сьледам. Па вялікім рахунку, публіка гатовая да паўтарэньня гісторыі.

## «Вас тут няма»

Беларускія адносіны да сталінскіх рэпрэсій у цэлым ніякія. Па-першае, надакучыла чуць і чытаць адно й тое ж. Па-другое, што нам да таго раскулачваньня і НКУС — забытая гісторыя. Па-трэцяе, Сібір і ГУЛАГ бясконца далёка ад нас, дзесьці за Ўральскім хрыбтом, пры чым тут мы?

Дзяржаўная прапаганда ня толькі песьціць такое самапачуваньне, але й дадае ў яго новыя стымулятары забыцьця. Маўляў, рэпрэсіі былі неабходныя для пабудовы магутнай індустрыі, а чэкісты ад перагібаў цярпелі разам з народам і ледзьве не больш за яго, таму мы ўрачыста адзначаем кожную гадавіну іх слаўнай арганізацыі, а тых, каго яны расстрэльвалі, катавалі ды адпраўлялі ў канцлягеры, іх душы і лёсы па-ранейшаму трымаем у сакрэтных архівах. Бо вы ж разумееце, калі асудзілі, значыць, нешта там было, было за што.

Інакш кажучы, беларускія адносіны да сталінскіх рэпрэсій дзяржава фармулюе з гледзішча тых, хто рэпрэсаваў. І справа тут не ў каварным разьліку ці палітычнай мэтазгоднасьці, а ў прыродзе цяперашняй улады.

Уявіце сабе такую сытуацыю. Сёньня ноччу да вас у кватэру прыходзіць спэцназ, вас безь ніякай прычыны забіраюць у невараць, у невядомасьць, у забыцьцё. А заўтра ў вашай кватэры пасяляецца нехта іншы, хутчэй за ўсё, той, на падставе даносу якога вас і забраў спэцназ. Такім чынам, у спэктаклі тры суб’екты. Вы, спэцназ і той, што заняў вызваленае ад вас месца. Вось жа паводле прыроды сваёй сёньняшняя ўлада — гэта той трэці. А сьветаадчуваньне трэцяга навязваецца ў якасьці сьветаадчуваньня ўсёй беларускай нацыі.

* * *

У сярэдзіне 1980-х у Гомелі нам удалося запісаць успаміны жонкі Аляксандра Ўласава — пра мужа, цэнтральную постаць беларускага адраджэньня XX ст., першага рэдактара «Нашай Нівы», адукаванага інтэлігента і чалавекалюба. Калі ў Заходнюю Беларусь у 1939 г. прыйшлі бальшавікі, перамяніўся сьвет. Уласава пасадзілі ў турму ў Маладэчне. Жонка Ўласава ўспамінала:

«Я дзяжурыла пад вокнамі турмы, дамагалася сустрэчы з мужам, але безвынікова. Дадому, у фальварак Мігаўка, вярталася пешкі. Было марозна, зорнае неба. Грукаюся ў дзьверы свайго дому, работніца не адчыняе, адказвае: «Вас тут няма. Дзеці ў суседкі»».

Вас тут няма — так сёньня гучыць калектыўны адказ беларускай нацыі сотням тысяч сваіх рэпрэсаваных папярэднікаў. Быццам мы занялі іх кватэры і дамы, іх месцы. Вас тут няма...

* * *

У Беларусі тэма сталінскіх рэпрэсій ніколі й не выходзіла на ўсенародны ўзровень. Як, скажам, у Расеі, дзе масава чыталі свайго Салжаніцына ці ў Польшчы, дзе кожны ведае пра сваю Катынь, ці ва Ўкраіне зь яе Галадаморам, ці ў Літве, дзе створаны нацыянальны музэй генацыду, а ў кожнай вёсцы стаяць помнікі рэпрэсаваным землякам зь пералікам ахвяраў паймэнна.

Вядома, і беларусы былі сярод чытацкай аўдыторыі «Архіпелага ГУЛАГа», і беларусы нешта чулі пра Катынь... Але ўсё больш гавораць пра Сібір, пра загады з Масквы, словам, пра тое, што адбывалася недзе там, а ня тут. Таму неяк сам сабою сфармаваўся вобраз сталінскага генацыду — як эпізоду далёкай і нават чужой гісторыі.

Дзеля справядлівасьці скажу, што мы ў гэтай справе маглі быць першымі. Мы й былі першымі. Кніга Францішка Аляхновіча

«У кіпцюрох ГПУ» выйшла яшчэ ў 1930-я і стала сапраўдным адкрыцьцём для астатняга сьвету, інакш чаму б яе зараз жа выпусьцілі на сямі мовах у Заходняй Эўропе і Амэрыцы вялікімі тыражамі. Як заўважае дасьледнік Анатоль Сабалеўскі, гэта быў «ці ня першы твор у сьвеце на гулагаўскую тэму».

«Чытачы мае! — зьвяртаецца Аляхновіч да публікі. — Вы думаеце, што гэта лёгка прызнацца, што я, ужо не дзяцюк, даў так наіўна, так дурнавата, гэтак бязьмежна недарэчна ашукаць сябе! Мне цяпер сорамна, што я гэтак бескрытычна верыў тады ў савецкі міраж, што нават агентаў ГПУ прымаў за людзей, якім можна верыць, мала што не за сваіх прыяцеляў... Адны пыталіся: «За што ж канец канцоў бальшавікі пасадзілі гэтага Аляхновіча?» А іншыя казалі: «Э! Мусіць, нешта было... гэта нездарма... чалавека так нізашто ў астрог не садзяць...»... Цяпер ведаеце, за што. Але цяпер, пасьля перажываньняў апошніх год, ужо, мусіць, ніхто й не задаваў бы гэткіх пытаньняў. Цяпер ужо ўсе — і ў Заходняй і Ўсходняй Беларусі — добра пазналі бальшавікоў і ведаюць, за што людзей садзяць у астрог... Як сіфілітычныя сьпірахеты ў арганізьме, гэтак залазіць у душы паганая бальшавіцкая атрута. Няхай мае словы... аздараўляюць гэтых бедных духам людзей. Няхай вучацца на маім прыкладзе».

Францішак Аляхновіч дае карціну раньняга савецкага ГУЛАГу, расклаўшы яе па тэмах. Быт зьняволеных, карцэры і расстрэлы, доўгія допыты і праца стукачоў, лесапавал, спроба ўцёкаў і прыезд на экскурсію Максіма Горкага, жаночая зона, могілкі, ізалятар, ерархія вязьняў і астрожны гумар. Апошні разьдзел — адзін з самых уражвальных, да яго я вярнуся крыху пазьней.

Праграмная кніга слыннага драматурга, аднаго зь першых сядзельцаў на Салаўках, мусіла б увайсьці ў школьныя праграмы ўжо хоць бы таму, што першае слова даражэй за ўсё наступнае шматслоўе. Але не ўвайшла. Беларусь, ведаеце, была тады падзеленая на Ўсходнюю і Заходнюю, а потым была вайна, калі Аляхновіча забілі, прычым невядома хто, можа быць нават і «нашы», а тады — які ж ён герой?.. І гэтак далей. Расьцерушылася праўда, загаварылася, папераблыталася, а ў выніку нічога й не засталося. Вас тут няма...

Хтосьці нешта чуў пра менскую «амэрыканку» ці пра жахі Вялейскай турмы, ці пра тое, як пры перагоне з Глыбокага ў Віцебск былі проста на дарозе расстраляныя сотні бязьвінна асуджаных людзей. Але ні беларускага кніжнага бэстсэлера, ні кінафільма, якія маглі б прыпомніць усё, на гэтую тэму не зьявілася.

Адзіны агульнавядомы сымбаль сталіншчыны ў Беларусі — Курапаты, які цаной неверагодных высілкаў група беларускай інтэлігенцыі ўзьняла на ўсенародны ўзровень — стаў сымбалем вандалізму і адмаўленьня. Жменька людзей упарта ставіць на магілах расстраляных крыжы, а «нехта невядомы» гэтыя знакі нявечыць, быццам упарта й бяздумна паўтараючы сваё: «Вас тут няма». Міліцыя або спэцназ — другі суб'ект фантасмагорыі — то разганяе абаронцаў народнага мэмарыялу, то заводзіць крымінальную справу паводле фактаў вандалізму, гэта значыць, прымае бок то тых, каго «няма», то «некага невядомага». Барацьба адбываецца нават не на паверхні, а ў самай глыбіні душы, у неўсьвядомленым, якое па-дзіцячы бароніцца, працівіцца датычнасьці ўсёй беларускай нацыі да генацыду — як у ролі ахвяраў, так і ў ролі карнікаў.

Між тым, гісторыя сталіншчыны — гэта цалкам беларуская гісторыя. Бо нашы гіганты прамысловасьці, кшталту МАЗа, былі такімі ж падразьдзяленьнямі ГУЛАГу, такімі ж «папраўча-працоўнымі» канцлягерамі, такімі ж мясарубкамі, як і знакаміты Беламорканал. Бо нашы людзі — усе, пагалоўна — бралі ўдзел у гэтым фантасмагарычным спэктаклі, у розных ролях, натуральна, — хтосьці казаў маналёгі, а ў кагосьці наагул не было словаў. Бо, нарэшце, нашы душы, наша псыхіка, наша сьвядомасьць нават у самага маладога сёньняшняга пакаленьня нясе на сабе выразныя апёкі тых люцыпаравых катлоў, у якіх гарам гарэла ўся беларуская нацыя ў часы бальшавіцкага татальнага вынішчэньня.

* * *

Некалі я дазволіў сабе сьцьвердзіць, што ў гады найбольшага ўздыму савецкага энтузіязму ў Беларусі кожны дзень расстрэль-

валі 600–700 польскіх шпіёнаў. На такіх лічбах я спыніўся паводле адчуваньня, што ўзьнікла падчас перачытваньня біяграфіяў дзясяткаў тысяч расстраляных. Напэўна, расстраляных магло быць меней альбо болей. Праўды ўжо не даведаецца ніколі й ніхто, бо статыстыкі не існуе. І пра гэта я скажу крыху пазьней. Але нават ня гэта — не статыстычная ўмоўнасьць — найперш абурыла маіх апанэнтаў. Іх абурыла тое, што з маіх лічбаў вынікае, быццам у другой палове 1930-х да фантасмагорыі ў Беларусі былі датычныя ўсе. Кожны беларускі чалавек, а значыць, усе нашы бабулі й дзядулі нейкім чынам мелі дачыненьне да сталінскіх рэпрэсій. Маўляў, пры агульным вобразе гэтага генацыду як чужога і далёкага нехта мае нахабства сьцьвярджаць, што і наша сям'я ў гэтым удзельнічала!..

Але гэта праўда. Адных паводле даносаў другіх арыштоўвалі трэція, дастаўлялі ў турму і ахоўвалі там чацьвёртыя, насілі ім перадачы пятыя, дапытвалі шостыя, судзілі сёмыя, везьлі на расстрэл восьмыя, расстрэльвалі дзявятыя — гэта быў сапраўды грандыёзны спэктакль зь вялізнымі масоўкамі. Калі верыць афіцыйнай лічбе з энцыкляпэдыі, паводле якой у Беларусі былі рэпрэсаваныя 600 тысяч чалавек, дык дадайце да кожнага з іх астатніх фігурантаў і вы атрымаеце, як мінімум, увесь беларускі народ.

Пра прычыны недаверу да гэтага я ўжо сказаў. А тое, што інфармацыя не перадавалася ў сям'і з пакаленьня ў пакаленьне, тлумачыцца яшчэ й простым нежаданьнем траўмаваць псыхіку дзяцей фактамі чалавечае подласьці і грэхападзеньня, а таксама жахлівымі сцэнамі расправы.

Цяпер пра статыстыку.

Статыстыкі сталінскіх рэпрэсій у Беларусі не існуе. Ёсьць падлікі, прыблізны аналіз, і ёсьць лёсы, якія сукупнасьцю сваёй абвяргаюць усялякую статыстыку.

У чым тут справа? Дакумэнты, якія фіксавалі забойствы людзей, маглі й не складацца. Бо забойцы цалкам распараджаліся

чалавечымі жыцьцямі. У масе сваёй карнікі мелі дзьве клясы адукацыі. Таму ў тых дакумэнтах, якія складаліся, пануе неразьбярыха. І ня толькі ў прозьвішчах, назвах і датах, але таксама ў прычынах і мерах пакараньня. Выглядае, што паводле адной вэрсіі чалавека расстрэльвалі за антысавецкую агітацыю, а паводле іншай — за шпіянаж на карысьць Польшчы. Розьніцы не было ня толькі расстралянаму, але й карнікам. Бо ўсе разумелі, што расстрэльваюць ні за што.

Аднак апроч непісьменнасьці ды свавольства карнікаў існавала яшчэ адна зьява, якая ставіць пад сумнеў статыстыку. Гэта прамежкавы стан паміж жывым чалавекам і трупам. На прэзэнтацыі сваёй кнігі «Ахвяры і карнікі» пра такія гісторыі распавёў дасьледнік Леанід Маракоў. У прыватнасьці, ён прывёў у прыклад лёс Браніслава Тарашкевіча.

Тарашкевіч — інтэлектуал, выпускнік Піцерскага ўнівэрсытэту, аўтар першай граматыкі беларускай мовы, перакладчык «Іліяды» Гамэра, лідэр стотысячнай Беларускай грамады ў Заходняй Беларусі...

Калі ён апынуўся ў СССР, то, як і большасьць заходнебеларускіх дзеячоў, трапіў пад расстрэл. Дык вось, Маракову ўдалося ўстанавіць, што Тарашкевіча не расстралялі ў той дзень, які пазначаны ў дакумэнтах. Яго, не расстралянага, выкарыстоўвалі ў якасьці дапаможнага матэрыялу на допытах новых арыштаваных. Яго прыводзілі ці там прыносілі на допыт і дабівалі. Арсэнал катаваньняў быў неабмежаваны, у літаратуры пра сталіншчыну можна знайсьці шмат натуралістычных падрабязнасьцяў пра зламаныя рукі, парваную скуру, выкалатыя вочы... І вось, уявіце сабе, арыштаваны студэнцік бачыць, як забіваюць чалавека, які для цябе — абсалютны аўтарытэт і нават кумір, і перажывае адмысловыя пачуцьці. Зусім ня тое, калі катуюць цябе самога. І прызнаньне падпісваецца табою ледзьве не аўтаматычна. Ты трапляеш у статыстыку пакараных «ворагаў народа», а Тарашкевіча тым часам перацягваюць у іншы кабінэт. Ён ужо па-за ўсялякай статыстыкай. І ставіць пытаньне: колькі ж было такіх Тарашкевічаў у беларускіх турмах? — бессэнсоўна.

* * *

«Трагедыя паўтараецца як фарс». «Адна смерць — трагедыя, сотні тысяч — статыстыка». Гэтыя сэнтэнцыі выглядаюць зусім па-дзіцячаму ў кантэксьце бальшавіцкага генацыду. Ён быў бессэнсоўны настолькі, што абяссэнсіў і статыстыку пра сябе. Гэта як калі нешта зашкальвае, дык ужо ня важна, наколькі.

Жыцьцё ўвогуле ня мае ніякага сэнсу. Кожны прыдумляе нешта сваё. Калі ва ўсіх адзін сэнс жыцьця, тады нехта намі маніпулюе. Можа быць, адпраўляе нас на вайну з захопнікамі, а можа быць — на вайну супраць саміх сябе. Жыцьцё настолькі ж бессэнсоўнае, наколькі бясцэннае. Абсалютныя велічыні — нішто і ўсё. Рэальны сэнс і рэальная цана жыцьця ствараюцца канкрэтным чалавечым лёсам.

Гартаючы сотні і тысячы лёсаў, дзе пункцірам праходзіць слова «расстрэл», урэшце ловіш самога сябе на... ўсьмешцы.

Гэта ўсьмешка горычы. Каб адчуць праўду гісторыі ва ўсёй яе велічы, трэба ўсьміхацца. Нічым іншым наш зьмярцьвелы душэўны стан не пераадольваецца. Калі ж толькі паўтараць пра трагедыю народа, пра ямы, запоўненыя трупамі ні ў чым не вінаватых суайчыньнікаў, пра зьнішчэньне ўсёй нацыянальнай інтэлігенцыі, непазьбежна атупееш, ачарсьцьвееш душою альбо дойдзеш да нэрвовага зрыву. Тым часам тая ўласаўская работніца, якая пераўвасобілася ў сёньняшнюю ўладу, будзе па-ранейшаму далдоніць: «Вас тут няма» і распараджацца тваім лёсам.

Каб разьвітацца з абсурдам, патрэбны горкі, празь сьлёзы, немагчымы, але — сьмех. Толькі ў такой інтэрпрэтацыі гісторыя сталінскага генацыду сёньня і заўтра можа нейкім чынам крануць абсалютную большасьць нашых суайчыньнікаў і пераканаць іх, што гэта іх уласная асабістая, сямейная, нацыянальная гісторыя.

Хіба ня сьмешна, калі на пяць гадоў ГУЛАГу асуджаюць немаўля? У графе «праца» пазначана: не працаваў. Альбо вось — бела-

рускія габрэі, якія адтуль, зь ямы, ужо толькі прозьвішчамі сваімі нібы падказваюць нам спосаб разьвітаньня з абсурдам — у аднаго прозьвішча Арбуз Шмуля Аўсеевіч — яго пасадзілі ў 1940-м за «эміграцыйныя намеры», а ў другога — Апэльсын Язэп Шлёмавіч — яго расстралялі ў Віцебскай турме ў 1937-м як польскага шпіёна. Побач з экзатычнымі «фруктамі» — цэлае дрэва рэпрэсаваных беларусаў з прозьвішчам Груша. Ці не адсюль гэтае назыўное імя чалавека — фрукт?

А вось — Чычыкаў Васіль Сьцяпанавіч, беларус зь вёскі Новы Доўск Гомельскай вобласьці. У нашым выпадку — ня скупшчык мёртвых душ, а сам — мёртвая душа. Працаваў машыністам паравога млына ў мястэчку Лебедзева пад Маладэчна. Ключавое слова — працаваў, другое ключавое слова — пад нямецкай акупацыяй. Гэтага было дастаткова, каб у 1945-м загрымець у лягер у Комі АССР.

А вось — Агароднікаў Аляксей Алаевіч, беларус з вёскі Слабада Полацкага раёну. Чарговы польскі шпіён, расстраляны 26 кастрычніка 1938-га. Маю ўвагу прыцягнула яго прафэсія — стрэлачнік станцыі Полацак. Памятаеце — заўсёды вінаваты стрэлачнік. Вось ён і адказаў. Усяго ў нашым сьпісе на 60 тысяч пэрсон стрэлачнікаў — сто пяць.

Трансфармацыя страшнага ў сьмешнае складае зьмест таго Аляхновіцкага «Астрожнага гумару», пра які я абяцаў распавесьці. Зьвярніце ўвагу — з 1920-х гг. мінулага стагодзьдзя нішто асабліва й не састарэла:

«Чалавек гэтак хутка датарноўваецца да новых, ненармальных абставінаў жыцьця, прыроджаная патрэба сьмеху гэтак моцна дапамінаецца сваіх правоў, што нават тыя, якім заўтрашні дзень нясе цяжкое вандраваньне этапам на Салаўкі, якія ніколі ўжо не пабачаць сваіх блізкіх, ды нават тыя, каго заўтра са зьвязанымі рукамі і заткнутым ротам павязуць на месца экзэкуцыі, дзе іх чакае з нагана, — сёньня, бывае, бестурботна нешта напяваюць...

Шчырым гумарам вее ад слоў афарызма, які трэба было б напісаць над уваходам у савецкі астрог:

«Входящий, не грусти!

Выходящий, не радуйся!»

Гаворка ідзе не пра жывёльны рогат вандала і не пра зубаскальства, а пра адну з самых тонкіх рысаў чалавечае натуры — пачуцьцё гумару. Яно не ўласьцівае ані аднамернай уладзе, ані змрочным змагарам, якія чэрствасьць і трагічныя міны лічаць сваёй галоўнай доблесьцю і праз гэта не перамагаюць ніколі. Пачуцьцё гумару, якое ў сёньняшняй Беларусі аказалася ў пэўным дэфіцыце — гэта сапраўдная звышзброя супраць дыктатуры, супраць бяспамяцтва, супраць вандалізму ў Курапатах і пампэзных юбілееў слаўных чэкістаў. Бо ўсё, што ня мае гэтага пачуцьця, ня мае і адпаведнае зброі супраць яго, а таму баіцца яго ці ня больш за ўсё на сьвеце.

## «...І толькі надпіс “Вераніка”»

У нядаўнім апытаньні публікі пра беларускія нацыянальныя каштоўнасьці чырвонай ніткай праходзіць такі адказ — усё, што зьвязана з ВКЛ. Вялікае Княства Літоўскае асацыюецца з росквітам беларускага жыцьця. Здабыткі кнігадрукаваньня, архітэктуры, мастацтва таго часу й сёньня — тое галоўнае, чым мы прадстаўляем сябе сьвету. І пры тым кожны раз задумваемся: чаму мы так фатальна страцілі пераемнасьць ад той дзяржавы да сёньняшняй?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, пачаць трэба з таго, што Вялікае Княства з усімі яго залатымі пладамі было творам беларускай арыстакратыі, што пасьля захопу тэрыторыі ВКЛ Расейскай імпэрыяй менавіта беларуская арыстакратыя на працягу 200 гадоў вынішчалася ўсімі магчымымі спосабамі — фізычна і гістарычна, матэрыяльна і маральна. Спачатку сядзібы беларускіх дваран занялі расейскія памешчыкі, а потым і іх змыла цунамі ўзбуджанага плебсу...

У сьпісах ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў гэтыя людзі падаюцца мне дыямэнтамі ў асноўнай масе народу. Іх хочацца ідэалізаваць і рамантызаваць, як гэта рабіў Уладзімер Караткевіч.

Кожны мой дыямэнт складаецца з трох граняў. Месца — усходняя Беларусь, сацыяльны статус — дваранін, нацыянальнасьць — беларус. Цяжка ўявіць сабе такіх у 1920–30-я, у часы панаваньня камунаў, камбедаў, ваяўнічых бязбожнікаў і ГПУ. Яны — як іншаплянэтнікі сярод рабацягаў Асінторфу, што ўвасабляюць сабой маналітны чалавечы матэрыял тагачаснай БССР. І тут раптам — дваранін. У яго асабістая гаспадарка. Дакладней, яго выцягнулі, як таго шыціка з трубачкі, з асабістае гаспадаркі, на якой ён сядзеў, нібы той шляхціц Завальня, у абсалютнай глушы, дзе ў яго была свая бібліятэка і сямейны архіў, дзе ён плянаваў архітэктуру сада, разводзіў кветнікі, вёў нарыхтоўку грыбоў, мёду, арэхаў... Арганізоўваў жыцьцё вакол сябе. І сялянам, якія ў яго працавалі, жылося па-людзку, бо гэта ж не чужы пан або памешчык, а свой, беларус. Хоць і дваранін.

За савецкім часам гэты выраз — дваранін беларус — стаў аксюмаранам. Для многіх ён і сёньня гучыць як спалучэньне неспалучальнага.

Мне шмат разоў даводзілася падарожнічаць па рэках усходняй Беларусі. І там, у самых аддаленых кутках, паўсюль сустракаеш сьляды таго арганізаванага жыцьця. Колішнія паркі і месца, дзе стаяла сядзіба. Насамрэч нічога няма, але сам ляндшафт падказвае табе, як гарманічна былі ўпісаныя ў яго гаспадарчыя пабудовы, кветнікі, прысады і пад'езды. Зусім рэдка можна сустрэць і сам будынак, найчасьцей — на строме над поймай ракі, на неабсяжным краявідзе — драўляны або каменны палацык.

Нашчадкі стваральнікаў ВКЛ, зьбяднёныя і адрынутыя ўладай, стваралі на сваіх лапіках зямлі маленькія аазісы суладнага жыцьця — нібы аскепкі таго залатога веку.

Ўстае перад маім паглядам
І вулка, веючая сном,
І ціхі, старасьвецкі дом
З цяністым, адзічэлым садам;
Над ім шпакоўніца ў гары,
А ўкруг схіліўся тын стары.

Дом гэты да паноў Забелаў,
Суседзяў нашых, наляжаў;
Я змалку там штодзень гуляў,
З дзяцьмі іх лез на дахі сьмела,
Рваў яблыкі, рабіў садом
І крыкам поўніў цэлы дом.

..............................

Так у гулянках пралятала
Маё дзіцячае жыцьцё,
А поруч ціхае дзіцё,
Дачка Забелаў, узрастала.

Яе я мала знаў: яна
Ўсягды была сама, адна.

Жылося цяжка Вераніцы
(Хай так дзяўчыну будзем зваць):
Яе памерла рана маць
І не было саўсім сястрыцы,
А бацька сэрца хоць і меў,
Ды прытуліць яе ня ўмеў.

Таму з маленства палюбіла
Хавацца ў сад стары яна,
Дзе веяла дыханьне сна,
І цішыня ў паветры плыла,
І нерухомы быў спакой,
Маўляў у глыбіні марской.

Максім Багдановіч, які жыў далёка ў Расеі, быў вольны ад той ідэалёгіі адмаўленьня дваранства, што была ўласьцівая многім адраджэнцам на Бацькаўшчыне. Вось чаму ягоная «Вераніка» змагла стаць ня толькі паэтычным шэдэўрам, што дагэтуль захапляе чытача рэаліямі жыцьця тагачаснага беларускага дваранства, але й прарочыць той заняпад, які чакае радавыя гнёзды дваран пасьля пралетарскае рэвалюцыі.

Ізноў пабачыў я сялібы,
Дзе леты першыя прайшлі:
Там сьцены мохам парасьлі,
Вясёлкай адлівалі шыбы.
Ўсё ў пылу. І стала мне
Так сумна, сумна ў цішыне.
Я ў сад пайшоў. Ўсё глуха, дзіка,
Усё травою зарасло.
Няма таго, што раньш было,
І толькі надпіс “Вераніка”,
На ліпе ўрэзаны ў кары,
Казаў вачам аб тэй пары...

...Я кажу менавіта пра ўсходнюю Беларусь, бо дваранам з заходняй да вайны, пад Польшчай было лёсам дадзена цэлых дваццаць гадоў, каб зразумець альбо адчуць, куды кіруецца гісторыя. Можна было зьехаць, распрадаць майно, можна было запісацца палякамі. Да гэтага схіляла й тое, што беларускі рух пад польскай уладай быў афарбаваны ў чырвоны колер. Беларус у Заходняй Беларусі стаў ледзьве не сынонімам бальшавіка, а таму двараніну неяк неадпаведна было заставацца беларусам. Тых, што засталіся, пасьля далучэньня заходняй да ўсходняй судзілі ўжо толькі за тое, што яны — паны.

Ва ўсходнікаў жа часу на роздумы і вычуваньні не было. Напэўна, многія зь іх таксама запісаліся палякамі, бо не хацелі атаясамліваць сябе з нацыяй, што на вачах рабілася пралетарскай. А калі паляк, дык ужо як бы й не зусім ваш, ня ў самым поўным вашым распараджэньні. Напэўна таксама, што многія паны выпраўлялі ў анкетах сваё паходжаньне на сялянскае, бо шмат яўна дваранскіх прозьвішчаў належыць сялянам. Напэўна, многім усё ж удалося нейкім спосабам уцячы зь Беларусі, пакінуўшы свае сядзібы. Таму гэтыя, што засталіся на радзіме, што захавалі сваё і дваранства і сваю беларускасьць, выклікаюць патройную павагу. Ня ведаю, ці адчувалі яны, што асуджаныя як кляса, што ідуць на страту маёмасьці, радзімы і жыцьця. Напэўна, не маглі не адчуваць. Але трымаліся сваёй сацыяльнай адказнасьці — яны, маральныя гаспадары гэтай зямлі, яе культуры і спракаветнага парадку: «Старыны ня рушыць, навіны ня ўводзіць».

За савецкім часам любілі высьмейваць шляхту, маўляў, павыраджалася яна ў сваіх забытых Богам маёнтках. Але сталінскія рэпрэсіі парадаксальным чынам высьвецілі тых, хто ня вырадзіўся, каму спадчынны рыцарскі гонар не дазволіў ані перапісацца ў іншую нацыянальнасьць, ані назвацца селянінам, ані ўцячы з радавога котлішча.

Гарадзкія дваране-беларусы былі адарваныя ад глебы, яны патрапілі ў больш разрозьненае людзкое асяродзьдзе, таму іх лёсы цяжка назваць тыповымі. Што ж тычыцца дваран на зямлі, засьцянковае шляхты, гаспадароў сядзібаў, дык многія зь іх

дзіўным чынам датрывалі да калектывізацыі трыццатых гадоў у сваіх уласных маёнтках. Вось тут і пачалося.

Іван Язэпавіч Акаловіч з хутара Сілічы Лагойскага раёну — беларус, з дваран — у свае 56 гадоў лічыўся калгасьнікам у калгасе імя Дзяржынскага, калі на пачатку 1933-га «тройка» за антысавецкую прапаганду прысудзіла яго на 10 гадоў канцлягера. У заўвагах да прысуду сказана: «Сям’ю выслаць у Паўночны край на 3 гады». Колькі было той сям’і ў Івана Язэпавіча, не ўдакладняецца. Звычайная для тагачаснага справаводзтва зьява. Галоўнае, Акаловічаў у гэты час і ў гэтым месцы сьсеклі пад корань усіх.

А вось Аколавых — беларускіх дваран з хутара Дуброва ў Чэрвеньскім раёне пералічваецца шмат. Іх ліквідацыяй заняліся ўлетку 1929-га. Паўліна Вікенцеўна атрымала за садзеяньне мужу ў антысавецкай дзейнасьці тры гады Сібіры, Яніна Адамаўна, Антон Адамавіч і Вінцэсь Адамавіч — за садзеяньне бацьку — тры гады Сібіры. Васіль Сьцяпанавіч за садзеяньне брату — таксама тры гады. Цяпер застаецца даведацца, што атрымаў галоўны фігурант справы — Адам Сьцяпанавіч. Разам зь сям’ёй ён адправіўся на тры гады ў Нарымскі край. Пасьля, у 1933-м, яго ўжо там асудзяць на паразу ў правах... Пра далейшы лёс сям’і архівы не распавядаюць. Хоць з аналягічных прыкладаў вядома, што дзьве судзімасьці часьцяком прыводзілі ў 1937-м да трэцяй, якая ставіла ў лёсе чалавека канчатковую кропку.

У 1933-м за антысавецкую прапаганду быў адпраўлены ў Казахстан беларускі дваранін Іван Феліцыянавіч Аляшкевіч з паселішча Зафранцуская Грэбля Ігуменскага павету.

І гэтак далей, і гэтак далей...

Складзем тут невялікі мартыралёг беларусаў-дваран, што апынуліся ў самым эпіцэнтры савецкага энтузіязму.

Анкудовічы. Беларусы. З дваран Заслаўскага раёну Менскай вобласьці. Ніна Ігнатаўна, 25 гадоў. Напачатку 1931-га за шпіянаж

на карысьць Польшчы прысуджаная да ВМП (вышэйшай меры пакараньня). Расстраляная. Роберт Язэпавіч, 26 гадоў, за тое самае атрымаў пяць гадоў папраўча-працоўных лягераў. Франц Язэпавіч, 32 гады, — 10 гадоў катаргі.

Анцыпяровічы. Аранскія. Бараноўскія...

Бараноўскія — вялікі род са Случчыны, аднаасобныя гаспадары, настаўнікі, лекары, «члены кулацкай групоўкі», арыштаваныя ў 1929–30 годзе, асуджаныя на розныя тэрміны канцлягеру — ад трох да дзесяці гадоў, Іван Васілевіч, 45 гадоў, і Іван Міхалавіч, 32 гады, як кіраўнікі арганізацыі — да расстрэлу.

Бачылы. Беразоўскія. Бранавіцкія. Бржазоўскія. Бурыя. Буэлі. Быліны. Бялькевічы...

Асноўны пэрыяд рэпрэсіяў беларускага дваранства — 1929–30 гг. Апошніх падгрэблі ў 1933-м. Да 1937-га не датрываў амаль ніхто. А вось раней, да 1929-га сустракаюцца спарадычныя выпадкі. Напрыклад, Адама Іванавіча Вайніловіча, памешчыка 60-ці гадоў, узялі на ягоным хутары Рoскі Сялец Коханаўскага раёну яшчэ ў 1927-м. За антысавецкую агітацыю. І далі тры гады высылкі ў Казахстан. А Лявона Казіміравіча Аранскага зь Дзісенскага павету судзілі яшчэ ў 1920-м. За антысавецкую дзейнасьць. І пасадзілі ў канцлягер да сканчэньня Грамадзянскай вайны. Тыповы выпадак. Памешчыка Ўладзіслава Іванавіча Віткоўскага з маёнтку Збаровічы пад Менскам у 1920-м расстралялі. Як агента польскай контрразьведкі. Таксама тыповы выпадак.

Пісьменьнік Кастусь Тарасаў у сваёй працы «Крыж памяці, меч лёсу» прыводзіць такі факт: «1 жніўня 1920 году ў Менску пачаў функцыянаваць канцэнтрацыйны лягер «для прадстаўнікоў варожых клясаў», якімі лічыліся былая шляхта, землеўладальнікі, чынавенства, сьвятары. У лягеры было ня меней за 300 зьняволеных».

Ватацы. Вечары. Высоцкія. Гаеўскія. Гарэцкія. Гедройц-Тоўсьцікі. Грабоўскія. Грушы. Гускія. Гурыновічы. Гушчынскія. Дашкевічы.

Дзічкоўскія. Доўгія. Драбушэўскія. Драздовічы. Дуброўскія. Дыдыркі. Ермалінскія. Жураўскія. Жыдовічы. Заблоцкія. Забродзкія. Замбржыцкія. Зубовічы. Іваноўскія. Казелы. Камінскія. Кандыбы. Катырлы. Кернажыцкія. Корбуты...

Гісторыкі сьцьвярджаюць, што на выхадзе з ВКЛ беларускі народ на 10 адсоткаў складаўся з дваран. А ў бальшавіцкай будове сьвету гэтыя 10 адсоткаў не прадугледжваліся. Таму судзілі, высылалі і расстрэльвалі іх часьцяком нават не за антысавецкую прапаганду і контррэвалюцыйную дзейнасьць, а проста — як «сацыяльна небясьпечны элемэнт».

Корзуны. Крукоўскія. Крэпскія. Кузьмінскія. Кулакоўскія. Кунцэвічы. Лагацкія...

Перад вачыма ўстаюць жывыя-мёртвыя сцэны. Сьледчы НКУС, дзьве клясы адукацыі, зьнясілены бясконцымі допытамі й катаваньнямі, пачынае «распрацоўваць» чарговага падсьледнага.

— Фамілія-імя-отчаства?

— Ленартовіч Камілія Феліцыянаўна.

— Гдзе і кагда вы радзілісь?

— 1875 год, вёска Волевічы Чэрвеньскага раёну.

— Нацыянальнасць?

— Беларуска.

— Праісхаждзеніе?

— З дваран.

Вось тут яго ўсяго натуральна клініла. Гэты самы аксюмаран. Беларуска з дваран. Ладна беларуска, я тожа беларус, а што з дваран, памешчыца значыць ці «сільна разумная», «універсі-

цетка»... Вось дзе ярасьць закіпае ў душы!.. Крывапійца на целе пралетарскага класа...

Камілія Феліцыянаўна была адпраўленая ў Сібір не за эксплуатацыю, не як памешчыца ці сацыяльна-небясьпечны элемэнт, не як кулачка — відаць, ні на што такое самім выглядам сваім «не цягнула». Яе асудзілі за садзеяньне сыну ў антысавецкай дзейнасьці. Гэта значыць, па самым апошнім рахунку, па якім толькі маглі зьвінаваціць жанчыну, — што яна маці.

Ліпніцкія. Лютаровічы. Лядзкія. Ляшкевічы. Ляшчынскія. Малахоўскія. Маліноўскія. Малышэўскія. Мардовічы. Масальскія. Мастовічы. Матусевічы. Мінкевічы. Мукасеі. Невяроўскія. Некрашэвічы. Пагоскія. Пагумірскія. Паўловічы. Петражыцкія. Плышэўскія. Праляскоўскія...

Іван Іванавіч Праляскоўскі, 40 гадоў, беларускі дваранін зь вёскі Пахомаўшчына Менскага павету, гэта цяпер Дзяржынскі раён, быў арыштаваны на самым пачатку 1930-га і прысуджаны «тройкай» да ВМП. За антысавецкую агітацыю. Паводле артыкулаў 66 і 72 КК БССР. Расстраляны.

Пржэсецкія. Пшонкі. Пятрышчы. Рагалевічы. Радзевічы. Рыжыя. Рымашэўскія. Рытары. Рэйнгальды. Рэўты. Саковічы...

У працяг гісторыі 1920 г. — выпадак з Ільлём Фёдаравічам Саковічам. Прафесія — землеўладальнік. А схапілі яго ў маёнтку на хутары Дубовікі Барысаўскага павету. Фармулёўка прысуду, які вынесла калегія АГПУ, такая: буйны памешчык, лічЫць ворагам народа. ВМП. Ані што зрабіў Ільля Фёдаравіч, ані што сказаў — не фіксуецца. Проста — лічыць ворагам і расстраляць. Што, натуральна, і было выканана без затрымкі.

Саўчанкі. Семянтоўскія. Сікорскія. Скуратовічы. Смольскія. Станкевічы. Статкевічы. Стэфановічы. Сьвідэрскія. Сеўрукі. Тамаровічы. Тамковічы. Тарлоўскія. Татуры. Тоўсьцікі. Трайкоўскія. Туміловічы. Усачэнкі. Хаткевічы. Хаўстовічы...

Язэпа Сьцяпанавіча Хаўстовіча, 42-х гадоў зь вёскі Кулакі Старобінскага раёну асудзілі ў 1930-м як кулака, на ссылку — на Кіраўскі прыіск у Чыцінскую вобласьць. Тэрмін ссылкі не ўказаны. Больш за 10 гадоў у тым часе не давалі, а калі давалі больш, дык толькі расстрэл, значыць, выйсьці ён мусіў у 1940-м. Аднак ГУЛАГаўская бездань часьцяком забірала чалавека без астатку. Пра што сьведчыць і наступны запіс у справе Язэпа Хаўстовіча: у 1954-м памёр у ссылцы. Праз чатырнаццаць гадоў пасьля таго, як мусіў вярнуцца на радзіму...

Царэвічы. Цімінскія. Чайкоўскія. Шаблоўскія. Шабуні. Шкурды. Шляхціцы. Шмакавы. Шпакоўскія. Шпілеўскія. Шуневічы. Шыбекі. Шыманскія. Шыпілы. Шэмет-Палачанскія. Эйсманты. Юнацкевічы і Юнацэвічы. Якубоўскія. Яновічы і Яноўскія...

Ліквідацыя беларускіх дваран «як класа» праводзілася татальна — гэта значыць, забіралі і вывозілі не кагосьці канкрэтнага, а ўсю сям’ю. Альбо кагосьці расстрэльвалі, а астатніх вывозілі. І калі сялянам яшчэ можна было спадзявацца на вяртаньне, а многія й паварталіся з высылкі, дык гэтым — не. Іх сьвет, усё іхнае сваё і звыклае, дзе было месца ім, зьнішчаўся разам зь імі аднойчы і назаўсёды. Як у спэктаклі «Ідылія» Купалаўскага тэатру, дзе паны сядаюць урэшце на паветраны шар і адлятаюць у невараць. Канец ідыліі.

У кадэбэшных сьпісах самым недарэчным радком выглядае запіс пра рэабілітацыю. Расстраляны — рэабілітаваны. Сасланы — рэабілітаваны. Пасаджаны ў канцлягер — рэабілітаваны. Карнікі й іх нашчадкі так і не зразумелі, што адабранае жыцьцё і пакалечаны лёс рэабілітацыі не падлягае.

Ёсьць рэабілітацыя для кампэнсацыі за панесеныя маральныя й матэрыяльныя страты. Што да рэабілітацыі ў шырокім сэнсе гэтага слова, дык прасіць яе ні ў кога ня трэба. Тут іншая справа. Беларускаму народу для нармальнага разьвіцьця патрабуецца рэабілітацыя свайго беларускага дваранства.

Цяпер у нас пішуць часам і пра Радзівілаў, і пра Тышкевічаў, і пра Сапегаў. То нашчадкі іх прыедуць з далёкага сьвету, то ка-

мяніцу іх возьмуць на рэстаўрацыю, то раптам успомняць, што нашы Радзівілы ў свой час былі найбагацейшым родам у Эўропе. Усё гэта так, але я не пра тое. Гаворка не пра асобных яркіх пэрсанажаў нацыянальнай гісторыі, а пра рэабілітацыю ўсяго беларускага дваранства «як класа». І ня дзесьці ў судах і архівах, а ва ўласных галовах.

Рэабілітаваць трэба жыцьцёвыя прынцыпы, якімі кіравалася арыстакратыя і якія разам зь ёй былі зьнішчаныя ў часы сталіншчыны.

Не ламай тое, чаго не будаваў.
Ня лезь туды, у чым не разьбіраесься.
Не абвяргай таго, чаго да канца не разумееш.

Без вяртаньня гэтых прынцыпаў мы застаемся бязвольнымі назіральнікамі зьменаў эпох і толькі са скрухаю паўтараем словы паэта, маўляў, «няма таго, што раньш было»...

## *Кур’ёзы картатэкі і жарты лёсу*

Прырода нашай памяці такая, што адчуваньне страшнай трагедыі ўжо праз пару пакаленьняў сьціраецца, саступаючы месца безэмацыйнай статыстыцы. І толькі асобныя прыватныя кур’ёзы даносяць да нас жывое разуменьне таго, што адбылося.

Калі праглядаеш картатэкі зь лёсамі тысяч рэпрэсаваных, дык урэшце амаль фізычна адчуваеш, як пуста робіцца на душы ад гэтага бясконцага паўтарэньня стандартных фармулёвак: з рабочых, зь сялян, з рабочых, зь сялян, арыштаваны, асуджаны, арыштаваны, асуджаны, расстраляны, сасланы, расстраляны, сасланы... Нават разнастайнасьць прозьвішчаў і назваў вёсак паходжаньня не ратуе гэтага манатоннага небыцьця. І ты раптам разумееш — так задумана для таго, каб нават памяць пра бязьвінныя ахвяры растварылася ў гэтай руціннай кіслаце. Аднойчы і назаўсёды. Ніякіх кур’ёзаў і жартаў лёсу! Інакш перастае быць страшна. Бо дастаткова аднаго кур’ёзнага факта, як уся сытуацыя таго сталінскага абсурду ажывае, веючы на цябе ўсім сваім ідыятызмам, калі ненармальныя людзі татальна вынішчалі людзей нармальных, вінавацячы іх у небыліцах ды самых фантазійных парушэньнях самага неверагоднага ў сьвеце заканадаўства.

Малапісьменныя пісарчукі НКУС ставіліся да сваёй работы надзвычай сур’ёзна й сыстэмна, а таму вялі справы «ворагаў народа» максымальна спрошчана, абсякаючы ўсё, што да справы дачыненьня ня мела. Прозьвішча, год і месца нараджэньня, нацыянальнасьць, сацыяльнае паходжаньне, адукацыя, дзе і кім працаваў, артыкул, па якім асуджаны, мера пакараньня. У выніку сыстэма павінна была нагадваць агромністы мэханізм, які адно толькі зладжанасьцю сваёй работы выклікаў захапленьне ў гэткай самай непісьменнай і цёмнай публікі. Інтарэсы дзяржавы, геній Сталіна і вышэйшая мера сацыяльнай абароны (гэта пра расстрэл) — вось якія вобразы мусіла нараджаць у народных масах гэтая машына.

Псыхалягічна яна павінна была асацыявацца з камбайнам на жніве, які пад адзін узровень акуратна зразае аднолькавыя каласы, а сам працэс «чыстак» і сацыяльнай сэлекцыі мусіў успрымацца як справа гаспадарская, патрэбная і карысная для будучыні, для пабудовы новага грамадзтва, для камунізму. Камбайн увогуле — пазытыўная машына. Бяда толькі, што людзі — не аднолькавыя каласкі. І таму адбываецца не жніво, а, калі хочаце, прабуксоўка на кветніку. Вось пра што сьведчаць гэтыя самыя кур'ёзы і жарты лёсу, што выбіваюцца з-пад агульнага парадку і агульнай грабёнкі.

Напрыклад, ня ўсё бывае проста з нацыянальнасьцю, калі так часта сустракаюцца гібрыды «беларус-паляк», і з сацыяльным паходжаньнем, калі адзін брат з рабочых, другі з дваран, трэці з купецкага саслоўя...

Нарэшце, здавалася б, самая істотная графа — пра віну чалавека — нічога па сутнасьці нам ня кажа. Найбольш частая фармулёўка гэтай віны — «антысавецкая агітацыя». Можа вар'явацца з «контррэвалюцыйнай прапагандай». Іх нават пісалі скарочана праз касую лінію — а/с і к/р. Часам сустракаецца «антыкалгасная прапаганда». І зноў, за што канкрэтна чалавека прысудзілі да расстрэлу, не відаць. А колькі тут магло быць нюансаў! Што сказаў, як, зь якой інтанацыяй, як паглядзеў, у якіх абставінах, хто гэта пачуў, як да гэтага паставіўся... І так да бясконцасьці! Калі б антысавецкую агітацыю выкладалі як прадмет ва ўнівэрсытэтах, дык называўся б ён ня йнакш як тэатральнае мастацтва.

Зрэдку антысавецкую агітацыю карнікі спрабуюць даць у пашыранай фармулёўцы, але й гэта да агульнай карціны нічога не дадае.

Статкевіч Павал Адамавіч, лясьнік Менскага раёну, жыў на хутары Вандоліна. Асуджаны 14 лютага 1938 г. за тое, што варожа настроены да савецкай улады, выказваў тэрарыстычныя намеры на адрас кіраўнікоў партыі і ўраду, да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 7 сакавіка 1938 г.

Фёдараў Апанас Фёдаравіч, селянін з Гарадка, меў 64 гады і таксама ў 1938-м пайшоў на сьмерць за антысавецкія выказваньні і тэрарыстычныя намеры. Гэта значыць, недзе неасьцярожна выказаўся. Ці то сказануў што думаў, ці проста абурыўся нейкім беспарадкам. А нехта пачуў і данёс «куды трэба». А мог Апанас Фёдаравіч і не выказвацца, а той усё адно данёс. Думай і ўяўляй сабе што хочаш. Гэты захацеў заняць месца гэтага ці проста неўзьлюбіў гэтага ці наагул — натура такая, каб на каго данесьці, ня важна, на каго і пра што.

Адамец Алена Язэпаўна, полька, 1903 году нараджэньня. Цырульніца ў горадзе Браслаў. Асуджаная 13 верасьня 1940 г. на пяць гадоў катаргі ў Сіблягу за «нежаданьне жыць у СССР».

Мірмыль Мікалай Сьцяпанавіч, беларус, селянін зь Бярэзінскага раёну. 23 чэрвеня 1935 г. асуджаны на пяць гадоў папраўчых лягераў за прычыненьне цялесных пашкоджаньняў за крытыку ў газэце.

Бяссонаў Ігар Зьмітравіч, расеец, рахункавод у калгасе, жыў у Менску. Удзельнічаў у ліквідацыі арміі Ўрангеля. 14 красавіка 1933 г. асуджаны на «10 гадоў лягераў за садзеяньне шпіёнскай сувязі сваёй цешчы».

Зь цешчамі проста бяда. Ня ведаю, як вас, а мяне дык з малых гадоў бянтэжыла, што так шмат вакол анэкдотаў пра цешчу, маўляў, цешча — апрыёры чалавек падступны і ледзьве не варожы. Бянтэжыла гэта таму, што вакол сябе ў рэальным жыцьці ў самых розных сем’ях я ня бачыў ня толькі гэтых самых «зламысных цешчаў», але наагул — самога вылучэньня цешчы ў нейкі асаблівы паміж іншых сваякоў разрад. А з тэлевізара і з газэт працягвалася ўсеагульная рагатуха пра цешчу... Цяпер гэтая тэма неяк прыціхла. Але з новай сілай яна паўстала перад мною з картатэк рэпрэсаваных. Менавіта тое, што яна — цешча, было часьцяком яе галоўнай віною перад партыяй, урадам і савецкім народам.

Да прыкладу, Еўдакія Рыгораўна Перка-Зубрыцкая зь вёскі Зажэвічы Старобінскага раёну. Беларуска, з сялян, непісьмен-

ная, калгасніца ў калгасе «Перадавік». У 1935-м яе прысудзілі да дзесяці гадоў катаргі з фармулёўкай «цешча агента польскай разьведкі». Нават не шпіёнка, а — цешча.

Бацьку і двух сыноў Чарталысавых, беларускіх сялян зь вёскі Ціты Межанскага раёну Віцебскай вобласьці 11 сакавіка 1931 г. выслалі ў Сібір, тэрмін ссылкі не ўказаны, але вядома, што бацька Якаў Ігнатавіч Чарталысаў праз два гады ў ссылцы памёр. Маю ўвагу прыцягнула фармулёўка, зь якой «тройка» асудзіла ўсіх траіх — «замах на жыццё камсамольца». Фармулёўка рэдкая, хоць таксама ні пра што не расказвае. Хіба што пра асаблівую каштоўнасьць камсамольскага жыцьця.

Вядома, што ў СССР, як і сёньня ў Беларусі, не было палітычных асуджаных, а толькі крымінальныя. Але ўсе ўсё разумелі. І на нарах дзяліліся на блатных і палітычных. Чэкісцкі сьледчы, які «пісаў справу», іншы раз неўсьвядомлена «прагаворваўся» на гэтую тэму. Гэтак, калі ў 1935 г. судзілі за контррэвалюцыйную дзейнасьць студэнта біяфаку БДУ Канстанціна Казея, яму далі 5 гадоў катаргі, а ў заўвагах да справы пазначылі: «Быў судзімы за крымінальнае злачынства». Гэта значыць, што контррэвалюцыйная дзейнасьць усё ж такі — не крымінальная, бо не забіў, ня скраў, не пакрыўдзіў нікога. Страціўшы пільнасьць, энкаўшнік такім чынам прызнаў «палітыку».

Дзякуючы кур’ёзным сытуацыям стандартная біяграфія часам дазваляе рэканструяваць лёс чалавека. Праўда, гэта ўжо не дакумэнтальная, а хутчэй мастацкая рэканструкцыя. Вось я запыніўся на картачцы Багданава Зьмітра Ўладзімеравіча. Расеец, зь сялян вёскі Брытвіна Новасакольнікаўскага раёну Калінінскай вобласьці, пэнсіянэр. Як і чаму ён у 1938 г. апынуўся ў Менску — невядома. Можа, сын, які працаваў у Беларусі, забраў састарэлага бацьку да сябе, можа, тут лічылася спакайней. Ну і пасяліўся гэты расейскі пэнсіянэр у беларускай сталіцы, у Нова-Сьвярдлоўскім завулку, дом 4, кватэра 1. Адсюль яго і забралі. І як агента польскай разьведкі прысудзілі да ВМП. Доўга ня думаючы, праз тры дні пасьля прысуду ў Менскай турме расстралялі.

Польскія шпіёны ў трыццатыя гады літаральна наваднілі Беларусь. Прычым, яны не прыходзілі сюды хвалямі з захаду, а тут нарадзіліся і жылі. Часам польскімі шпіёнамі станавілася цэлая беларуская сялянская сям’я і ўся ішла за гэта на расстрэл. Так здарылася зь сям’ёй Ашкераў зь вёскі Малыя Жыберычы Крупскага раёну. Бацька Самойла Сямёнавіч, 67 гадоў, і маці Соф’я Ермалаеўна, 60 гадоў, былі калгасьнікамі ў калгасе «Перамога». Як і дачка іх Надзея. Сын Міхал працаваў бухгалтарам у «сельпо», а сын Рыгор — кладаўшчыком камнедрабільнага заводу ў Воршы. За пасобніцтва польскім агентам усе яны былі прысуджаныя да ВМП і 10 лістапада 1937 г. у Аршанскай турме расстраляныя.

Калі атрэсьці галаву ад бясконцага паўтору стандартных фармулёвак і ўдумацца ў словы «шпіянаж на карысьць Польшчы», дык зразумееш, што і тут — тэатральнае мастацтва. У сям’і Ашкераў атрымалі вышэйшую меру ўсе да аднаго. Гэта значыць, што і шпіёнілі ўсе па поўнай праграме. Трое ў калгасе здабывалі надзвычай карысныя для варожай Польшчы зьвесткі, адзін у «сельпо» і адзін — у сфэры камнедрабленьня. Пра тое, за якія зьвесткі расстралялі сям’ю Ашкераў, гісторыя ў кадэбэшных архівах маўчыць.

Шпакоўскі Рыгор Фёдаравіч, беларус, з сялян, вагонны майстар чыгуначнай станцыі Менск. Асуджаны 23 лютага 1938 г. да ВМП як агент японскай разьведкі. Праз два тыдні расстраляны ў Смаленскай турме.

Дзем’янкоў Фёдар Пятровіч, беларус, з сялян, пачатковая адукацыя, рабочы фабрыкі «Дняпроўская мануфактура» ў г. Дуброўна Віцебскай вобласці. 21 студзеня 1938 г. асуджаны да ВМП як агент разьведворганаў Японіі. Расстраляны ў горадзе Менск.

Японскія шпіёны сярод тагачасных беларусаў у Беларусі — не такая ўжо вялікая рэдкасьць. Унікальным трэба прызнаць выпадак Аляксея Барысавіча Фіялкі, беларуса зь вёскі Палюдавічы Ветрынскага раёну. Працаваў ён калгасьнікам у калгасе «Чырвоная Полаччына». Восеньню 1937-га быў асуджаны да ВМП і рас-

страляны ў Полацкай турме як «агент іншаразьведкі» (у арыгінале — иноразведки)!..

Вось, аказваецца, адкуль у нашых людзей такая прывязанасьць да слова «іншамарка». Ані сваіх легкавікоў Беларусь не выпускае, ані савецкія машыны даўно не складаюць аснову нашага машыннага парку, усе пераселі на фольксвагены, форды і таёты, а слова жыве. «Купіў сусед іншамарку» — гучыць з ноткай адчужэньня, калі не асуджэньня. Як пра агента іншаразьведкі. Няясна толькі, што гэта такое. А чалавека расстралялі.

Іншая рэч, дакладныя краіны — Польшча, Латвія, Літва ці вось гэты выпадак:

Юн-Цян-Сі Ўладзімер, кітаец, рабочы Кітайскай пральні ў г. Віцебск. Асуджаны 28 траўня 1938 г. да ВМП за шпіянаж на карысьць Японіі. Расстраляны ў Віцебскай турме.

Прыклад не адзінкавы, зьвярніце ўвагу, што гэты кітаец быў асуджаны як японскі шпіён 28 траўня 1938 г. Тое самае здарылася зь яго калегам з Кітайскай пральні ў Віцебску Чжан-Чжай-Яо і зь віцебскім вартаўніком Ван-Куй-Лінам. Але справа зусім ня ў тым, што яны кітайцы і што шпіёнілі на карысьць Японіі. Справа ў тым, што гэта Віцебск і канец траўня 1938-га. Цяпер глядзіце.

Вахімяк Антон Віктаравіч, фін, сьлесар Суднарамонтных майстэрняў у г. Віцебск. Асуджаны 25 траўня 1938 г. да ВМП як агент разьведкі Фінляндыі. Расстраляны ў Віцебскай турме.

Даты амаль супадаюць. Фінаў і кітайцаў у Віцебску лавілі і расстрэльвалі адначасова як шпіёнаў адпаведна Фінляндыі і Японіі, чые інтарэсы ў гэты час і ў гэтым месцы былі прадстаўленыя ня надта шырока — колькі тых фінаў і кітайцаў у Віцебску! Але карціну лёгка дапоўніць дзясяткамі немцаў і латышоў і сотнямі віцебскіх палякаў, што шпіёнілі адпаведна на карысьць Нямеччыны, Латвіі і Польшчы. Цяпер лінія партыі з асобных кропачак зьліваецца ў тлусты чырвоны пісяг, што на тыдзень ці месяц ператварыў Віцебск у горад сапраўднай нацыянальнай бойні.

Гэта значыць, што ў горадзе праводзілася пэўная ўстаноўка ці нават кампанія. Чалавек іншай нацыянальнасьці выклікаў падазрэньне, нягледзячы на ўсеагульны інтэрнацыяналізм і на дзіця мурына ў папулярнай кінакамэдыі «Цырк».

Мурынаў я ў кадэбэшных сьпісах не сустракаў. Пакуль. А вось літоўцаў бачыў шмат. У адрозьненьне ад польскіх агентаў, сярод якіх палякі толькі сустракаюцца, а асноўная маса — беларусы, дык літоўскія шпіёны і паводле нацыянальнасьці, як правіла, літоўцы. Хто яшчэ можа сустракацца сярод літоўскіх шпіёнаў, дык гэта латышы, як, дарэчы, і наадварот — латышскімі шпіёнамі называюцца літоўцы. Але гэта, відавочна, апіскі сьледчых НКУС, вынік геаграфічнага крэтынізму, які дагэтуль часьцяком сустракаецца ў галовах. Бо той, хто крыху знаёмы з гісторыяй і геаграфіяй, заўважыць, што шпіянаж літоўца на карысьць Латвіі і наадварот, латыша на карысьць Літвы, магчымы як нонсэнс, але не як рэальная зьява свайго часу.

Зрэшты, што ў нас тут ня нонсэнс...

Іван Маскалевіч, беларус, з сялян, 1913 году нараджэньня, калгасьнік у калгасе «Маладая гвардыя» Ільлянскага раёну Мінскай вобласьці. Асуджаны 8 ліпеня 1950 г. «асобай нарадай» на пяць гадоў лягера «за шпіянаж на карысьць Англіі».

Гэты ангельскі шпіён, які бяз пашпарта працаваў за палачкі ў беларускім калгасе, яўна ня Шцірліц. Але і адрасат шпіянажу ў яго даволі экзатычны. Тое, што нашы калгасы літаральна кішэлі шпіёнамі польскімі, нямецкімі і латыскімі, гэта зразумела. Бо блізкі сьвет. Іншая масьць сустракалася рэдка. Зусім новай зьявай у нашых калгасах напачатку 1950-х сталі шпіёны амэрыканскія. І меру пакараньня для іх прыдумалі наватарскую — прымусовае лячэньне ў псыхіятрычнай бальніцы. Такі вырак атрымаў Вікенці Іванавіч Чарнецкі зь вёскі Рогалеўшчына Валожынскага раёну, калгасьнік калгасу імя Ракасоўскага. 6 лютага 1952 г. яго накіравалі ў Ленінградзкую турэмную псыхіятрычную лякарню МУС СССР.

Яшчэ адно пашыранае абвінавачаньне — за шкодніцкую дзейнасьць. Каму і чым нашкодзіў Аляксандар Аляксеевіч Гаўрыльчык, брыгадзір калгасу ў вёсцы Лошніца Барысаўскага раёну, мы не даведаемся ніколі. Дый сумнеўна, каб ён там у малако даліваў ваду ці краў каласкі. Маштаб ня той. Аляксандар Гаўрыльчык, беларус, з сялян, у 1907-м быў дэпутатам Дзяржаўнай думы II скліканьня. І пасьля ў калгасе заваяваў званьне стаханаўца, езьдзіў на Ўсесаюзную сельскагаспадарчую выставу ў 1929-м. А тут, у 1937-м, асудзілі яго як банальнага шкадлівага брыгадзіра і 16 кастрычніка ў Менскай турме расстралялі...

Калі калгасы і саўгасы літаральна кішэлі замежнымі шпіёнамі, значыць, і дзяржаўных таямніц там было незьлічонае мноства. Ня дзіва, што сустракаліся сярод вяскоўцаў ня толькі агенты разьведак, але й тыя, хто проста ня ўмеў трымаць язык за зубамі. Ну і, натуральна, трапляў пад пільны прыцэл адпаведных органаў. Так здарылася з Рыгорам Васілевічам Гарошкам зь вёскі Алекшыцы Лагойскага раёну. Ён працаваў рахункаводам у саўгасе «Камсамолец». У 1936-м атрымаў тры гады сібірскай катаргі за разгалошваньне дзяржтайны (дзяржаўнай тайны). Такі ж прысуд, толькі раней, у 1925-м, далі Івану Казіміравічу Ілюкевічу, селяніну зь вёскі Кавальцы Койданаўскага раёну.

... Асаблівасьць картатэчных кур’ёзаў ня толькі ў тым, што яны ажыўляюць перад намі эпоху катаргі і расстрэлаў, але і ў тым, што паміж імі паўстаюць масткі, і мы бачым тыя заканамернасьці, якія дзейнічалі ў Беларусі ў той час і ўсё яшчэ адчуваюцца ў сёньняшнім дні. Мы яшчэ не аднойчы будзем зьвяртацца да «жартаў лёсу», бо, па вялікім рахунку, у манатонных кадэбэшных картатэках толькі гэтыя «жарты» і ёсьць — жывая праўда пра свой час.

## Канцылярыт

Сярод рэпрэсаваных у сталінскія часы ўраджэнцаў Беларусі — многія тысячы палякаў і толькі адзінкі расейцаў. Чаму? Хіба на працягу ранейшай гісторыі з Польшчы на нашы землі перасялялася больш людзей, чым з Расеі? Не. Вядома, што за XIX стагодзьдзе ў Беларусь прыехалі сотні тысяч расейскіх людзей, якія запоўнілі сабою ўсе тутэйшыя новастворанargyя структуры ўлады, гаспадаркі, адукацыі і царквы. Менавіта ў XIX ст. у Беларусі быў усталяваны той баланс колькасьці беларусаў, палякаў і расейцаў, які ў агульных рысах захаваўся да сёньня. І калі сталіншчына сапраўды не разьбірала нацыянальнасьці сваіх ахвяраў, дык адкуль такі дысбаланс паміж рэпрэсаванымі палякамі і расейцамі? Можа быць, усё ж разьбірала? Хоць бы таму ўжо, што побач з папулярнымі прысудамі «шпіянаж на карысьць Польшчы» ці «супрацоўніцтва з польскімі агентамі» ці проста «садзеяньне палякам» немагчыма ўявіць сабе такія самыя фармулёўкі пра Расею і расейскіх шпіёнаў. Прычым, калі ў справе фігуравала Польшча, сканчалася такая справа найчасьцей расстрэлам.

...Пракудзін Назар Савелевіч, 1867 году нараджэньня, беларус, селянін з вёскі Гарадзішча Халапеніцкага раёну Менскай акругі. 6 сакавіка 1930 г. асуджаны «тройкай» за сувязь з палякамі да ВМП. Расстраляны.

...Банькоўскі Франц Францавіч, 1863 году нараджэньня, беларус, повар сталоўкі інвалідаў у г. Менск. Асуджаны ў 1926 г. як агент польскай разьведкі да ВМП. Расстраляны 8 траўня 1926 г.

...Артынскі Вікенці Антонавіч, 1850 году нараджэньня, селянін на хутары Ліпкі Заслаўскага раёну Менскай вобласьці. 13 лютага 1930 г. асуджаны «тройкай» за сувязь з польскімі разьведорганамі да ВМП. Расстраляны.

Гэта ўсё беларусы — «польскія шпіёны». Але відавочна, што і ўраджэнцы Беларусі, запісаныя палякамі, насамрэч у масе сваёй былі людзі тутэйшыя. А іх нацыянальнасьць (часта, дарэчы,

падвойная — паляк-беларус) — гэта плён палянізацыі. Дык няўжо палянізацыя ў нас была больш інтэнсіўнай за русыфікацыю? Зразумела, не. Але тое, што яна была больш эфэктыўнай, гэта факт.

Некалі Сяржук Сокалаў-Воюш напісаў такі дзіцячы вершык:

Блакіт нябёс і белы бусел,
І кветкі ў полі, як абрус,
Мой край завецца Беларусяй,
А сам я хлопчык-беларус.

Вершык запомніўся зь першага разу і стаў нашым беларускім адказам на запаміналку «Кім ты естэсь? — Поляк малы». Усе нацыі ў пару свайго станаўленьня прыдумляюць такія вершыкі для сваіх малых, каб тыя зараз жа засвоілі, да якога народу яны належаць. З польскага «Кім ты естэсь» пачыналі сваю школьную навуку многія тысячы беларусаў, што траплялі ў хвалю палянізацыйных працэсаў. Але вось пытаньне. Расейскага такога вершыка няма. Больш за тое — і быць ня можа.

Тут хаваецца галоўнае адрозьненьне палянізацыі ад русыфікацыі. Першая накідала беларусам прыкметы сваёй нацыі і ўцягвала іх у палякі. Другая ішла з наднацыянальнымі прыкметамі імпэрыі. Першая давала мову, культуру і пачуцьцё далучанасьці да нацыі. Другая несла канцылярыт, ідэалёгію і субардынацыю. Вось чаму беларусы вельмі часта рабіліся палякамі, а расейцы, наадварот, часьцяком станавіліся ў нас беларусамі. І зьмена царызму на сталінізм у гэтых працэсах нічога сутнаснага не зьмяніла. Бальшавікі ня хлусілі, калі абяцалі разбурыць стары сьвет «до основанья», а затым збудаваць новы. І збудавалі. На тым самым «основаньи».

Канцылярыт, ідэалёгія і субардынацыя — тры чарапахі расейскага імпэрыялізму — не зрабілі з нас расейцаў менавіта таму, што не былі (дый ня ёсьць) мовай, культурай і пачуцьцём нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, а толькі іх сурагатам. І, як кожны сурагат, яны несьлі ў сабе даведзены да абсурду падман

і падмену паняткаў на кожным кроку. Свайго апатэозу гэты абсурд дасягнуў менавіта ў часы сталіншчыны.

## ВАЙСКОВЫ — ВАЕННЫ

Першую падмену зьнешне й не разгледзіш. Здавалася б, якая розьніца, вайсковы ці ваенны. Насамрэч вайсковы — гэта тое, што тычыцца войска, арміі, прафэсіі. А ваенны — тое, што тычыцца вайны і ўсіх, усяго народу. Мы жывем у Беларусі, а нашы вайскоўцы служаць у Беларускай вайсковай акрузе, за плотам. Але правільна яна называецца — Беларуская ваенная акруга. І гэта значыць, што яна і ёсьць — Беларусь, і мы ўсе жывем на яе тэрыторыі, незалежна ад таго, ці ёсьць на двары вайна, ці яе няма, ці лічым мы сябе цывільнымі людзьмі, ці не.

Скажам, калі ў 1930-м годзе на сялянку з падменскай Ратамкі 50-гадовую Марыю Іванаўну Юшкевіч паступіў данос у кампэтэнтныя органы, маўляў, нешта ня тое сказала Марыя Іванаўна пра савецкія парадкі, дык кампэтэнтныя органы адразу завялі справу аб антысавецкай агітацыі. Прычым называліся такія справы нават не крымінальнымі, а — ваеннымі. Хоць ніякай вайной у 1930-м годзе яшчэ й не пахла. Судзіла Марыю Іванаўну «тройка» і дала ёй пяць гадоў катаргі на Салаўках. А праз тры гады «ваенную справу» Марыі Іванаўны перагледзела калегія АГПУ і пастанавіла датэрмінова вызваліць кабеціну. Але ня проста вызваліць, а пазбавіць пры тым на тры гады права жыхарства ў Беларускай ваеннай акрузе. Заўважаеце падмену паняткаў? У Беларускай вайсковай акрузе сялянка з Ратамкі ніколі не жыла і жыць не зьбіралася. Але дадому яе не пусьцілі ў Беларускую ваенную акругу. Нарэшце, праз шмат гадоў, ужо пасьля сьмерці Сталіна, справу Марыі Іванаўны разгледзеў «ваенны трыбунал». Гэта каб фактычнаануляваць, за адсутнасьцю складу злачынства і рэабілітаваць няшчасную сялянку. Але зноў жа, чаму справу цывільнай сялянкі разглядае вайсковы трыбунал? А таму, што адбылася падмена, і трыбунал называецца — ваенны.

Без вайны працуюць у нас ваенны трыбунал і ваенныя пракуроры. Па ідэі яны вайсковыя і маюць дачыненьне толькі да вайскоўцаў, а паводле назвы — да ўсіх нас. Па нашых вуліцах дагэтуль ходзяць ваенныя, у нашых кішэнях ляжаць ваенныя білеты, наша армія займаецца ваенным будаўніцтвам, а ў школах ды інстытутах праходзяць ваенную падрыхтоўку і ваенную катэдру...

Праз падмену вайсковага на ваеннае кожны цывільны чалавек у Беларусі нібыта далучаны да вайсковых абавязкаў і мусіць несьці адказнасьць, прадугледжаную для карпарацыі, да якой ён не належыць — у гэтым выпадку, войска.

«ЗА ЗДРАДУ РАДЗІМЕ»

Адна ключавая падмена цягне за сабой цэлы абвал іншых. Напрыклад, здрада Радзіме. Быццам, зразумела, што тут да чаго, а калі ўдумацца...

За здраду Радзіме караўся ня толькі сам «здраднік», але і яго жонка — з афіцыйнай фармулёўкай «жонка здрадніка Радзімы», а таксама дзеці, цешча і ўсе астатнія «члены сям’і здрадніка Радзімы».

Мікалай Антонавіч Багдановіч зь вёскі Малінаўка Лагойскага раёну ў 1945-м, калі атрымаў пяць гадоў высылкі, меў усяго чатыры гады. Атрымаў болей, чым меў. На этап пайшоў як член сям’і здрадніка радзімы.

Марыя Дубініна, сялянка зь вёскі Шавернічы Бярэзінскага раёну ў 1946-м атрымала пяць гадоў высылкі як жонка здрадніка Радзімы. Асобна заведзены справы на яе дачок, двухгадовую Людмілу і Тамару, якой не было года. Яны таксама, як члены сям’і здрадніка Радзімы, атрымалі па пяць гадоў высылкі ў Краснаярскі край.

Са здраднікамі Радзімы ў нас кур’ёзная сытуацыя. Калі, скажам, за здраду Радзіме судзілі заходніх беларусаў. Нарадзіліся яны

пад Польшчай, у школу пайшлі пад нямецкай акупацыяй. А тут прыходзіць савецкая ўлада і судзіць за здраду Радзіме, натуральна, сваёй, савецкай. А яны ні сном, ні духам. Ані пра дзедушку Леніна, ані пра «сьцены дрэўнія Крамля», ані пра «гражданінам быць абязан».

Гэтак бацьку і двух сыноў Юркевічаў зь вёскі Завугольле Крывіцкага раёну Маладзечанскай вобласьці ў 1946-м за здраду Радзіме асудзілі на восем гадоў папраўча-працоўных лягераў. Праз два гады гэты прысуд перагледзелі і адмянілі. Але гэтыя сяляне ў сваім Завугольлі і бачылі тую савецкую ўладу хіба што год альбо паўтара — перад самай вайною. Дапусьцім, яны гэтай уладзе нейкім чынам здрадзілі. Але здрадзілі ўладзе — гэткай самай чужой для іх, прышлай і рэпрэсіўнай, як нямецкая ці там даваенная польская. Падмена панятку ўлады паняткам Радзімы — яшчэ адна сталінская прыдумка, якая мусіла ўсіх людзей уцягнуць у карпаратыўнае поле гэтай канкрэтнай улады і зрабіць іх перад ёй вінаватымі.

## «ПАМЁР У ППЛ»

Вайсковы-ваенны... А чаму ўвогуле гэтымі архівамі, дзе амаль сто адсоткаў ахвяраў — цывільнае насельніцтва, якое напраўду нікому не зрабіла шкоды — чаму імі займаецца КДБ — структура нацыянальнай бясьпекі? Яшчэ можна фармальна неяк прывязваць белымі ніткамі справы, дзе фігуруе шпіянаж, а што да антысавецкай агітацыі... — якое дачыненьне маюць гэтыя тысячы справаў да сёньняшняй РБ і яе бясьпекі?

Падмена паняткаў на тое й робіцца, каб губляўся ўсялякі сэнс. Вось яшчэ адна надзвычай пашыраная ў картатэцы фраза: «Памёр у ППЛ». На канцылярыце катаргу называлі папраўча-працоўным лягерам. Асуджаныя — галоўным чынам працоўныя людзі — нібыта працаю мусілі выпраўляць сваё непрыманьне калектывізацыі і савецкага беззаконьня. Карнікі й самі разумелі, што нікога яны не «паправяць», але гучала, напэўна, больш гуманна. Дакладней, больш бессэнсоўна.

Аднак вернемся да фразы «Памёр у ППЛ». Тут у канцылярыце мы маем справу ўжо не з падменаю словаў, а з падманам справай. ППЛ па сутнасьці — хіба гэта ня тое самае, што ВМП? Калі вам «тройка» дае не расстрэл, а катаргу ў Сібіры з тым самым, толькі расьцягнутым у часе вынікам.

Самы гібельны год для асуджаных на катаргу беларусаў у савецкай пэнітэнцыярнай сыстэме — 1942. Ясна, што ў лягерах было поўна садыстаў і што людзі не адыходзілі з жыцьця на разьвітальнай пасьцелі. Паміралі, галоўным чынам, ад пабояў і катаваньняў. Часам і ў справы гэта трапляла словам — ад кровазьліцьця.

1942 год. Гэта не пачатак вайны, але й пералом у вайне яшчэ не настаў. Ніхто ня ведае, у які бок хісьнецца маятнік гісторыі. Уся Краіна саветаў у адзіным напружаньні робіць неверагодныя высілкі, каб пераламіць пераможны наступ войскаў гітлераўскага рэйху. Гэтай мэце аддаецца ўсё — і жыцьцё салдата на перадавой, і талент генэрала, і ўся энэргія заводаў тылу. А тым часам што адбываецца зь мільёнамі зьняволеных ГУЛАГа? Дакладней, што адбываецца ў мазгах вертухаяў, якія ня ўключаныя ў працэс ваеннага супрацьстаяньня? Яны па-вертухайску прыкідваюць — а што, калі? А што калі пералому не наступіць?.. На далейшыя развагі не стае розуму і адукацыі. Тут самае галоўнае, падымаецца аднекуль з-пад страўніка тая глыбока схаваная ў чалавечай душы муць — усёдазволенасьць і асалода забойства іншага чалавека і беспакаранасьць. Кантроль зьверху фактычна адсутнічае, бо перакінуты кудысьці на фронт. І ГУЛАГ ператвараецца ў сапраўднае пекла. Вось адкуль гэты 1942 год, калі лёсы нашых рэпрэсаваных суайчыньнікаў найчасьцей сканчаліся радком «Памёр у ППЛ».

Нехта скажа, што людзі часам і самі паміраюць. Старасьць, хваробы... Сярэдні ўзрост «памерлых у ППЛ» мужчын — 40–50 гадоў. Для жанчын гэты тэрмін наступаў на дзесяць гадоў раней. Але пра жанчын я скажу потым.

...Баярын Алімпі Архіпавіч, 1865 года нараджэньня, беларус, селянін зь вёскі Баркі Халапеніцкага раёну. 20 кастрычніка 1937 г.

асуджаны «тройкай» за антысавецкую агітацыю на 10 гадоў ППЛ у Цемляг НКУС. 13 траўня 1942 г. памёр у ППЛ.

Гэты Алімпі Баярын ужо на момант прысуду меў 72 гады, а яму ўляпілі 10 гадоў катаргі. Цемнікаўскі лягер знаходзіўся ў Мардовіі і займаліся там лесапавалам. Дзіва, што наш дзед дацягнуў яшчэ да сямідзесяці сямі. Калі яго туды адпраўлялі, напэўна ж і ён сам і опэры разумелі, што гэта фактычнае ВМП. Але працягнулі пакуты. Дзядоў шкада, толькі тут у нас няма такіх яскравых падставаў назваць іх сьмерць заўчаснай, як у выпадках з маладымі.

... Юшкевіч Ігнат Паўлавіч, 1916 году нараджэньня, сьлесар-токар кавальскай арцелі ў горадзе Беразіно. У 1937-м асуджаны за антысавецкую агітацыю на 10 гадоў ППЛ у Магадан. 26 лютага 1942 г. памёр у ППЛ.

Гэты маладзён з кавальскай арцелі напэўна ж ня скардзіўся на здароўе. Але вось памёр, маючы ўсяго 26 гадоў. І такія выпадкі зусім ня рэдкасьць. Станіслава Буйку, селяніна з Плешчаніцкага раёну асудзілі за сувязь з польскім агентам, калі яму было ўсяго 19. А праз год, на катарзе ў Архангельскай вобласьці хлопца ня стала. Лявонцію Буланчыкаву, 36-ці гадоў, вэтэрынарнаму лекару зь Сіроцінскага раёну Віцебскай вобласьці, якога судзілі за антысавецкую агітацыю, не ўдалося нават да катаргі даехаць. «Памёр пад вартай».

... Люлькові̇ч Антон Сяргеевіч, 1914 году нараджэньня, селянін зь вёскі Дзівін Кобрынскага раёну. Асуджаны ў 1940 г. за сувязь з польскай паліцыяй на 5 гадоў ППЛ у Комі АССР. 2 лістапада 1942 г. памёр у ППЛ.

Выходзіць, Антону Люльковічу было 28 гадоў. Таксама ня век для натуральнага сыходу.

Цяпер пра жанчын. Зь імі зусім бяда. Іх, праўда, і рэпрэсавалі крыху меней, чым мужчын. Але і прынцып натуральнае сьмерці ад старасьці тут статыстычна не праглядаецца. Нават наадварот, маладзейшыя паміралі ў лягерах першымі.

...Шыдлоўская Ганна Пятроўна зь вёскі Слабада Узьдзенскага раёну, беларуска. 12 гадоў. У 1935 г. як член кулацкай сям'і высланая ў г. Котлас Архангельскай вобласьці. Праз год, у 1936-м, памерла ад голаду.

...Яічка Яніна Язэпаўна, 20 гадоў, беларуска, памочнік фармацэўта аптэкі пры цэнтральнай паліклініцы г. Менска. У 1944 г. за здраду Радзіме асуджаная на 10 гадоў ППЛ, Севуралляг, Свярдлоўская вобласць. 3 лістапада 1947 г. памерла ў ППЛ.

...Сурымта-Мілашэўская Бранілава Станіславаўна, 27 гадоў, полька, калгасьніца зь вёскі Шэпелі Заслаўскага раёну Менскай вобласьці. У 1938 г. асуджаная як агент польскай разьведкі на 10 гадоў катаргі ў Карляг, Архангельская вобласьць. 24 лістапада 1938 г. памерла ў ППЛ.

...Змачынская Вера Ўладзіміраўна, 19 гадоў, навучэнка Курсаў бухгалтараў, г. Менск. У 1945-м асуджаная як член СБМ на 5 гадоў ППЛ. 12 траўня 1950 г. памерла ў ППЛ.

...Кунцэвіч Валянціна Іпалітаўна, 20 гадоў, беларуска, сялянка зь вёскі Новы Пагост Мёрскага раёну Віцебскай вобласьці. 18 чэрвеня 1941 г. асуджаная за контррэвалюцыйную дзейнасьць на 8 гадоў ППЛ. Памерла ў ППЛ.

...Ласоўская Антаніна Мікалаеўна, 26 гадоў, студэнтка Менскага політэхнічнага інстытуту. У 1937-м асуджаная «асобай нарадай» як жонка ворага народа на 8 гадоў катаргі ў Карляг, г. Акмолінск. Праз паўгода памерла ў ППЛ.

...Малецкая Алена Іванаўна, 16 гадоў, беларуска, сялянка ў вёсцы Альхоўка Ветрынскага раёну Полацкай акругі. У 1930-м асуджаная за антысавецкую агітацыю на тры гады высылкі ў Томскую акругу. 3 траўня 1930 г. памерла ў ссылцы...

* * *

Сталінскі канцылярыт, як мова Элачкі Людаедкі, складаецца зь дзясятка фармулёвак, дзясятка назваў падразьдзяленьняў ГУЛАГа і дзясятка абрэвіятур — ВМП, ППЛ, НКУС... На гіганцкім канвэеры абсурду гэтага дастаткова, каб апісаць жыцьцё і сьмерць соцень тысяч людзей. Калі б яшчэ й самі людзі называліся нумарамі ці абрэвіятурамі, архівы КДБ дасягнулі б поўнае дасканаласьці — поўнай абстракцыі, перасталі б увогуле што-небудзь значыць. Напэўна, самі выканаўцы гэтага злачынства і ймкнуліся да такога абстрагаваньня, за якім сутнасьць злачынства прападае. Яно б так і было. І толькі жывыя імёны і прозьвішчы людзей разбураюць гэтую сьмяротную пустату і абстракцыю. Яны ўсе непадобныя і адзінкавыя, яны — адзіны прыстанак гуманізму ў гэтай касьмічнай кадэбэшнай бясконцасьці. І толькі ў іх утрымліваецца праўда таго, што насамрэч адбылося з народам і з краінай. Яны нават праз гэтыя самыя імёны і назвы шлюць нам пасланьне са сваёй невараці. Як, да прыкладу, асуджаны на ссылку за антысавецкую агітацыю старэнькі селянін Кірыла Трахімавіч Баравік зь вёскі Вечнасьць Круглянскага раёну. Так і пайшоў з адной вечнасьці ў іншую вечнасьць...

Падступныя сталінскія падмены нікуды ня зьніклі і з нашага сёньняшняга жыцьця. Па-ранейшаму ўсё вайсковае называецца ў нас ваенным, канцылярыт служыць другой, а насамрэч першай дзяржаўнай мовай, і вялікі суседні народ так і ня склаў свайго вершаванага адказу на пытаньне «Кім ты естэсь?» Уся дзяржаўная ідэалёгія па-ранейшаму слова Радзіма трактуе як Савецкі Саюз — зьніклую атлянтыду бальшавіцкай імпэрыі, ад якой зноў засталося адно толькі «снованье» той самай Расейскай імпэрыі. І таму «здрада Радзіме» ў нас па-ранейшаму ёсьць здрадаю ўладзе, рэжыму і яго кіраўніку. «Брыдкаслоўе», за якое садзяць на суткі іншадумцаў, нічым не адрозьніваецца ад «антысавецкай агітацыі», а «хуліганства», за якое садзяць у турмы на гады, — ад «шпіянажу на карысьць Польшчы». Пры гэтым даказваць віну няма ніякай патрэбы, бо судзяць не суды, а тыя самыя, па сутнасьці, «двойкі», «тройкі» і «асобыя нарады»,

дзе сьведкамі выступаюць тыя самыя опэрупаўнаважаныя НКУС. І людзі нашы ў масе сваёй ставяцца да ўсяго гэтага гэтаксама абыякава, як тады, калі здавалася, што абы мяне гэта ўсё не закранула, а закране, дык абы далі гады тры і лепш высылкі, чым дзесяць і катаргі, а калі дзесяць, дык лепш бы ў Комі, чым на Калыму, а не, дык няхай бы і ў Калыму, абы не ВМП.

Так і жывем, і ніяк не дачакаемся абуджэньня нацыянальнае памяці і нацыянальнае волі. Так і будзем жыць, пакуль будзем звычайным тлумам, насельніцтвам, запаўняльнікамі прасторы, пакуль ня станем народам і нацыяй.

## *Сатысфакцыя*

Калі сталінскія рэпрэсіі былі несправядлівасьцю і злачынствам, калі несьлі людзям страты і крыўду і калі мы ўсё гэта прызнаем, дык — што далей? Па ідэі, трэба было б узнавіць справядлівасьць, пакараць злачынцаў, кампэнсаваць страты і супакоіць крыўду тым, што называецца словам «сатысфакцыя», якое Вацлаў Ластоўскі пераклаў на беларускую мову як «здаволеньне». Але па сутнасьці нічога гэтага не адбылося. Нездарма ў савецкіх слоўніках сатысфакцыі або няма, або яна падаецца як састарэлы панятак. Аддаваць даўгі — несучасна(!). З гледзішча даўжніка — у нашым выпадку, дзяржавы, — яно можа й так. Парадокс у тым, што і «крэдытор» — у нашым выпадку народ — часьцяком пагаджаецца з тым, каб «не варушыць мінулае». Пры гэтым абодва ўдзельнікі «зьдзелкі» — і дзяржава, і народ — непазьбежна перажываюць мутацыю, бо пагадзіліся з нармальнага шляху перамясьціцца ў сьвет абсурду.

Скажу шчыра, рэабілітацыя — малазразумелая мне зьява. Што гэта такое і навошта? Быццам можна праз рэабілітацыю вярнуць расстралянага, вылекаваць скалечанага, адкруціць назад паламаны лёс... А дадайце сюды тое, што рашэньне пра рэабілітацыю ці нерэабілітацыю прымаюць тыя самыя структуры, якія раней асудзілі на расстрэл, калецтва і зьнявечаны лёс. Гэта значыць, што колішняга «ворага народа» рэабілітуюць не перад Богам і людзьмі, а перад тымі самымі кабінэтамі, у якіх і засудзілі, у той самай сыстэме каардынат, у якой толькі і магчыма было невінаватага чалавека назваць «ворагам народа» і катаваць, высылаць, страляць. Гэта значыць, што чэкісты новага пакаленьня апраўдваюць таго невінаватага ў сваіх вачах, перад уласнай сыстэмай і тым самым быццам сьцьвярджаюць, што ён для іх — свой, такі самы. Выходзіць, рэабілітацыя — гэта, з гледзішча нармальнага, здаровага розумам чалавека, — не што іншае, як дыскрэдытацыя?

Калі я перачытваю біяграфіі рэпрэсаваных і рэабілітаваных, адчуваньне абсурду перагорнутага дагары нагамі сьвету становіцца пастаянным пачуцьцём.

...Бондараў Фама Аляксандравіч, беларус, селянін Сеньненскага раёну, 52 гады, за антысавецкую агітацыю 17 траўня 1933 г. асуджаны на тры гады высылкі ў Башкірыю. 15 верасьня 1937-га асуджаны да ВМП. Расстраляны. У 1957-м рэабілітаваны.

...Жызьнеўскі Альфонс Язэпавіч, селянін Полацкай акругі, беларус, трыццаці гадоў. У 1925-м «асобай нарадай» асуджаны за шпіянаж на карысьць Латвіі на тры гады паразы ў правах. У 1938-м «тройкай» асуджаны да ВМП. Расстраляны. У 1989-м рэабілітаваны.

...Круценка Аляксандр Клімавіч, беларус, трыццаці гадоў, калгасьнік у Віцебскім раёне. 20 студзеня 1934 г. асуджаны за антысавецкую агітацыю на пяць гадоў лягера. У 1937-м за тое самае атрымаў 10 гадоў лягера. У 1942-м у лягеры памёр. У 1989-м рэабілітаваны.

Кожны з гэтых прыкладаў — тыповы. Такіх лёсаў многія тысячы.

У прысудзе звычайна пісалі па тры, пяць ці нават 10 артыкулаў крымінальнага кодэксу, якія нібыта парушыў абвінавачаны. Чалавека расстрэльвалі ў адной з турмаў БССР ці незваротна высылалі на катаргу, ці сьлед ягоны прападаў на бяскрайніх прасторах Сібіры. А праз паўстагодзьдзя пасьля гэтага чыноўнікі з партфэлямі засядалі адмысловай камісіяй, каб разгледзець справу аб ягонай рэабілітацыі. Вывучалі кожны артыкул і выносілі па-свойму забаўныя вэрдыкты. Вось частая фармулёўка (выбачаюся за канцылярыт): «Рэабілітаваны ў частцы ўчыненьня злачынства паводле артыкула 72 КК БССР». Паводле астатніх трох, пяці або дзесяці артыкулаў чалавек заставаўся «ворагам народа». Дакладней, заставаўся толькі «вораг», бо самога чалавека найчасьцей даўно ўжо не было ў прыродзе. А калі й быў, дык што яму давала тая «частковая рэабілітацыя»?

...Канстанцін Міхалавіч Біч, беларус, батрак па найму ў вёсцы Бабаевічы Нясьвіжскага раёну. Асуджаны ў верасьні 1940-га за нелегальны пераход мяжы і антысавецкую агітацыю на 8 гадоў катаргі ў Каргопальляг НКУС паводле артыкулаў 72 і 120 КК БССР. Праз сорак гадоў рэабілітаваны ў частцы артыкула 72.

Канстанціна Іванавіча Вішнеўскага, беларуса і селяніна зь Любанскага раёну, судзілі за контррэвалюцыйную агітацыю, як гэта тады шырока практыкавалася, двойчы. Першы раз, у 1935-м, адправілі на шэсьць гадоў у Далёкаўсходні лягер, а ў 1938-м ужо там, на Далёкім Усходзе расстралялі. І вось праз чвэрць веку ў справе Вішнеўскага, што захоўваецца ў архіве КДБ у Менску, робіцца запіс — не рэабілітаваны.

Хочацца паклікаць на дапамогу Кафку, Оруэла, а найлепей Эжэна Ёнэско, клясыка літаратуры абсурду, каб растлумачыў, што гэта ўсё значыць і чым займаюцца ўсе гэтыя кадэбэшныя людзі з сур’ёзным выразам твару ў змрочных сталінскіх калідорах, дзе празь дзьверы на кабінэтах ці ня з тых яшчэ сталінскіх часоў вісяць таблічкі «Идёт допрос».

...Леанід Фёдаравіч Ластачкін, расеец, вэтэрынарны лекар навукова-дасьледчай станцыі, г. Віцебск. Асуджаны ў 1937-м як член контррэвалюцыйнай арганізацыі да ВМП. Расстраляны 3 студзеня 1938 г. 8 жніўня 1990 году Вярхоўным Судом БССР рэабілітаваны за адсутнасьцю складу злачынства.

Аляксандра Банефацевіча Нядзьвецкага, беларуса, зь мяшчан, табэльшчыка дэпо станцыі Орша, асудзілі ў 1938-м за антысавецкую агітацыю да ВМП з канфіскацыяй маёмасьці. Расстралялі. А ў 1989-м, праз паўстагодзьдзя, рэабілітавалі. Задачка з адным невядомым — які лёс канфіскаванай маёмасьці? У чалавека маглі быць дом і зьберажэньні, якія ён назапашваў для дзяцей. Ну і паколькі зь мяшчан, а не з батракоў, дык ня выключаная і спадчына. Зусім нездарма тут згадваецца канфіскацыя. Рэдка гэтае слова сустракаецца ў справах «ворагаў народа». Але ж чалавека рэабілітавалі, няхай і праз 50 гадоў, няхай і расстралянага. І калі рэабілітацыю лічыць аднаўленьнем справядлівасьці, дык вярніце тую канфіскаваную маёмасьць дзецям або ўнукам Нядзьвецкага, для якіх ён толькі і стараўся, зьбіраў свой скарб. Скажуць — праехалі. Даўно тое было. Тым больш, што ўнукі ахвяры могуць і ня ведаць пра рыхтаваныя для іх скарбы. Тут лёгіка дзяржавы нагадвае лёгіку дробнага зладзюжкі.

...Гервятоўскі Адольф Мацеевіч, беларус, селянін, 70-ці гадоў, аднаасобная гаспадарка на хутары Савін Дуб Лепельскага раёну. За антысавецкую агітацыю асуджаны «тройкай» да ВМП. Расстраляны 6 верасьня 1937 г. У 1989 годзе рэабілітаваны.

На момант рэабілітацыі Адольфу Гервятоўскаму мусіў ісці 121 год...

У Адольфа быў сын Казімір. Яго таксама судзілі, вывозілі ў горад Ачынск, ён уцякаў, яго лавілі і зноў судзілі, цяпер ужо на катаргу. І таксама праз паўвека рэабілітавалі. Можа і добра, калі апраўдалі, хоць табе ўжо і за 80. Зь іншага боку — якая рэабілітацыя табе патрэбная? Прыбаўка да пэнсіі? Ці, можа быць, рэабілітацыя «добрага імя»?..

Мяне дзівяць захады аб пасьмяротнай рэабілітацыі Ларысы Геніюш. Ці паэтка, катаваная ў ГУЛАГу, мусіць быць рэабілітаваная? Кім? Перад Богам і людзьмі ёй апраўданьня не патрабуецца. Што ж да рэабілітацыі перад сыстэмай, перад бюракратыяй, перад чэкістамі ўжо нашых дзён, дык такая рэабілітацыя — як просьба аб залічэньні ў рады гэтых самых бюракратаў і чэкістаў. І гэта тая Геніюш, якая ўсё жыцьцё цярпела пад перасьледам органаў, але, жывучы ў БССР, адмовілася прымаць савецкае грамадзянства. Гэта значыць, адмовілася ад чужой і ганебнай для яе сыстэмы. Гэта значыць, што захады аб рэабілітацыі Геніюш кардынальна супярэчаць яе ўласным прынцыпам, сьветапогляду, жыцьцю.

* * *

Пасьля кожнай усенароднай бяды людзям патрэбная сатысфакцыя. Інакш здаецца, што няма ў сьвеце ані праўды, ані справядлівасьці. І як з гэтым жыць?

Сатысфакцыя — здаваленьне найперш за прыніжаную годнасьць.

Праўда, тое, што ў іншых ясна, у нас — не. Скажам, у выпадку ўсенароднага прыніжэньня гаворка ідзе пра нацыянальную годнасьць, а яна ў нас ня толькі прыніжалася за царом, за Сталіным, у вайну, але й сёньня прыніжаецца. Якая ж тут сатысфакцыя?

Беларускі народ у XX ст. зьведаў многа бед, але ні разу ня зьведаў сатысфакцыі. Білі, плакаць не давалі і ня выбачыліся. Сталінскія рэпрэсіі — пад замкам. Краіна-пераможца — адзіная ў антыгітлераўскай кааліцыі — выйшла з вайны са стратамі тэрыторыі. Гэта не таму гаворыцца, каб тэрыторыі вярнуць, а таму, што гэта праўда, і таму што сатысфакцыі за страты не было. Грымнуў Чарнобыль, і людзі дагэтуль ня ведаюць, ці нармальна яны жывуць, ці пад пагрозай сьмерці. Ляснулі савецкія ўклады, ну і канцом дзела. Няма сатысфакцыі.

Між тым, па вялікім рахунку, зусім не пералік нашых трагедыяў патрэбны нам для жыцьця, для будучыні, а гэтая самая сатысфакцыя, якая дазваляе закрыць адзін этап гісторыі і перайсьці ў іншы бяз каменя на сэрцы і абсурду ў галаве. Але зрабіць так можна толькі тады, калі насельніцтва пачуваецца нацыяй — гаспадыняй уласнага лёсу.

Цяпер больш ні слова пра трагедыі. Бо чую голас апанэнта — сатысфакцыя-сатысфакцыя, а як ты сабе тое ўяўляеш? Уяўляць можна ўсё што заўгодна. Лепей узяць рэальную сытуацыю. Вось найбольш блізкая нам і ў гісторыі, і ў геаграфіі, і ў агульнай сытуацыі — Літва. Як там спраўляюцца з тымі самымі праблемамі?

Заўважу, што, у адрозьненьне ад Беларусі, Літва пасьля 1991 г. канчаткова разьвіталася з камунізмам. Там былі распачатыя працэсы рэстытуцыі — вяртаньня людзям адабранае камуністамі маёмасьці, і люстрацыі — выкрыцьця тых, хто супрацоўнічаў з камуністычным рэжымам і фактычна спрычыняўся да рэпрэсій. Літва аб’яднала ўвесь пэрыяд з 1940 г., калі апынулася ў складзе СССР, да 1990-га, калі з гэтага складу выйшла, у адзін. Усе, хто пацярпеў за гэты час, дамагаюцца статусу пацярпелых і адпаведных грашовых кампэнсацый. Такіх людзей у Літве каля ста тысяч. У іх лік уваходзяць і раскулачаныя сяляне, і зьня-

воленыя за антысавецкую агітацыю, і ахвяры нацыстаў, і тыя, каго паслалі на вайну ў Афганістан, і ліквідатары наступстваў Чарнобыльскай катастрофы... Усе гэтыя людзі ўвасабляюць сабою найбольш пакрыўджаную частку нацыі, а кампэнсацыі, якія выплачвае ім літоўская дзяржава — гэта сатысфакцыя для ўсяго народа, які сам распараджаецца сваім лёсам.

* * *

Існуе думка, што Беларусь — не Літва, што там нейкае ўсё іншае, літоўцы — нацыяналісты і ўвогуле ледзь ня немцы нейкія. Насамрэч, гэта ня так. І пасьляваенная савецкая гісторыя ў іх нічым не адрозьніваецца ад нашай. Іншая рэч, што яны разабраліся са сваім мінулым і ўжо сёньня сьпяшаюцца кампэнсаваць сваім грамадзянам страты савецкага часу, пакуль людзі тыя жывыя — з уласнага бюджэту, бо перамовы з Масквой на гэтую тэму могуць цягнуцца доўга і скончыцца нічым.

Тое, што ўсе пацярпелыя за гэты пэрыяд сабраныя ў адну групу і трактуюцца менавіта такім чынам, — вынік таго, што ўвесь гэты пэрыяд ацэнены як акупацыйны. Ці магчымае такое ў Беларусі? Не. Бо ўвесь савецкі пэрыяд не разглядаецца ў нас уладамі як адно цэлае і пры тым супярэчнае нацыянальным інтарэсам беларускага народу. Кажуць — гэта наша гісторыя, якая б яна ні была. Фраза прыгожая, але хлусьлівая. Дастаткова ўдумацца — наколькі гэта наша гісторыя, наколькі ад нас залежаў выбар улады, выбар рэпрэсіяў, войнаў і катастроф. Не, гэта якраз ня наша гісторыя. Гэта гісторыя, у якой беларуская нацыя была то гарматным мясам, то паддосьледнай авечкай, то паслухмяным электаратам, але ніколі — суб’ектам сваёй уласнай гісторыі. У літоўцаў тая самая сытуацыя, толькі яны сказалі сабе — гэта была ня наша гісторыя. Гісторыя пра нас, з нашым удзелам — так, але ня наша. Акупацыйная адносна нас гісторыя. Калі так, то зьяўляюцца рэальныя адказныя за злачынствы савецкага пэрыяду і рэальныя пацярпелыя.

У прымірэнчай, на першы погляд, трактоўцы пра «нашу гісторыю» не знаходзіцца месца сотням тысяч нашых суайчыньнікаў,

што пацярпелі ад незаконных і антычалавечых дзеяньняў улады, а значыць, няма нікога, каму трэба было б кампэнсаваць страты. Трактоўка пра «нашу гісторыю, якой бы яна ні была» — гэта насамрэч загаворваньне зубоў, якім улада і яе прапаганда папярэджваюць магчымыя заклікі да кампэнсацый і сатысфакцыі. Народ застаецца жыць не адпомшчаны і не адудзячаны, без сатысфакцыі. У каардынатах абсурду.

## *Лукашэнка — латвійскі агент*

У размовах пра характар сёньняшняй улады ў Беларусі непазьбежныя пытаньні — адкуль гэтыя людзі паходзяць і з кім у гісторыі сябе атаясамліваюць. Выснова атрымліваецца парадаксальная. Паходзіць большасьць намэнклятуры з тых сем’яў, што пацярпелі ад сталінскіх рэпрэсій, а атаясамліваюць яны сябе з тымі, хто гэтыя рэпрэсіі ажыцьцяўляў.

Інфармацыя пра рэпрэсаваных па-ранейшаму закрытая ў архівах КДБ, але стакроць глыбей хаваецца інфармацыя пра тых, хто рэпрэсаваў. Са скупых зьвестак, што здабытыя й апублікаваныя ў кнігах Аляксандра Лукашука і Леаніда Маракова, а таксама на адпаведных сайтах у сеціве, відаць, што сярод сьледчых НКУС, сярод членаў «троек», «двоек» і «асобых нарадаў» (гэта значыць, тых, хто непасрэдна выпраўляў людзей на расстрэлы і катаргу) ёсьць і дзеячы мясцовай гадоўлі, але іх адзінкі. Асноўная маса — людзі яраслаўскія, іркуцкія, арлоўскія, разанскія... адным словам — расейскія. Здавалася б, лягічна якраз у іхніх сьпісах адшукаць прозьвішчы Лукашэнак, Пяткевічаў, Козікаў, Сідорскіх, Гайдукевічаў... Але іх там няма. Затое ёсьць гэтыя прозьвішчы ў сьпісах рэпрэсаваных.

...Лукашэнка Андрэй Сямёнавіч, калгасьнік калгасу «Чырвоны сьцяг» у вёсцы Бяззубенкі Расонскага раёну. У 1937 г. арыштаваны і асуджаны «тройкай» за антысавецкую агітацыю на 10 гадоў папраўча-працоўнага лягера.

...Лукашэнка Барыс Аляксандравіч, калгасьнік у вёсцы Шатрава Расонскага раёну. У 1937-м асуджаны як агент польскай разьведкі да ВМП. Расстраляны ў Полацкай турме 28 сьнежня 1937 г.

...Лукашэнка Марыя Мікітаўна 1924 году нараджэньня зь вёскі Вітынь Касьцюковіцкага раёну Магілёўскай вобласьці, настаўніца. У 1947-м за антысавецкую агітацыю асуджаная на сем гадоў лягера.

Гэтай настаўніцы — Марыі Лукашэнцы — на момант прысуду не было й дваццаці трох гадоў. Аднак у пералічаных біяграфіях уражвае ня гэта, а тое, наколькі яны тыповыя паміж дзясяткаў тысяч падобных. Сярод усіх маіх Лукашэнак на пэўную адметнасьць прэтэндуе хіба што вось гэты:

...Лукашэнка Павал Карпавіч, 1890 году нараджэньня, калгасьнік у калгасе імя Дзяржынскага ў вёсцы Сідоранкі Асьвейскага раёну. У 1938-м асуджаны Пастановай НКУС СССР і Пракурора СССР як агент латвійскай разьведкі да ВМП. Расстраляны 19 лютага 1938 г.

Вядома, прозьвішчы — гэта простыя супадзеньні. Хоць, хто ведае, якім чынам і праз што перадаецца ў людзях адмысловая энэргетыка і чые нам іншы раз сьняцца дзіўныя сны. Не сакрэт, што цяперашні кіраўнік краіны, у адрозьненьне ад папярэднікаў, старанна ахоўвае таямніцу свайго паходжаньня. Бацькі ён ня ведаў і жыве з прозьвішчам маці. Такая сакрэтнасьць характэрная для калянізатараў і аўтарытарных папулістаў. Узорам тут, безумоўна, выступае Гітлер, які не належаў ані роду, ані сям'і, а толькі — увесь і цалкам — нямецкай нацыі. І жонкі ў яго не магло быць, бо жонкаю яму была «ўся Нямеччына».

Сьледам за кіраўніком і ягонае атачэньне пачынае «абсякаць хвасты» — прыкметы паходжаньня. Цяпер нават пры прызначэньні на высокія пасады друкаваць біяграфію асобы з прыкметамі паходжаньня — ня модна. Скажам, у фігуранта з прозьвішчам Янчэўскі ў біяграфіі сказана, што нарадзіўся ў г. Барысаў, а ў фігуранта Пяткевіч — што ў Мінску. Хто былі бацькі й дзяды і з якой мясцовасьці вядзецца род-племя, не ўдакладняецца.

Такім чынам, папулісцкі характар аўтарытарнае ўлады стаў прычынай таго, што дзеячы афіцыйнай беларускай палітыкі выступаюць не на баку рэпрэсаваных продкаў, а на баку тых, хто іх продкаў рэпрэсаваў. Ствараюць лініі Сталіна, усяляк замінаюць людзям ушаноўваць памяць бязьвінных ахвяраў у месцах масавых пахаваньняў, даюць цалкам тэндэнцыйныя ацэнкі гісторыі, як, да прыкладу, гэтая — на сайце КДБ РБ. Вось што там сказана пра сталінскія рэпрэсіі і ролю ў іх слаўных чэкістаў:

«Пасьля сканчэньня Грамадзянскай вайны неабходнасьць у спэцыяльным органе, які меў надзвычайныя правы і паўнамоцтвы, адпала, і ЧК была ліквідавана. Яе пераемнікам стала ўтворанае 1 сакавіка 1922 году Галоўнае Палітычнае Ўпраўленьне пры ЦВК Беларусі, а з 15 чэрвеня 1934 г. — НКУС БССР.

Асноўнай задачай гэтых органаў зьяўлялася барацьба са шпіянажам, дывэрсіямі і тэрорам. Іх супрацоўнікі ўжо ў тыя часы ажыцьцяўлялі складаныя мерапрыемствы супраць замежных падрыўных арганізацый, дзейнічалі высокапрафэсійна і вынікова.

Трагічныя падзеі 30-х гадоў XX ст. крануліся і органаў дзяржбясьпекі. Рэпрэсіям падвергліся 23 тысячы чэкістаў, прычым загінулі найлепшыя — прафэсіяналы, паплечнікі Дзяржынскага, людзі незвычайныя, з багатай і датклівай душою, якія беззапаветна служылі Радзіме і змагаліся за сьветлую будучыню краіны».

Пра тое, хто рэпрэсаваў 23 тысячы людзей з багатай і датклівай душою, на сайце КДБ не сказана. Хто рэпрэсаваў усе 600 тысяч людзей у Беларусі (гэта афіцыйная статыстыка) — таксама.

Ні слова пра рэпрэсіі няма і на афіцыйным партале прэзыдэнта РБ.

Прыярытэт улады ў чыстым выглядзе прымусіў палітыкаў адмовіцца ад рэпрэсаваных продкаў, бо, на добры лад, гэта яны, палітыкі, павінны былі распачынаць шэсьці ў Курапаты, ініцыяваць стварэньне падобных мэмарыялаў і музэяў. Але яны зрабілі наадварот. Бо ў залатых праменях сталінскага сонца можна, па-першае, цалкам ігнараваць законы і Канстытуцыю, чым адразу і адзначыўся Лукашэнка на пасадзе прэзыдэнта. Можна беспакарана сканцэнтраваць усю ўладу ў адных руках і правіць краінай бясконца доўга. Можна беспакарана распраўляцца са сваімі палітычнымі апанэнтамі. Па-другое, можна не займацца нацыянальным будаўніцтвам і трымаць народ у завіслым стане паміж формамі насельніцтва і нацыі, а ў такім стане людзі ня здольныя кансалідавацца вакол ідэі перамен, яны нічога не вырашаюць на выбарах, яны апускаюцца

да першасных патрэбаў і па сутнасьці не зьяўляюцца грамадзянамі сваёй краіны, бо ад іх не залежыць нічога.

Як ні круці, а супольная памяць пра ахвяры аб’ядноўвае людзей, у народа праразаецца свой голас. Нацыя, як жывы арганізм, ужо сама становіцца гарантыяй ад беззаконьня і рэцыдываў сталіншчыны. Але гэта зусім іншы тып дачыненьняў улады і народа.

* * *

Каб ацаніць маштабы сталіншчыны ў Беларусі, дастаткова сказаць, што паходжаньне нашай намэнклятуры, карані гэтых людзей лягчэй знайсьці ў архівах рэпрэсій, чым у звычайных гістарычных архівах, дзе захоўваюцца генэалёгіі роду. Чытаючы картатэкі рэпрэсаваных, міжволі зьвяртаеш увагу на знаёмыя прозьвішчы. Вось Канстанцін Паўлавіч Кебіч, асуджаны і расстраляны ў 1937-м за антысавецкую агітацыю. А вось Фама Піліпавіч Лучанок, селянін зь вёскі Ганапольле Ігуменскага павету, арыштаваны і расстраляны яшчэ ў 1921-м за дэзэртырства і рабаўніцтва. Селянін Аляксей Еўдакімавіч Козік як агент польскай паліцыі ў 1941-м быў адпраўлены ў папраўча-працоўны лягер у Сібір і там менш чым праз год памёр. Козік Васіль Антонавіч быў сыгналістам блёкпосту на станцыі Слаўнае Талачынскага раёну і пайшоў у ГУЛАГ як нямецкі шпіён. Сустракаюцца і Козікі палякі, іх расстрэльвалі на месцы, у Беларусі. Козік Язэп Францавіч быў беларусам, у 1951-м яго судзілі як пасобніка нямецкіх акупантаў і далі 10 гадоў лягера. Паваенныя суды над пасобнікамі сканчаліся звычайна падобнымі прысудамі, у адрозьненьне ад судоў 1937–38 гг., калі за шпіянаж і антысавецкую агітацыю давалі, як правіла, ВМП.

Сярод шматлікіх рэпрэсаваных Гайдукевічаў сустракаюцца памочнік майстра-збраяра, баец пажарнай аховы, селянін, інвалід, беспрацоўны — шмат Гайдукевічаў. Судзілі іх за рознае і па сутнасьці за адно — за антысавецкую дзейнасьць і агітацыю, удзел у контррэвалюцыйных арганізацыях, шпіянаж на карысьць

Польшчы. Большасьць Гайдукевічаў былі расстраляныя ў Менскай або Чэрвеньскай турме, і толькі адзінкі атрымалі катаргу.

Рэпрэсаваных Шэйманаў у картатэцы КДБ толькі два і абодва габрэі. Сымон Майсеевіч з Капыля быў студэнтам хімфаку БДУ, у 1934-м яго расстралялі за антысавецкую дзейнасьць. А Шмерка Шмеркавіч паходзіў з Гомеля. Быў начальнікам электрастанцый Менску, жыў у цэнтры сталіцы на вуліцы Энгельса. У 1936-м «асобая нарада» асудзіла яго за контррэвалюцыйную трацкісцкую дзейнасьць і незаконнае захоўваньне зброі на 5 гадоў катаргі. Што было зь ім наступныя пятнаццаць гадоў, невядома. Але ў 1951-м ён атрымлівае новы тэрмін і ссылку, пасьля чаго апынаецца ў Краснаярскім краі, дзе працуе на Чыцінскай ЦЭЦ-9. Гэта значыць, пранёс чалавек праз усе выпрабаваньні вернасьць прафэсіі і электрычнасьці.

Натуральна, не адныя ўладныя прозьвішчы сустракаюцца ў картатэках КДБ, ёсьць і анамастыка дэмакратычнага лягера.

Вялікае мноства Пазьнякоў з самых розных рэгіёнаў Беларусі сьведчыць толькі пра пашыранасьць гэтага прозьвішча. Цікава, што Пазьнякі сустракаюцца ня толькі беларусы ці палякі, але і латышы і габрэі.

...Пазьняк Дамінік Геранімавіч, нарадзіўся ў Люцынскім павеце, латыш, з сялян, машыніст паравознага дэпо ў г. Полацк. У 1938 г. за шпіянаж на карысьць Польшчы асуджаны да ВМП. Расстраляны.

...Пазьняк Герц Беркавіч, нарадзіўся ў 1888 г. у мястэчку Ракаў Менскай губэрні, вартаўнік складоў фабрыкі «Камунарка» ў Менску. Жыў на вуліцы Рэспубліканскай 23, кв. 11. У 1935 г. за неданос аб контррэвалюцыйнай дзейнасьці асуджаны на 3 гады высылкі ў Казахстан.

Доўгае чытаньне архіўных картатэк КДБ карэктуе погляд на многія рэчы. Адно нязьменнай застаецца рэакцыя на рэпрэсіі супраць старых, дзяцей і жанчын...

...Пазьняк Алена Антонаўна, 1908 году нараджэньня, калгасьніца калгасу «Орка» ў вёсцы Коласаўшчына Капыльскага раёну Менскай вобласьці. За садзеяньне шпіянажу ў 1938 годзе асуджаная да ВМП. Расстраляная ў Слуцкай турме 25 жніўня 1938 г.

Сустракаюцца сярод рэпрэсаваных Пазьнякоў і нацдэмы, нацыянальныя дэмакраты, у чым і заключаецца іх галоўная віна.

...Пазьняк Станіслаў Іпалітавіч, 1911 году зь вёскі Юрздрыка Чэрвеньскага раёну, беларус, начальнік няведамаснай аховы сьпіртзаводу «Раванічы». У 1935 г. як член контррэвалюцыйнай нац-дэмаўскай арганізацыі асуджаны на тры гады лягераў.

Рэпрэсаваныя Мілінкевічы ў картатэцы КДБ таксама прадстаўляюць розныя нацыянальнасьці, што характэрна для гістарычнай Віленшчыны. Да прыкладу, калгасьнік з калгасу «Маяк сацыялізму» Аляксандр Вікенцевіч Мілінкевіч быў літоўцам, а расстралялі яго ў 1937-м як польскага шпіёна. Нармавальнік фабрыкі «Чырвоная зорка» ў Чашніках віленчук Язэп Аляксандравіч Мілінкевіч быў палякам. Яго ў тым самым годзе расстралялі як члена шкодніцкай групы. Зьвяртае ўвагу, што і ўсіх астатніх Мілінкевічаў з майго спісу — расстралялі.

Адзінаму ў картатэцы Казуліну «пашанцавала» крыху болей.

...Казулін Іван Аляксандравіч, нарадзіўся ў вёсцы Залогі Невельскага раёну, беларус, з сялян, меў аднаасобную гаспадарку ў вёсцы Бухава Расонскага раёну. У 1937 г. за антысавецкую агітацыю арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў папраўча-працоўных лягераў.

Шмат пра што распавядаюць прозьвішчы і лёсы рэпрэсаваных землякоў. Часам адукуюць, як, да прыкладу, мноства Шастаковічаў, якіх усіх «бралі» ў Лагойскім ды Плешчаніцкім раёнах, быццам намякаюць, што і славуты расейскі кампазытар — адсюль. Так і ёсьць. А часам зноў расказваюць пра кур’ёзы, ад якіх толькі ўсьміхнесься горкаю ўсьмешкай. Як, да прыкладу, гісторыя Гітлера, праўда, не тутэйшага, з паволжскіх немцаў. Але рэпрэсавалі яго тут.

...Гітлер Антон Якаўлевіч, нарадзіўся ў 1886 г. у вёсцы Сямёнаўка Канышаўскага павету Саратаўскай губэрні, немец, зь сялян, непісьменны, каналізатар 15 пагранатраду ў пасёлку Студзянец Заслаўскага раёну Мінскай вобласьці. У 1938-м асуджаны «тройкай» за шпіёнскую дзейнасьць на 10 гадоў лягеру.

Гэта значыць, што ўсю вайну Антон Гітлер выжываў на катарзе ў Сібіры. Можна толькі ўявіць, як яму было з такім прозьвішчам. І ці выжыў — невядома.

Іншы раз нечаканыя падабенствы ставяць у тупік, бо цяжка зразумець, што гэта — кур'ёзнае супадзеньне ці заканамерная паўтаральнасьць гісторыі. Многія памятаюць нядаўні мэдыйны сюжэт, калі студэнтку Таццяну Хому выключылі з унівэрсытэту за тое, што яна паехала за мяжу на міжнародную канфэрэнцыю. Толькі ў выпадку Таццяны Хома — гэта прозьвішча, а ў кадэбэшнай картатэцы мне трапілася Хома — імя.

...Форштэр Хома Мееравуна, габрэйка, студэнтка Менскага мэдінстытуту. У 1937 г. асуджаная за нелегальны пераход мяжы да ВМП. Расстраляная ў Менскай турме 20 лютага 1938 г.

Распавядаючы пра такі лёс, я зусім не імкнуся напальваць жарсьці альбо, крый Божа, сурочыць. Факты, супадзеньні, падабенствы быццам самі чапаюць цябе за крысо. Абярніся, падумай, якія сэнсы затоеныя ў гэтым жыцьці, што нібыта мірна плыве вакол цябе, і якім чынам гэта ўсё можа раптам выбухнуць. Як тады. Няўжо тая Хома Форштэр, што кіравалася, хутчэй за ўсё, да сваякоў у Беласток, адкуль была родам, магла дапусьціць, што толькі з-за гэтага яе...

А яшчэ згадваюцца сёньняшнія праграмы навучаньня апазыцыйнай беларускай моладзі за мяжой — у люстэркавым адбітку. Калісьці моладзь з бесчалавечнай панскай Польшчы, наслухаўшыся пра шчасьлівую краіну Саветаў, імкнулася ў Менскія ўнівэрсытэты на вучобу, а стала гумусам для ўзгадаваньня чыёйсьці абстракцыі шчасьця. Хоць бы нейкі сэнс быў у гэтых ахвярах, хоць бы хто на іх нажыўся ці замкі будаваў з трупаў...

А так... Бессэнсоўныя сьмерці безь ніякае мэты — нават самай злачыннай. Чысты абсурд.

Можа быць, таму так і не дайшло і не даходзіць да многіх нашых суайчыньнікаў тое, што адбылося. Бо нібыта і не злачынства гэта ўсё было. Ніякай карысьці нікому ад гэтага ня выпала. А значыць — як стыхійнае бедзтва, як цунамі, як тая цісканіна ў пераходзе мэтро Няміга. Ніхто не вінаваты, бо ніхто ад гэтага нічым не прыбыў.
Сталіншчына як іржавы дэтанатар абсурду ў зарадзе мінуўшчыны. Зарад мінулага можна толькі ўзарваць — абясшкодзіць. Час ад часу сродкі масавай інфармацыі паведамляюць пра такія выпадкі. Іншая рэч, што ніхто ня ведае, дзе гэтыя снарады закапаныя і колькі іх ёсьць наагул. Магчыма, знаходзіць і абясшкоджваць іх мы будзем на працягу ўсёй агляднай пэрспэктывы нашага існаваньня. І з кожным абясшкоджаным беларуская зямля будзе робіцца больш бясьпечнай для жыцьця.

## *Хто ляжыць у Курапатах?*

Адзін афіцыёзны журналіст, які імкнецца затушаваць праўду пра Курапаты, піша, што масавыя расстрэлы — гэта прыдумка беларускіх нацыяналістаў. А насамрэч расстрэльвалі ў Курапатах немцы, і расстрэльвалі галоўным чынам не беларусаў, а габрэяў, латышоў, палякаў, пра што сьведчаць знойдзеныя ў пахаваньнях рэчы, вырабленыя ў розных краінах Эўропы. Журналіст, відавочна, знаходзіцца ў палоне таго стэрэатыпу, які пасуе для расейскай гісторыі й геаграфіі, але не надаецца для Беларусі.

Па-першае, Беларусь — па іншы бок былой рысы аселасьці габрэяў, якім на тэрыторыі Расеі жыць было забаронена. Ня дзіва, што ў нашых гарадах і мястэчках габрэі за стагодзьдзі сталі паўнапраўнымі ўдзельнікамі тутэйшага жыцьця. Нямала іх і сярод рэпрэсаваных. Па-другое, у адрозьненьне ад Тамбоўшчыны ці Разаншчыны, Беларусь — край на сямі вятрах, таму тут заўсёды было шмат і палякаў, і ўкраінцаў, і літоўцаў, і латышоў, бо гэтыя народы — нашы найбліжэйшыя суседзі. Войны праз Беларусь у ХХ ст. ішлі туды-сюды, амаль не спыняючыся, межы рухаліся таксама шматразова. І, напэўна, знайсьці ў 1937-м хоць адну вясковую гаспадарку, дзе не было б якога аўстрыйскага сьцізорыка ці чэшскай пантофлі, немагчыма. Нехта езьдзіў да сваякоў, нехта на заработкі, нехта вяртаўся з вайны. Гэта ўжо потым, бліжэй да нашых часоў беларусам будзе накідацца расейскі стэрэатып аднастайнасьці ды самадастатковасьці насельніцтва паводле крыві і плякатнага «славянскага тыпу». Але да рэпрэсій і да Другой сусьветнай вайны Беларусь была зусім іншай — тым, што называюць катлом народаў і культур. Нездарма ў гэтым катле «зварылася» так шмат славутых дзеячоў польскай, расейскай, габрэйскай ды іншых нацый. Іх посьпех дадае нам гонару. А страта іх супляменьнікаў у Курапатах успрымаецца як страта сваіх, беларускіх людзей. Іх прыналежнасьць да іншых нацый ці наяўнасьць швэйцарскага гадзіньніка ў кішэні ня робіць іх для нас чужымі або экзатычнымі. Тым часам большасьць рэпрэсаваных, пра што сьведчаць справы ў архівах

КДБ, — гэта этнічныя беларусы, для якіх таксама ня быў дзівам французскі грабеньчык у кішэні ці чэшскія пантофлі на нагах.

Курапаты ня маюць дачыненьня да беларускага нацыяналізму. Гэта злачынства супраць беларускае нацыі і супраць чалавечнасьці.

Што да штучнае спрэчкі пра тое, хто і калі расстрэльваў у Курапатах, могуць быць розныя дапушчэньні, але сутнасьць справы ад гэтага не зьмяняецца. Напрыклад, дасьледчык Леанід Маракоў настойвае на тым, што ў Курапатах і падобных месцах чэкісты толькі закопвалі трупы, а расстрэльвалі — у турмах. Архіўныя справы КДБ яснае карціны гэтых злачынстваў не даюць. У кагосьці ў справе напісана — расстраляны ў Мінскай, Віцебскай, Аршанскай, Барысаўскай, Слуцкай і г.д. турме, а ў кагосьці — расстраляны ў Мінску, Віцебску, Воршы, Барысаве, Слуцку... Сутнасьць справы ў тым, што расстрэльвалі па ўсёй краіне сотні людзей, прычым кожны дзень. Гэты факт дакумэнтальна пацьвярджаюць кадэбэшныя архівы 1930-х гадоў. Пры чым тут вайна і немцы? Ясна, што сотні трупаў штодзённа трэба было кудысьці дзяваць. А паколькі іх не палілі, таму і зьяўляліся пад кожным горадам, дзе была турма НКУС, свае пахавальныя ямы — Курапаты.

Цяпер — пра самы масавы, цэнтральны сюжэт у рэпрэсіўных архівах КДБ.

Абсалютная большасьць рэпрэсаваных — сяляне. У часы хутарызацыі дваццатых гадоў яны жылі на ўласных аднаасобных гаспадарках і, як правіла, былі спраўнымі гаспадарамі. Па сёньняшніх мерках, прадпрымальнікамі. У аграрнай краіне масавы бізнэс займаўся сельскай гаспадаркай. Калі ж пачалася калектывізацыя, натуральна, што абсалютная большасьць самастойных гаспадароў не пажадала аддаць сваё нажытае майно ў калектыўны абшчак і застацца, па сутнасьці, без штаноў. Хто б сёньня на такое згадзіўся добраахвотна? І тады кожная малатарня ці кожная карова была рэальным абаротным сродкам бізнэсу сям’і. Як адабраць? Нязгодны гаспадар, зразуме-

ла, супярэчыў сваёй нязгодай лініі савецкай улады, таму за антысавецкую прапаганду ішоў у турму ці ссылку.

Вось уявіце, што да вас заўтра прыйдуць і скажуць, што рашэньнем уладаў вы павінны здаць вашу кватэру з усім майном у агульны фонд і пераехаць у барак. Ясна, вы запярэчыце, скажаце, што вы ня супраць уладаў, але так дарага вам дасталася гэтая кватэра, і не столькі пра сябе вы думалі, калі яе будавалі, а пра дзяцей. Трэба кампэнсаваць выдаткі. Але кампэнсацыі не прадугледжаныя. Увесь народ жыве няпроста. Трэба яшчэ пяцігодку ўсім нам памучыцца, а там лягчэй будзе... Не, скажаце вы, я ня згодны. У мяне і дакумэнты на кватэру... А яны ануляваныя прэзыдэнцкім указам. Ваш пратэст нарастае і вось ужо няцяжка кваліфікаваць яго як брыдкаслоўе ці хуліганства. І вы атрымліваеце 1 год калёніі. Вядома, з канфіскацыяй. Як, напрыклад, Аляксей Іванавіч Барысавец.

...Барысавец Аляксей Іванавіч, 1889 году нараджэння, беларус, селянін. Меў аднаасобную гаспадарку ў вёсцы Паўлаўка Слуцкага раёну. У 1931 г. асуджаны «тройкай» за антысавецкую агітацыю на 1 год ППЛ.

...Барысавец Аляксей Іванавіч, 1889 году нараджэньня, беларус, селянін. Калгасьнік калгасу імя Куйбышава ў вёсцы Паўлаўка Слуцкага раёну. У 1935 г. за контррэвалюцыйную агітацыю асуджаны на шэсьць гадоў катаргі ў Дзімітраўляг НКУС СССР.

Вы заўважылі, як зьмяніўся статус Аляксея Барысаўца? Быў аднаасобны гаспадар, а праз год турмы — ужо калгасьнік. Быў чалавек з майном, а стаў — безь нічога.

Ці вось — Піліп Іванавіч Ляўданскі зь вёскі Юр’ева Смалявіцкага раёну, аднаасобны гаспадар, які ў сакавіку 1931 г. быў асуджаны «тройкай» за антысавецкую прапаганду на адзін год катаргі.

Гэтая схема калечаньня чалавечага лёсу паўтараецца тысячы разоў. Калі браць самую сутнасьць справы — звычайны рабунак. У вас сілаю адбіраюць вашу маёмасьць. Злачынства? Злачынства.

Дапусьцім, праз год вы вяртаецеся з калёніі. Куды? Зразумела, да сябе дадому. А вашага дому больш няма. Няма ў вас больш кватэры... Вядома, людзі розныя. Нехта «кінецца на амбразуру», схопіць участковага «за грудкі» і зараз «загрыміць пад фанфары» на ўсе 10 гадоў катаргі, а то й пад расстрэл. Аднак большасьць, панурыўшы галаву, ішла ў барак зь перапоўненай абурэньнем душою і настройвалася чакаць, калі справядлівасьць будзе адноўленая.

Так і наш Піліп Іванавіч Ляўданскі. Пасьля адбыцьця пакараньня ён ужо не аднаасобны гаспадар, а калгасьнік калгасу «Культура» ў роднай вёсцы Юр’ева Смалявіцкага раёну. Нехта з колішніх гаспадароў станавіўся рабочым на фабрыцы ці на чыгунцы, ці проста — бяз пэўных заняткаў. Але найчасьцей станавіліся калгасьнікамі, як Піліп Іванавіч. Тыя, хто гэтую палітыку праводзіў, выдатна разумелі, што ня зьмірыцца грамадзянін Ляўданскі са стратай майна, што ня ўсім сэрцам ён адданы бальшавіцкай справе чалавек, ёсьць у ім «чарвяточынка». А значыць, калі ў 1937-м арыштоўваць пачалі ўжо паводле разнарадкі, такія, як ён, былі першымі ў чарзе. І ў кастрычніку 37-га за контррэвалюцыйную прапаганду «тройка» асудзіла Піліпа Іванавіча на 10 гадоў катаргі ў Бурляг. Бурэйскі лягер разьмяшчаўся на Далёкім Усходзе. І там 23 кастрычніка 1941 г. Піліп Іванавіч памёр.

Магчыма, сярод нашых чытачоў раптам акажацца нехта з нашчадкаў аднаасобнага гаспадара Ляўданскага зь вёскі Юр’ева. Цяпер вы разумееце, чаму дагэтуль закрытыя архівы КДБ? Ясна, што працуе карпаратыўная салідарнасьць, трэба даць спакойна адысьці тым катам і карнікам, што праводзілі рэпрэсіі. Гуманны крок. Але найперш таму, што там — сьляды аднаасобнай гаспадаркі Піліпа Іванавіча і соцень тысяч іншых рэпрэсаваных сялян, продкаў цяперашніх беларусаў.

Што за гаспадарка? Вядома, не Нафтахім. Але — гаспадарка, прадпрыемства са сваімі актывамі, запасамі, будынкамі, зямлёю, абаротнымі сродкамі... Кажаце, забытая гісторыя? Ды не забытая. І грошыкі селяніна Ляўданскага паводле закону захаваньня матэрыі шмат павялічыліся і працуюць на сілу і моц

ужо чарговае ўлады. Бо адабраная маёмасьць, а яшчэ раней — зямля — нікуды ня дзелася, яна працавала, множылася, пераўвасаблялася ў іншыя формы, яна працуе і сёньня. Уявіце, калі б увесь народ пажадаў аднаўленьня справядлівасьці, гэта пацягнула б за сабой зьмену ўсёй дзяржаўнай палітыкі. І безь ніякай ідэалёгіі. Толькі — справядлівыя кампэнсацыі за несправядліва адабранае майно.

Мы ўжо гаварылі пра суседнюю Літву, дзе пасля абвяшчэння незалежнасьці на пачатку 1990-х дзяржава адразу прыступіла да выплаты такіх кампэнсацый. У нас саму гэтую ідэю гатовыя зараз жа растаптаць перасьмешнікі з БТ ці дзяржаўных газэт. Але Бог зь імі. Галоўнае, адказ на пытаньне пра тое, чаму праз 70 гадоў пасьля рэпрэсій па-ранейшаму закрытыя архівы КДБ, мы ведаем.

## Бацькі і дзеці: эгаізм старасьці

Мы хочам жыць інакш, чым жылі нашы бацькі й дзяды, дай Бог ім здароўя і даўгалецьця. Так прыблізна разважаюць студэнты.

А мы хочам жыць так, як мы жылі ўсё сваё савецкае жыцьцё, бо мы да яго прывыклі. Так прыблізна разважаюць пэнсіянэры.

Паколькі пэнсіянэраў у Беларусі колькасна болей, чым студэнтаў, улады выконваюць пажаданьне старэйшых, і маладзейшыя жывуць у тым сьвеце, да якога прывыклі пэнсіянэры. Вось сутнасьць таго канфлікту пакаленьняў, які апошнім часам прайшоў ці не праз кожную беларускую сям’ю і выплеснуўся ўрэшце рознакаляровымі намётамі на цэнтральнай плошчы ў Менску.

У літаратуры гэтую зьяву называюць эгаізмам старасьці. Калі сьвет, якому жыць, аказваецца ў палоне сьвету, якому дажываць. Калі заўтра ператвараецца ў бясконцае ўчора. Калі пэнсіянэр дзед Вася ярасна пляскае ў ладкі афіцыйнаму курсу на міжнародную ізаляцыю краіны ня столькі ад таго, што нешта ва ўсім гэтым разумее, а таму што ў гэтым добра разьбіраецца ягоны ўнук Васіль, якому дзед Вася яўна прайграе і ў дасьведчанасьці, і ў гатовасьці да адкрытых кантактаў са сьветам. Эгаізм старасьці мае ў сваёй аснове трывіяльную і часта неўсьвядомленую зайздрасьць да маладосьці і жаданьне пакараць маладых ужо толькі за тое, што яны маладыя.

Тут важна ўдакладніць, што гаворка зусім не абавязкова ідзе пра біялягічны ўзрост. Гаворка ідзе пра жаданьне і нежаданьне перамен, пра эгаізм тых, хто існуе ў каардынатах мінулага і робіць усё, каб у гэтых каардынатах заставаліся ўсе астатнія.

Ваша вясковая бабуля можа нічога ня ведаць пра інтэрнэт, не плянаваць паездак у Эўропу і не займацца арганізацыяй бізнэсу. Але яна можа падтрымліваць свайго ўнука, які ўсё гэта ведае, плянуе і арганізоўвае, толькі таму, што яна яго любіць. Яе

ўнук — за перамены. Што ж, разважае яна, я ня мушу замінаць яму жыць. Маё пакаленьне нагаравалася, дык няхай хоць унукі пажывуць па-людзку ў адкрытай і заможнай, свабоднай краіне.

Ёсьць у Беларусі такія дзіўныя бабулі. І шмат іх. Але абсалютная большасьць іхных раўналеткаў разважаюць па-іншаму. Сапраўды, мы за жыцьцё нагараваліся і ніколі яшчэ не жылі так спакойна і без прымусу, з такім рэгулярным забесьпячэньнем-пракормам. Ну, проста рай нейкі на зямлі! Чаго яшчэ хацець? Абы толькі здароўе. Розьніца паміж развагамі першай і другой бабуль у тым, што ў думках другой няма месца для ўнука. Тым часам для ўнука бабулін «рай на зямлі» — цесны, задушны, усё больш падобны да турмы, у якой няма ні адкрытага сьвету, ні шырокай інфармацыі, ні магчымасьці разгарнуць сваю справу.

У гэтым жыцьці павінна нешта зьмяняцца. Наколькі б правільна і добра ні быў уладкаваны сьвет вакол нас, мы хочам, каб ён зьмяняўся. Каб у нас не было адчуваньня, што мы ўжо дзесяць гадоў стаім на адным месцы. Па самым вялікім рахунку, палітыка тут ні пры чым. Мы працівімся адчуваньню спыненага жыцьця. Мы за рух, а гэта і значыць — за свабоду, бо няма большае несвабоды, чым застой, і няма больш стабільнае ўстановы, чым турма. Калі не лічыць, вядома, труны.

Свабода зусім не абавязкова робіць жыцьцё больш сытым. І калі вам скажуць, што найлепшая сытуацыя ў Нарвэгіі, дык вы наўрад ці знойдзеце такога нарвэга, які б на сваё жыцьцё не наракаў зусім. Але ягоныя скаргі ня будуць пачынацца са слова — несвабода. Шчырасьцю нарвэга звычайна карыстаецца тэлевізійная прапаганда таталітарных краін — яна паказвае, як нарвэг наракае на сваё жыцьцё, чым знаходзіць спачуваньне ў сэрцах уласных грамадзян, якія ні на што не наракаюць, бо пазбаўленыя самой такой магчымасьці ў сродках масавай інфармацыі — наракаць.

Чым менш у цябе свабоды, тым менш крытычна ты глядзіш на свой быт. На вайне як на вайне, у турме як у турме.

Свабода — эфэмэрная мроя вольнага палёту — кранае сэрца незачарсьцьвелае і маладое. Не ва ўзросьце тут справа, а ў стане сэрца. Хоць найчасьцей так выходзіць, што сэрца чарсьцьвее разам з узростам. Перамен хочуць тыя, хто яшчэ ня страціў саму гэтую здольнасьць — чагосьці хацець. А паколькі ў нас гэта даецца не праз выхаваньне і адукацыю, а толькі само сабой — біялягічна — таму перамен звычайна хоча моладзь.

Недзе ў прагнозных дакладах ААН мне даводзілася чытаць пра тое, што да сярэдзіны нашага стагодзьдзя эгаізм старасьці, як зьява, будзе прызнаны і адэкватна ацэнены чалавечай цывілізацыяй. Крый Бог, бачыць у гэтым узаконеную абыякавасьць маладых да сваіх бацькоў і дзядоў. Наадварот. Толькі тады маладыя змогуць паўнавартасна клапаціцца пра старых, калі тыя ня будуць сваёй воляй паралюшаваць свабоду дзеяньняў маладых.

Мы ня хочам жыць вашымі ўспамінамі і сэнтымэнтамі, — кажуць маладыя, — мы хочам глядзець наперад, бо прыйшоў наш час уладкоўваць гэты сьвет. А вы жывіце, — настойваюць старыя, — вы БУДЗЕЦЕ так жыць, таму што вас — меншасьць і з кожным годам робіцца ўсё меней, натуральна, за кошт таго, што ўсё болей робіцца нас. Таму МЫ вызначаем парадак і выбіраем прэзыдэнта нашае старасьці і нашага эгаізму. Не зьдзіўляйцеся, што гэта кожнага разу — той самы прэзыдэнт. На апошняй пераправе каня не мяняюць.

Затарможаная цывілізацыя — вось да чаго вядзе эгаізм старасьці і што афіцыйныя менскія ўлады называюць «сваім шляхам разьвіцьця».

Найбольш выразна, на маю думку, акрэсьліў гэтую зьяву нейкі бізнэсовец-беларус, які зарабляе грошы ў Маскве. На пытаньне, за каго ён будзе галасаваць на выбарах, ён адказаў — за дзейнага прэзыдэнта. І патлумачыў: а што, мне падабаецца, што мая родная Беларусь застаецца савецкім запаведнікам. У Маскве, дзе ён мае свой бізнэс, шалёны рытм жыцьця, усё ажно віруе, і яму прыемна час ад часу прыязджаць у Беларусь, нібы ў ціхую правінцыйную затоку, нібы ў дзяцінства.

Яшчэ адзін прыклад, які вобразна тлумачыць гэты стан затарможанае цывілізацыі — голад у Афрыцы. Колькі жыву, усё чую паведамленьні пра гэты масавы афрыканскі галадамор, які не спыняюць ні час, ні санкцыі, ні гуманітарная дапамога. Ды што яны там, гэтыя афрыканцы, ня могуць сябе забясьпечыць хлебам? Хай працуюць! — сказаў бы наш сярэднестатыстычны пэнсіянэр дзед Вася. Дык вось жа — працуюць.

Вядома, ёсьць засуха, эпідэміі і грамадзянскія войны, але ёсьць і яшчэ адзін, ці ня самы галоўны фактар, што хаваецца за словам «свабода», якое ледзь ня лаянкава гучыць для многіх нашых пэнсіянэраў: што там за свабода такая, нашто нам тая свабода?! Афрыканскія сяляне зьбіраюць ураджай і здаюць яго сваім правадырам — задарма. Гэта вякамі выпрацаваная племянная традыцыя. А харчаваньне для сваёй сям'і ўжо трэба купляць за грошы, якіх, натуральна, няма. Тым часам на чарговых выбарах афрыканцы выбіраюць сабе таго самага кіраўніка, бо папросту не ўяўляюць сабе ніякага іншага парадку жыцьця, як мы ня можам уявіць сабе жыцьця праз трыста гадоў ці ў сыстэме Альфа Цэнтаўра.

Свабода распараджацца пладамі свае працы магла б пакласьці канец афрыканскаму галадамору. Але для гэтага самі сяляне павінны былі б найперш захацець свабоды. І каб іхныя правадыры тых, хто захацеў свабоды, ня кідалі ў турмы, як беларускіх студэнтаў з рознакаляровых намётаў на цэнтральнай плошчы ў Менску — пад ухвальнае ўлюлюканьне старэйшага пакаленьня.

## Біяграфія

Сяргей Дубавец, пісьменьнік, літаратурны крытык, журналіст, выдавец. Нарадзіўся 17 верасьня 1959 г. у Мазыры. Гадаваўся й вучыўся ў Менску. Скончыў журфак БДУ (1984). Служыў у войску (1978–1980). Удзельнік аб’яднаньня Беларуская Майстроўня (з 1980). Выдавец нефармальных часопісаў «Люстра дзён» (1980), «Бурачок» (1986), «Кантроль» (1988), «Літаратура» (1999) і інш.

Працаваў у выдавецтве БелСЭ (1984), газэце «Гомельская праўда» (1984–1987), часопісе «Нёман» (1987–1990). Галоўны рэдактар газэт «Свабода» (1990–1991) і «Наша Ніва» (1991–2000), радыё «Балтыйскія Хвалі» (2000–2001), аўтар перадач на Радыё Свабода (з 1997).

Выдаў кнігі: «Практыкаваньні» (1991), «Русская книга» (1997, другое выданьне 2009), «Дзёньнік прыватнага чалавека» (1998), «Вострая Брама» (2005), «Вершы» (2007), «Як?» (2009), «Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду» (2012). Электронны адрас: dubaviecs@gmail.com.

У серыі **«Бібліятэка «Беларускі калегіюм»** выйшлі:

**Віталь Сіліцкі** «Адкладзеная свабода»
**Алесь Анціпенка** «Быць (пры)сутным»
**Сяргей Харэўскі** «ПраЧутае»
**Валер Булгакаў** «Беларусь 1994–2004 гг.: разбудова дзяржавы і перасьлед нацыі»
**Алесь Смалянчук** «Беларуская гісторыя: знайсці чалавека»
**Юр Пацюпа** «Анонс: квадрат тэкстаў»
**Адам Глобус** «Імёны: літаратурныя партрэты»

